







У рэдакцыю прадаўжаюць пастунаць здымкі на конкурс. Многія фотааматары просяць прадоўжыць конкурс да Усебеларускага фестывалю моладзі. Улічваючы гэтыя просьбы, рэдакцыя прадоўжыла конкурс да 15 красавіка. Сёння мы друкуем чатыры здымкі. Фотаздымак «Кармёжка галубоў» прысланы майстрам спорту Я. Новікавым; Антон Свідэрскі з Магілёва даслаў здымак «Індустрыяльны пейзаж»; два астатнія здымкі зроблены Ю. Лысковым з горада Магілёва (на першым: дзеці адсылаюць бабульцы на поўнач пасылку, на другім Ю. Лыскоў даволі ўдала сфатаграфаваў галаву аленя.)

На першай старонцы вокладкі: **Плакат работы мастака Е. Змітровіча.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **У дзіцячым садзе № 64 г. Мінска. Інжынер-канструктар завода імя Чкалава Р. Фрыдлянд і адказны сакратар мастацка-тэхнічнай камісіі па дзіцячых цацках пры Дзяржплане БССР А. Брыт знаёмяць дзяцей з новымі цацкамі, якія зацверджаны да выпуску ў гэтым годзе.**

Фото А. Дзітлава.



«З Новым годам!» Фота А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V

Студзень

№ 1(46)

1957




**Мінуў 1956 год. Пройдзена яшчэ некалькі прыступак па шляху да комунізма. За гэты год народы совецкай краіны дасягнулі новых поспехаў у развіцці эканомікі і культуры.**
**Калгаснікі сельгасарцелі імя Варашылава Глыбоцкага раёна Маладзечанскай вобласці Новы год сустракалі ў новым клубе, які яны летась пабудавалі. Такія клубы пабудаваны ў многіх калгасах.**

# НАША ПАКАЛЕННЕ

**Іван ГРАМОВІЧ**

За працай асабліва непрыкметна мінаюць гады. Дзень за днём бяжыць і бяжыць, і кожны год застаецца, нібы кілометравы знак за плячыма. А наперадзе ўсё новыя далягляды.

Студзень 1957 года мы спаткалі звычайна. Ён прышоў, як з года ў год прыходзіць і праходзіць аснежаная, марозная зіма. І толькі, азірнуўшыся назад, акінуўшы вокам тое, што здзейснена ў нашым доме, успомніўшы ўсё перажытае, можна адчуць і ўявіць тую характэрную адзнаку, якая прыкметна ляжыць на вобліку гэтага новага года.

Самай важнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што ў кастрычніку споўніцца сорак год, як адбылася Вялікая соцыялістычная рэволюцыя. Гэта амаль поўвека прайшло з таго часу, калі нашы бацькі ўзялі ўладу ў свае рукі. Наша краіна з'явілася першай у свеце краінай, дзе перамаглі рабочыя і сяляне. Тыя незабыўныя гістарычныя дні мы адзначаем штогод.

Мы не ўдзельнікі, нават не сведкі Кастрычніцкіх падзей з тае простай прычыны, што былі тады яшчэ ў калысцы. За наш лёс змагаліся, пралівалі кроў старэйшыя нашы, бацькі і маткі. Як гэта было, як яны біліся з панамі і буржуямі, нібы казку, потым яны апавядалі нам. А мы слухалі і раслі, даношваючы іх будзёнаўкі з пяцікутнымі зоркамі, ганарыліся прышытым гузікам у світцы, які прынёс бацька з фронта грамадзянскай вайны...

Далёкае босае маленства нашага пакалення, якому тады наканована, суджана было стаць шчаслівым, сапраўдным гаспадаром свайго жыцця!..

Я запомніў навек тую гадзіну, калі першы раз прышоў на урок у школу і настаўнік нам, вясковым дзецям, паказаў партрэт Леніна. Будынка школы ў нас яшчэ не было—мы вучыліся па хатах, і партрэт пераносілі з аднае хаты ў другую. Ленін з намі наведваў кожную хату ў сяле.

З яго імем мы раслі, з ім звязана ўся наша грамата, якую тады мы пасцігалі. Гэта яго словы — вучыцца, вучыцца і вучыцца — напамяць завучвалі мы. Гэты дэвіз Вялікага Леніна зрабіў з нас тых, якімі мы ёсць.

Цяжка прыгадаць тую грань, калі нам прыспявалася песня «Ззяйце агнямі, сінія ночы» і стала па душы «Мы маладая гвардыя рабочых і сялян». Чырвоныя гальштукі адцвілі на нашых грудзях — мы падраслі. Так непрыкметна надыйшло гарачае юнацтва.

Помніцца толькі адно, што пасля сярэдняй школы для нас было даступна ўсё. У марах мы былі вышэй за аблокі на майскім небе. Мы выбіралі сцежку ў жыццё кожны па свайму густу. І кожны, хто пачынаў свядомы шлях,— ці браўся за руль трактара, ці з бацькам ішоў да станка на завод, ці падаваў заяву ў авіяцыйнае вучылішча, ці ехаў у бліжні горад, каб пазнаёміцца з таўсцейшымі кніжкамі, — кожны меў на тое здольнасць. Нашым здольнасцям, як і нашым жаданням, не было меж.

Вядома, былі сярод нас розныя падлеткі. Мы надта верылі таму, што нам казалі. Праз гэта некаторыя з нас раслі не толькі залішне даверлівымі, але і бяспечнымі. Некаторыя з нас былі на шмат чым гатовым, жылі за спіною ў бацькоў. А гэта горкім адрыгалася пры цяжкіх выпрабаваннях, дзе патрэбна было самастойнае рашэнне задач. Як кажуць, — няма дабра без ліха.

Нас гартаваў комсамол. Калі нас прымалі ў Ленінскі Саюз Моладзі, нам не было чаго гаварыць у сваёй біяграфіі, бо яна толькі пачыналася.

Пачыналася наша непарушная дружба, бо на тым-жа сходзе, дзе адбываўся прыём у комсамол, прысутнічалі равеснікі-браты рускія і украінцы, казахі і ўзбекі. Наша дружба мацнела ў працы і вучобе.

Нялёгка было працаваць і вучыцца. Мы помнім першыя большэвіцкія вёсны на калгасных палетках, дзе бацькам дапамагалі сеяць пшаніцу, помнім духмяны кавалак хлеба на першы працадзень. Мы палюбілі свой калектыў і калектыўную працу і гэтым будзем ганарыцца да скону дзён.

Старэйшыя на гады два-тры нашы сябры будавалі Комсамольск-на-Амуры, Чэлябінскі трактарны, шахты Данбаса, і нам сніліся іх пуцёўкі, нас клікалі цягнікі далёкіх станцый.

Комсамол і палымяныя передавіцы бацькоўскіх газет заклікалі нас хутчэй стаць інжынерамі, настаўнікамі, падняцца ў стратасферу, пакарыць Поўночны полюс.

Мы насілі на грудзях значкі: «Гатоў да працы і абароны», «За авалоданне тэхнікай»... Шмат было іх, нагрудных адзнак, сімвалізуючых імкненні нашага неспакойнага, маладога сэрца.

У партыю мы ўступілі на вайне. Хачу быць комуністам! — пісалі мы ў тыя трывожныя дні Вялікай Айчыннай вайны. Вораг парушыў наш мірны спакой, настала хвіліна, каб мы падняліся і сваімі грудзьмі абаранілі Радзіму, абаранілі заваёвы бацькоў. І мы даказалі ворагу, на што здольны мы — салдаты. Ці то на адказных франтавых напрамках баёў, ці то ў тылу ворага ў партызанскім лесе — равеснікі Кастрычніка былі на сваім месцы. Званнямі Герояў уславіла многіх з нас Радзіма.

Так прыйшла да нас мужнасць і сталасць.

А шчасце — шчасце чакала нас пасля перамогі. Мы павінны былі перамагчы і перамаглі.

Аднавіліся гарады і калгасы, выраслі новыя заводы і фабрыкі. Аднаўленае жыццё — жыццё нашага пакалення... Ужо і нас клічуць сёння: «тата», «мама»...

Нашы бацькі некалі не насілі піонерскіх гальштукаў, а мы насілі. У нас ёсць што, як эс-

Гаманлівы, грукатлівы цэх стаў для Тані Сімчук другім родным домам, яе стыхіяй, без якой яна нават не магла ўявіць сябе. Звычайна Таня, выйшаўшы з цэха, даходзіла да маста і там, дачакаўшыся аўтобуса, ехала дахаты. Сёння яна вырашыла прайсці пешшу. Што было прычынай такога жадання, Таня нават сама добра не ведала. Бывае-ж часам так: нахлынуць на чалавека думкі, і іх абавязкова трэба передумаць на адзіноце, прыйсці да нейкага вываду, да нейкага рашэння. Сёння-ж думак была поўная галава...

Таня ўзыйшла на мост. Насустрач трапляліся рэдкія пешаходы. Яны некуды спяшаліся, кожнага з іх вёў свой пільны клопат. А Тані чамусьці не хацелася нікуды спяшацца, і яна, узлакаціўшыся на парэнчу, пачала глядзець на Нёман. Любіць яна гэтую родную быстраплынную раку... Унізе, у глыбокай бездані — белыя барханчыкі невялікіх крыг. Цішыня навокал такая, што, здаецца, яе самую можна пачуць. Раптам у гэтую цішыню нешта ўплялося, і Таня пачула сцішаныя крокі.

— Таня, чаго гэта ты тут стаіш?

Дзяўчына абярнулася і пазнала сваю сяброўку Элеанору Новікаву. Яны разам скончылі змену, разам выйшлі з цэха, і Таня была ўпэўнена, што Элеанора пайшла дадому. Таму замест адказу на сяброўчына запытанне яна сама запытала:

— Я вядома чаго — дахаты іду... А ты вось чаго на чужой дарозе?

— Я... я... — замялася Элеанора.— Ды мы, напэўна, па адной прычыне з табой тут. Ты, мусіць, таксама чакаеш яго?

Таня не ведала, каго мела на ўвазе Элеанора. Але ў такі сцішны, не вельмі марозны вечар не грэх было-б кожнай дзяўчыне каго-небудзь чакаць. Таня нікому і ніякага спатканння не прызначала, і ёй зараз стала неяк не па сабе — у апошні час яна прыкметна адбілася ад сваіх сябровак і сяброў. Нават маці гэта прыкмеціла і часам бурчэла на дачку, што з-за гэтых школ ды сходаў яна ў дзеўках застанецца.

— Дык хадзем,— азвалася Элеанора,— чаго ты тут будзеш стаяць... Я цябе правяду трошачкі.

— Эх ты, табе таго клопату хіба толькі ля станкоў, — ці то дакарала, ці то зайздросціла сяброўцы Таня.— А мне вунь колькі яго... Гэта-ж сёння зранку хадзіла на Падольную вуліцу.

— А чаго ты туды хадзіла? — запытала Элеанора.

— Разумееш, бюракратызму, бяздушнасці ў нас яшчэ колькі хочаш. Іншы раз як нагледзішся ды наслухаешся, дык душа баліць. Каб прымеў — усё сваімі рукамі перарабіў-бы,

# Далягляды Таццяны Сімчук

сваім одумам перайначыў, каб людзям святлей і весялей на свеце жылося.

— Дык што там такое? — не цярпелася Элеаноры.

— А вось што. Там жыве бабулька Панасевіч Стэфа. Яна ўжо ледзь ходзіць, старая такая. Дачка яе з мужам у часе вайны загінулі. Засталася ўнучка. Цяпер ёй чатырнаццаць гадоў. Толькі тае і радасці ў бабулькі, што ўнучка... Бабулька неяк кароўку сабе агорала, з якое яны з унучкай жывуць і кормяцца. А нашы бюракраты падстрыглі бабульку пад адну з усімі грабёнку — на карову на тую наклалі і падатку, і малака гэтак-жа, як і ўсім. Дык вось бабулька папрасіла мяне, як дэпутата, памагчы ёй. Стаю от зараз і думаю аб гэтым.

— А я думала, ты каго чакаеш,— збітая з панталыку, сказала Элеанора і заспяшалася развітацца з Таняй.

А ў Тані і сапраўды цяпер было клопату больш, як трэба маладой дзявочай галаве. Яна нават у апошнія часы неяк спахмурнела. Аж вочы яе неяк паглыбелі. Праўда, ад гэтага твар дзяўчыны зрабіўся яшчэ больш прывабным. Але-ж маці, якая з дачкі не спускала вачэй, заўважыла гэта і ўжо не давала ёй збыту, што яна схуднела, пабляжэла.

...Пад нагамі парыпвае зашэрхлы пад лёгкім марозікам снег. У паветры, як тапаліны пух, кружацца сняжынкі. Гэтак лёгка дыхаецца, думаецца на такім свежым, зімовым паветры. Але на душы ў Тані не спакойна. Яе абурае выпадак з яе сяброўкай, лепшай ткачыхай камбіната Лідай Паслядовіч. Таня спачатку не зразумела брыдкасці ўчынку ткачыхі Ермаковай, якая, каб апраўдаць сваю бяздзейнасць, нежаданне працаваць як мае быць, пачала плявузгаць на Ліду, ды і на яе, Таню, што, маўляў, іх паставілі на лепшыя станкі, даюць ім лепшую пражу, дык яны і перавыконваюць план.

— Добра ім,— казала Ермакова,— калі ў іх такія станкі, што нават калі-б не хацеў, дык план выканаеш, а ў мяне зломкі нейкія!

Ліда не ўтрымалася і заявіла перад усімі:

— Калі ты такая разумная, дык станавіся за мае станкі, а я за твае, і паглядзім, хто больш вытча.

Гэтак і зрабілі. А тыдні праз два Ліда на «зломках» Ермаковай перавыканала план, як і на сваіх ранейшых станках.

**Раман САБАЛЕНКА**

Цяпер-бы, канешне, Таня дала добрую прачуханку Ермаковай, яна навучылася прынцыповасці і патрабавальнасці. Адчулі гэта і камсамольцы. Нядаўна на камітэце комсамола разглядаўся ўчынак комсамолкі Надзі Чэрныш, якая, каб самой выйсці ў перадавыя, паперасоўвала на станках сваіх сяброўак грузы. З-за гэтага тканіна пайшла рэдкая і ў сукнавалцы моцна садзілася. Дзяўчаты не выконвалі норму, а яна, Чэрныш, перавыконвала і ў сваёй брыгадзе заняла першае месца па выкананню плана і па якасці прадукцыі. Нядаўна толькі выявілася гэтая махінацыя Надзі Чэрныш. Комсамольцы асудзілі гэтакі нетаварыскі, эгаістычны ўчынак.

Тады, на камітэце, Таня Сімчук паднялася з месца, зірнула на сцяну, дзе вісела чырвонае палотнішча лозунга, і ўпоўголаса прачытала яго:

Комунізм — гэта маладосць свету
І яго будаваць маладым.

— Дык хіба гэтакія, як Надзя Чэрныш, могуць будаваць сваімі рукамі комунізм, калі ў іх у душы варушацца чарвякі таго самага капіталізма, які нявечыць чалавека.— Таня на момант задумалася, як-бы збіраючыся прыняць сваё рашэнне і пасля паўзы гнеўна выгукнула:

— Я прапаную за ашуканства таварышаў, за чэрствы эгаізм выключыць Надзю Чэрныш з комсамола...

...Да ткацкіх станкоў, на якіх працуе Таня, нядаўна падыйшоў па-вайсковаму падцягнуты, немаладых год чалавек. Таня не чула, што ён казаў, бо ляскалі чаўнакі. Гэта было якраз да перазменкі, і Таня ведала, што хвілін праз колькі станкі спыняцца, тады можна будзе і пагаварыць.

— Ты ведаеш, што ў наступную сераду будзем прымаць цябе ў члены партыі? — звярнуўся да ткачыхі сакратар партбюро Рыгор Ануфрыевіч Філімонаў.

— От толькі ад вас чую,— адказала Таня.

— Дык падрыхтуйся.

— Я заўсёды гатова,— адказала бадзёра Таня, хоць у самой нешта варухнулася ў сярэдзіне — ці то трывога, ці то радасць.

І вось Таня Сімчук стаіць перад сталом прэзідыума партыйнага сходу. Яна хацела расказваць сваю біяграфію, але нехта з комуністаў сказаў:

— Не трэба расказваць. Яна тут на камбінаце вырасла... Мы ўсе яе ведаем.

І сапраўды, Таня на камбінаце вырасла.

Таня Сімчук прышла на чарговыя заняткі ў пазменную школу. Яе выклікалі на ўроку фізікі, і яна адказала на «выдатна».




тафету, перадаць сваёй змене. І мы гэта зробім, як зрабілі для нас нашы бацькі. Яны пачалі Вялікую Кастрычніцкую соцыялістычную рэвалюцыю, а мы яе прадаўжаем.

Нам цяпер сорак гадоў.

Найбольшы, але пасільны цяжар трымаюць нашы плечы.

Наша пакаленне нясе асноўную службу.

І гэта натуральна, так і трэба, так павінна быць. У сям'і-ж заўсёды гэтак: пакуль расце сын, бацька нясе ўсю ношу за ўсіх — вучыць дзяцей, рыхтуе змену. Стане бацька дзедам, і тады ён з унукам паабапал крыла, адзін на схіле, другі на ўздыме, лістаюць старонкі новага календара. А крыло, што ў зеніце,— туга напята, як ветразь, і плынь жыцця, як хвалі магутнай ракі, дужа і цяжка падаюць на тую турбінную лопасць, якая падставіла сваю шчаку... Каб гарэла святло, каб ішло жыццё!..

Так яно і ёсць, так яно і будзе заўсёды.

Мы на такім узвышшы сёння, адкуль відаць запаветная будучыня чалавецтва.

Дык слава нашай бацькоўскай, роднай Комуністычнай партыі — рулявому нашага пакалення!

Дзесяць год назад яна прыйшла ў цэх пятнаццацігадовай дзяўчынкай. Але ёй усё-ж хацелася расказаць хоць колькі слоў пра бацькоў — пра тое, як гібелі яны ў часы белапанскага панавання. як змагаліся ў часы фашысцкай акупацыі. Але пра гэта таксама, мусіць, усе ведалі...

Старшыня сходу папрасіў камуністаў выказаць сваю думку. Першай узяла слова член партбюро, дырэктар пазменнай школы, у якой вучыцца Таня Сімчук, Аляксандра Пятроўна Бабкова.

— Сімчук — добрая работніца. Наш калектыў паслаў яе сваім дэпутатам у Вярхоўны Совет БССР!

Таня слухала гэта і нават чырванела, ёй здавалася, што яе незаслужана хваляць. Але вось яна ўбачыла, што твар Аляксандры Пятроўны пасуровеў, і дзяўчына заўважыла на ім такі выраз, які яна часта бачыла ў маці, калі тая за што-небудзь дакарала.

— Але для камуніста гэтага яшчэ мала,— працягвала Бабкова.— Камуніст гэта чалавек, які ўбірае ў сябе ўсё лепшае, каб быць больш карысным для агульнай нашай справы. А вось таварыш Сімчук, трэба тут шчыра сказаць, не вельмі вялікая ахвотніца да вучобы... Яна адстае ў школе па матэматыцы, рускай мове.

Таня гэта сама ведала. Яна ў думках шукала апраўдання: на ўсё, маў, нехапае часу. Аднак гэтае апраўданне не прынесла ёй заспакаення. А тым часам слова папрасіла старая камуністка, работніца АТК Зінаіда Ульянаўна Клейф. Яна падтрымала выступленне Бабковай, і Таня зразумела, што адставанню яе ў вучобе няма і не можа быць ніякага апраўдання. Дзяўчына загарэлася ад сораму. Здавалася, што бялявыя валасы яе аж пачырванелі. І яна сказала камуністам:

— Я абяцаю, таварышы, што буду вучыцца так, каб паказаць прыклад усім вучням пазменнай школы.

І ўсе паверылі. Паверылі таму, што гэтая дзяўчына ніколі не здраджвала свайму слову. Калі абавязвалася выканаць план, дык выконвала яго як мае быць, калі бралася што-небудзь зрабіць, як дэпутат, як камсамольскі актывіст, дык рабіла, як кажуць, з агеньком, з усёй шчырасцю маладой душы. Таму усе камуністы, што прысутнічалі на сходзе, аднадушна прагаласавалі за тое, каб Таня Сімчук стала членам іх дружнай камуністычнай сям'і.

Добра на душы ў чалавека, калі ён дасягнуў таго, пра што думаў, марыў. Хораша было на душы ў Тані, калі пасля партыйнага сходу яе віталі камуністы, асабліва калі да яе падыйшоў сакратар камітэта камсамола Міхась Купрашэвіч і, паціснуўшы руку, жартам сказаў:

— Толькі-ж ты не зазнавайся, Танюша, не забывай нас, камсамольцаў, той сям'і, у якой ты вырасла.

— Дзівак ты,— адказала яму Таня.— Хіба можна забыць сваю родную сям'ю?

Хораша жыць і працаваць Тані поплеч з такімі, як Элеанора Новікава, як Ліда Паслядовіч, як юнак Альберт Сімановіч. З гэтым хлопцам у Тацяны асаблівыя, адменныя адносіны. У леташнім годзе ён з бацькамі вярнуўся з далёкай чужыны, з аргенцінскай сталіцы — Буэнос-Айрэса. Туды іх калісьці загнала галеча, беспрасветная нэндза. І радасна было глядзець, што хлапчук, як тое дрэўца, пасаджанае ў родную зямельку развіваецца, пускае глыбокае карэнне пад ласкавым сонцам Радзімы. І хоць Альберт нарадзіўся ў далёкім Буэнос-Айрэсе, тут, у Гродна, ён адчуў не толькі цеплыню роднай зямлі, але і шчырасць чалавечых адносін. І ў гэтым яму дапамагла Таня Сімчук. Яна была першай яго настаўніцай, першай старэйшай сяброўкай, першай дарадчыцай. Цяпер у Альберта на грудзях гарыць, як ясная зорка, камсамольскі значок.

У гэты вечар хораша на душы ў Тані Сімчук. Мінулы год многае ёй даў: яна стала членам вялікай партыі Леніна, яна, як ніколі, з захапленнем выконвала абавязкі народнага выбранніка — дэпутата Вярхоўнага Совета БССР; яна на вытворчасці заваявала яшчэ большыя вышыні; яна ў школе з настойлівасцю авалодвае асновамі навук, каб стаць сапраўдным камуністам, узброеным не толькі практычным вопытам, але і тэарэтычнымі ведамі. А ўперадзе вунь яшчэ якія далягляды. Там недзе жыве яе мара стаць інжынерам і яшчэ больш прыносіць карысці свайму роднаму прадпрыемству, сваёй маці-Радзіме. І гэта здзейсніцца, гэта будзе, бо ў такіх людзей, як Таня Сімчук, усё збываецца.

**Гродзенскі тонкасуконны камбінат.**




## ЛЕПШАМУ МАЛАДОМУ ЖЫВЁЛАВОДУ

**Сельская моладзь рэспублікі дружна ўключылася ў сацыялістычнае спаборніцтва за далейшае развіццё і павышэнне прадукцыйнасці грамадскай жывёлы. На жывёлагадоўчыя фермы прышла новая маладая сіла — 8 тысяч членаў ВЛКСМ. У многіх калгасах створаны камсамольска-маладзёжныя брыгады, ёсць такія фермы, дзе ўсе жывёлаводы — камсамольцы. Цяпер у жывёлагадоўлі працуе 24500 членаў ВЛКСМ. Так адказвае моладзь на рашэнні XX з'езда КПСС.**

**ЦК ЛКСМ Беларусі сумесна з Міністэрствам сельскай гаспадаркі БССР падвялі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва камсамольскіх арганізацый і моладзі рэспублікі за павелічэнне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі ў 1956 гаспадарчым годзе. Пераможцамі ў спаборніцтве сярод раённых камсамольскіх арганізацый прызнаны: Мінская, Кіраўская, Гомельская, Глыбоцкая, Слуцкая і Карэліцкая камсамольскія арганізацыі. Ім прысуджаны пераходныя Чырвоныя сцягі ЦК ЛКСМБ і Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР і грашовыя прэміі. Сярод калгасных камсамольскіх арганізацый пераможцамі прызнаны пярвічныя арганізацыі калгасаў «Комінтэрн» Магілёўскага раёна, «Рассвет» Кіраўскага раёна, імя Гастэлы і імя Крупскай Мінскага раёна, «Запаветы Леніна» Давыд-Гарадоцкага раёна, «Першае мая» Слуцкага раёна, якім таксама ўручаны пераходныя Чырвоныя сцягі і грашовыя прэміі.**

**Упершыню ў рэспубліцы ўведзены ганаровыя званні «Лепшая маладая даярка Беларусі», «Лепшая маладая свінарка Беларусі». Гэтыя ганаровыя званні прысуджаны лепшым даяркам, якія атрымалі ад замацаваных кароў самыя высокія надоі малака; дзесяці свінаркам, якія дамагліся самых высокіх паказчыкаў у вырошчванні парасят і адкорме свіней. Яны занесены ў Кнігу гонару ЦК ЛКСМ Беларусі, узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ, Ганаровай граматай Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР і нагрудным значком ЦК ЛКСМБ — «Лепшаму маладому жывёлаводу».**

**Нагрудны значок «Лепшаму маладому жывёлаводу» зацверджаны ўпершыню. Гэтым значком, згодна ўмоў сацыялістычнага спаборніцтва, ЦК ЛКСМ Беларусі ўзнагароджвае юнакоў і дзяўчат, якія дамагліся найбольш высокіх паказчыкаў у развіцці грамадскай жывёлагадоўлі:**

**даяркі, якія надаілі ад кожнай замацаванай каровы не менш 2 500 кілаграмаў малака ў год;**

**свінаркі, якія атрымалі ад кожнай свінаматкі не менш 16-ці парасят ці адкармілі не менш 50-ці свіней у год;**

**цялятніцы, якія выгадавалі поўнасцю ўвесь атрыманы маладняк;**

**конюхі, якія дабіліся добрай укормленасці і працаздольнасці ўсіх замацаваных коней;**

**пастухі, якія поўнасцю захавалі свой статак і дамагліся высокіх удояў і добрай укормленасці жывёлы;**

**аўчары, якія атрымалі за год прыплод з разліку па 110 ягнят ад ста аўцаматак ці воўны па 4 кілаграмы ад кожнай авечкі;**

**птушніцы, якія атрымалі за год па 140 яек ад кожнай курыцы-нясушкі;**

**маладыя калгаснікі, якія вызначыліся ў працы па нарыхтоўцы кармоў, вырошчванню кукурузы і іншых кармавых культур;**

**сакратары камітэтаў камсамола, групоргі, загадчыкі жывёлагадоўчых ферм, якія забяспечылі актыўны ўдзел камсамольцаў у развіцці грамадскай жывёлагадоўлі.**

**Нагрудным значком «Лепшаму маладому жывёлаводу» ўзнагароджана вялікая група маладых жывёлаводаў рэспублікі за поспехі, дасягнутыя ў сацыялістычным спаборніцтве ў 1956 гаспадарчым годзе.**

**Справа гонару сельскіх камсамольцаў рэспублікі — у новым, 1957 годзе яшчэ шырэй разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва маладых жывёлаводаў за новыя поспехі ў развіцці грамадскай жывёлагадоўлі.**

**Ул. НАВУМОВІЧ,**
**намеснік загадчыка аддзела камсамольскіх арганізацый ЦК ЛКСМ Беларусі.**



Сакратар камітэта камсамола камбіната Міхась Купрашэвіч сустрэўся з Таняй Сімчук у бібліятэцы камбіната. Яны прышлі сюды з адной мэтай: рыхтавацца да ўрокаў.



Таня Сімчук, як дбайная настаўніца, вучыла складанай прафесіі ткача Альберта Сімановіча.



**Студэнтка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Марына Стурніцкая.**
Фото А. Дзітлана.

# ДАЛЁКАЎСХОДНІЯ АПАВЯДАННІ

Мал. Я. Ціхановіча.

**Рэдакцыя часопіса «Маладосць» звярнулася да сібірскіх і далёкаўсходніх аддзяленняў Саюза пісьменнікаў СССР з просьбай прысладзь апавяданні і нарысы аб жыцці і працы савецкіх людзей — сібіракоў і прымарцаў.**

**Ніжэй мы друкуем апавяданні далёкаўсходняга пісьменніка Георгія Халілецкага, прысланыя па нашай просьбе.**

**Георгі ХАЛІЛЕЦКІ**

## ДВОЕ ІДУЦЬ ПА ВУЛІЦЫ

Яны ідуць наперадзе нас.

Ён нясе вялізны чамадан у шэрым чахле, яна — кардонку, перавязаную істужкай, і «авоську» з рэшткамі дарожнага харчу. Часад-часу ён спыняецца, каб перамяніць руку. Шэры фетравы капялюш яго з'ехаў на патыліцу, твар ні то сярдзіты, ні то проста заклапочаны.

Спыняецца і яна, і мы бачым яе тонкі профіль, завіткі валасоў, што выбіваюцца з-пад какетлівага бярэціка, і вочы — вялікія, расшыраныя ад здзіўлення.

— Ой, якая краса! — усклікае яна і паказвае на двухпавярховы дом; фасад яго ўпрыгожаны вылепленымі фігуркамі кошак і сабак, якія гуляюць з мячыкам.— Што гэта?

— Гэта? — перапытвае ён і трасе знямелай рукой.—Гэта дзіцячы сад. Па-мойму, няцяжка здагадацца.

— А вунь там, далей? Бачыш, домік з вежай.

— Нічога сабе «домік» у пяць паверхаў,— усміхаецца ён.— Гэта тэхнікум. Хутка тут інстытут будзе.

— А там, далей, мабыць,— тэатр?

— Угу.

— Ты бываў там? Добрыя артысты?..

Ён зноў прыпыняецца і папраўляе капялюш.

— Пакуль няма ніякіх. Ды што ты хочаш,— у яго словах адчуваецца дрэнна замаскаваная раздражнёнасць.— Гэты-ж горад маладзейшы за нашу Аленку. Ёй колькі? Шэсць? Бачыш, а яму і пяці яшчэ няма.

Ён заклапочана глядзіць на гадзіннік і зноў бярэцца за ручку чамадана.

— Нам трэба спяшацца. У тры гадзіны ў мяне вытворчая нарада... Камінскі і так адпускаць не хацеў...

Але яна не чуе яго, яна з захапленнем аглядаецца па баках.

— Ведаеш, я ніяк не магла ўявіць сабе, што гэты ваш Ангарск — такі прыгажун. Ну, думала, рабочы пасёлак, баракі, гразь. А тут... І галоўнае дзе?.. У глухой, непраходнай тайзе...

— Я-ж пісаў табе,— памяркоўна напамінае ён.— Гэта навічку тут здаецца ўсё дзівам, а нам, старажылам...

— Ух, ты, старажыл з трохгадовым стажам,— весела перабівае яна і, узяўшы авоську ў левую руку, правай лёгенька і любоўна тузае яго за каўнер.

— Пусці,— няўпэўнена адхіляецца ён, хоць, здаецца, яму гэта падабаецца.— Пусці, цяжка-ж. Ты ў свой сундук, мабыць, поў-Масквы нагрузіла.

— Так ужо і поў-Масквы!

І зноў яна яго не чуе, з цікавасцю аглядаецца навокал і няспынна паўтарае:

— Якая прыгажосць!

Горад сапраўды цудоўны. Прамыя, строгія лініі праспектаў. Шасціпавярховыя дамы, пафарбаваныя ў мяккі крэмавы і светла-салатавы колер і ўпрыгожаныя статуямі, барэльефамі на фасадах, падобны на казачныя палацы. Гіганцкія сосны і кедры, верхавіны якіх здаюцца зялёнымі да чарнаты, выглядаюць маленькімі побач з гэтымі палацамі. Блішчыць нядаўна паліты асфальт, ціха шапацяць маладыя дрэўцы на газонах, лёгкі ветрык даносіць з ускраін густы, смалісты пах недалёкай тайгі.

Двое, што ідуць наперадзе нас, спыняюцца ўсё часцей, таму што ёй абавязкова патрэбна нядоўга, хоць хвілінку, пастаяць ля акна парфюмернага магазіна, пагладзіць па галаве хлапчука, які бяжыць насустрач, распытаць, якія гэта кветкі садзіць на клумбах нізенькі, нетаропкі стары садоўнік.

Яе спадарожнік усё часцей паглядае на гадзіннік і становіцца зусім хмурым. Нарэшце яна заўважае гэта і з нечаканай рэзкасцю ў голасе пытаецца:

— Ну, чаго ты ўвесь час на гадзіннік глядзіш? Ты што, незадаволены, што я прыехала? Дык скажы...

— Я? Незадаволены? — ён нават прыпыняецца: так яму крыўдна гэта чуць.— Ды ці ведаеш ты...

Але тут-жа суха гаворыць:

— А наогул, калі шчыра сказаць, ты ўсё-такі крыху неразумна зрабіла. Я-ж табе пісаў: пачакай. Адмовіцца ад вакансіі ў інстытуце, ад кватэры, і дзе — у Маскве!

— Вакансія... У Маскве...— паўтарае яна, гатовая вось-вось расплакацца.— І гэта гаворыш мне ты — ты, хто кінуў усё-ўсё ў той-жа самай Маскве.

— Я — іншая справа,— ужо лагодна пярэчыць ён.— Я не мог сюды не паехаць. Ты сама ведаеш, у мяне тут работа.

— А ў мяне больш! — усклікае яна.— Работа і ты!

— Даруй мне! — ціха гаворыць ён.

Падобна, што наступае ўзаемнае разуменне бо праз некалькі хвілін яна ўжо спыняецца каля велізарнай вітрыны мэблевага магазіна.

— Глядзі, глядзі! Які гарнітур! На цэлую кватэру. Ты хочаш мець такі?

І тады ён асмельваецца сказаць тое, ад чаго пакутаваў усю дарогу. Ён дастае партсігар, закурвае і, гледзячы некуды ўбок, гаворыць з засмучонай рашучасцю:

— Бачыш ты... Для мяне цяпер гэта зусім непатрэбная штука. Справа ў тым, што я... Ну, адным словам, хутка паеду адсюль..

— Ты?! — Дзяўчына здзіўлена глядзіць на яго.— Ты, хто распісваў мне вернасць гэтаму таежнаму гораду?..

І столькі пагарды ў яе голасе, што нават нам становіцца не па сабе.

— Ды не, ты мяне не зразумела,— раптам весела гаворыць ён.— Я паеду далей, у тайгу. Кіламетраў за шэсцьсот адсюль. Там у нас яшчэ адзін аб'ект намячаецца.

Цяпер яе чарга збянтэжана прасіць прабачэння. Некалькі мінут яна думае аб нечым сваім.

— Ну і добра. Бог з ёю, з мэбляю,—ускінуўшы галаву, весела згаджаецца яна.— Абыйдземся без гарнітура. Паедзем так. Нават зручней.

— Што ты? — спалохана пярэчыць ён.— Куды табе ў такую глухамань? Вось там сапраўды... баракі, гразь. Рабочы пасёлак. Там яшчэ толькі пачынаецца...

— І што-ж? Хіба мне там работа па спецыяльнасці не знойдзецца?

— Не, работа, вядома, знойдзецца...

— Ну, а больш мне нічога і не трэба. Я-ж табе сказала: работа і ты. Ты і работа!..

— Не, праўда паедзеш? — у голасе яго ўрачыстае лікаванне.

— Вядома, паеду. А ты сумняваўся? І таму паўтары гадзіны мяне так мучыў?

Яна ўздыхае:

— Ох, і дурненькі ты ў мяне!..



# СЛУХАЙЦЕ ЎСЕ!..

У тры гадзіны ночы дзяжурны радыёаператар Ульскага вузла Лепіхаў быў папярэджаны з абласнога горада, што праз поўгадзіны павінна адбыцца размова з Масквой: Масква будзе выклікаць сама.

Лепіхаў прывык ужо да начных перагавораў — за паўтара года работы да чаго не прывыкнеш! Сюды, да яго, у гэты пакойчык, абабіты таннаю тканінай няпэўнага шэра-зялёнага колеру, прыязджалі на сваіх газіках маладыя геолагі,— тыя самыя, што цяпер стаяць лагерам каля Чайдарскага возера, паблізу соўгаса. Што яны там шукаюць, гэтыя геолагі, Лепіхаў не ведае, ды яму, мабыць, і не палажана ведаць, затое да іх саміх ён у гэтыя ночы прыглядзеўся дастаткова. Усе яны чорныя ад летняга поўночнага ветру і абпальваючага поўночнага сонца, усе размаўляюць гучна і ненатуральна, сыплюць бяскрыўдныя жарты, час-ад-часу намякаючы на нешта такое, што ім адным вядома, і дружна смяюцца пасля гэтага.

Да Лепіхава яны адносяцца з жартаўлівым шанаваннем: радыёбог! І ён на іх за гэта зусім не крыўдзіцца.

Аб службовых справах у іх радыётэлефонных размоў амаль не бывае, а выклікаюць яны часцей за ўсё хатнія маскоўскія тэлефоны.

— Калі гэты нумар адказваць не будзе,— пытае звычайна Лепіхаў, афармляючы заказ,— другі які выклікаць?

— А ў маёй кватэры двух тэлефонаў быць не можа,— тлумачыць геолаг,— з мяне і аднаго дастаткова.

Лепіхаў, уключыўшы апаратуру, доўга і настойліва выклікае:

— Масква... Масква...

У другой палове ночы, гадзін да чатырох, чамусьці заўсёды асабліва хочацца спаць, і Лепіхаў ловіць сябе на тым, што ён на момант ужо задрамаў. Ён трасе галавой і зноў манатонна і настойліва паўтарае:

— Масква... Масква...

Так ён будзе паўтараць да таго часу, пакуль далёкі, вельмі далёкі голас, часцей за ўсё жаночы, не адгукнецца:

— Ну, слухае Масква. Што ты там сонны нейкі?

«Будзеш сонны,— нязлосна думае Лепіхаў.— Ты хоць-бы ў разлік узяла, што гэта ў вас там, відаць, і вечар яшчэ не настаў, а ў нас, дзякуй богу, раніца хутка. Вунь у фельчара Данілавіча певень ужо другі раз гарланіць».

Але ўголас нічога гэтага Лепіхаў не гаворыць. Ён называе той, далёкай масквічцы, патрэбны нумар і, пачакаўшы, пакуль будзе зроблен выклік, паварочваецца да геолага.

— Калі ласка.

Шчаслівчык, які чакае размовы, пракашліваецца і, вінавата ўсміхнуўшыся, паказвае на горла: голас ад хвалявання прапаў.

А паколькі на перагаворы геолагі прыязджаюць звычайна не ў адзіноце, а ўсёй кампаніяй, то і іншыя, тыя, каму зусім не належыць гаварыць, таксама чамусьці пачынаюць кашляць, а потым затрымліваюць дыханне, не заўважаючы, што сапуць пры гэтым самым жахлівым чынам.

А Лепіхаў паправіць навушнікі, заплюшчыць вочы і пачынае думаць пра тую масквічку, з якой толькі што перамовіўся словам-другім. Цікава, ці ўяўляе яна сабе, дзе гэта наогул такая Ула, з якой ідзе цяпер размова. Ці можа яна хоць у думках убачыць вось гэтую даліну, усю залітую месячным святлом, вось тыя сопкі, што прыхінуліся адна да другой? І яго самога, Лепіхава,— як цікава, яна яго ўяўляе? Думае, мабыць,— сядзіць барадаты дзядзька — калымчанін, косы сажань у плячах, і клюе носам, храпучы і час-ад-часу трасучы галавой.

А таго не ведае, што Лепіхаў — ён яшчэ ніякі не дзядзька, што яму і да прызыву ў армію цэлы год...

А вось ён сабе гэтую маскоўскую радыётэлефаністку ўяўляе зусім выразна. Яна абавязкова з нафарбаванымі губамі, з паліраванымі ружовымі пазногцікамі і рыжаватымі завіткамі валасоў — хімічныя бландынкі, як называў такіх, рыжых, адзін заезджы эстрадны артыст, які вясной быў у Уле.

Так, думаючы аб сваім, цягучым, марудным, Лепіхаў не забывае прыслухоўвацца да размовы, якая ідзе зараз тут вось побач, каля яго. Дзівакі-масквічы, далібог! Вось гэты чорненькі, Сцяпан Кузьміч — ён-жа на сваёй машыне восемдзесят кіламетраў адмахаў, каб толькі некалькі мінут пагаварыць з жонкай, а цікавіцца нейкай бязглуздзіцай несусветнай: ці даўно была ў канцэртнай зале Чайкоўскага? Ці бачыла «Клапа» ў Тэатры сатыры? Ці змагла дастаць білеты на выстаўку Рэмбрандта?..



Што ім, больш няма пра што гаварыць? Дзівачка — няўжо яна думае, што за геолагамі «чайная» вандруе, ці што? Прышоў і заказвай: дайце мне біфштэкс, прынясіце шакаладны пламбір? А таго, відаць, не ведае, што яны тут, гэтыя геолагі, па месяцу, апрача ржавых сухароў ды свіной тушонкі, нічога не бачаць. Ды і тое добра, калі тушонка ёсць...

...І зноў чужая размова цячэ знаёмай ручаінай. Лепіхаў глядзіць у акно: світае. Калі вяршыня Сталовай гары ўжо бачна, значыцца, хутка раніца.

А ў Маскве, відаць, ліхтары запалілі.

Ён, Лепіхаў, у Маскве не быў ні разу. Ён і наогул далей абласнога горада нікуды за сваё жыццё не ездзіў. Маскву ён уяўляе сабе, як яму здаецца, беспамылкова. Бачыў-жа ён яе ў кіно, там яе часта паказваюць.

Ага, справа да пацалункаў і прывітанняў дайшла, значыцца, хутка канец размове. Тут усе геолагі, якія цярпліва саплі ззаду, ажыўляюцца, і кожны шэптам падказвае Сцяпану Кузьмічу сваё:

— Папрасі, няхай пазвоніць маім..

— Убачыць Арнольдава — няхай прывітанне перадасць.

— Наконт брытвачак... Каб брытвачкі прыслала, не забудзь!

І Сцяпан Кузьміч добрасумленна выконвае ўсе гэтыя даручэнні, але тут Лепіхаў, няўмольны Лепіхаў аб'яўляе:

— Канчайце, усё. Наш час скончаны.

Сцяпан Кузьміч угаварвае, упрошвае Лепіхава: — Ну, Валодзька, ну, будзь сябрам, яшчэ тры хвілінкі! А Лепіхаў выключае апара-

---




**Паэт Паўлюк Трус у паэме «Дзесяты падмурак» марыў аб тых днях, калі край балот, курганаў, якім была Беларусь да рэвалюцыі, ператворыцца ў край фабрык дымных і машын. Гэты час настаў. Беларусь цяпер з'яўляецца індустрыяльным краем. У Мінску, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, у малых і вялікіх гарадах — усюды дымяць коміны заводаў і фабрык. Беларусь дае краіне аўтамабілі і трактары, камбайны і станкі, дываны і тканіну, радыёпрыёмнікі і гадзіннікі. 1956 год рабочы клас рэспублікі азнаменаваў новымі творчымі перамогамі. Распачата будаўніцтва Васілевіцкай электрастанцыі, цукровых заводаў, закончана будаўніцтва завода электрашчытоў у Мінску.**

**На здымку вы бачыце ўнутраны выгляд аднаго з цэхаў завода электрашчытоў.**

туру, здымае навушнікі і цярпліва, як дарослы дзіцяці, гаворыць:

— Я-ж вам тлумачыў ужо, у мінулы раз — памятаеце: нам на Маскву даюць толькі васемнаццаць мінут у суткі. І ўсё. Ні секунды больш.— Голас у яго поўны спачування і пакуты: — Я рад быў-бы, вы-ж ведаеце, Сцяпан Кузьміч!

— Ды маўчы ўжо, не апраўдвайся, няўмольны радыёбог!

Развітаўшыся з Лепіхавым, геолагі ад'язджаюць, фырканне іх газіка заціхае недзе ўдалечыні.

Так бывае часта, амаль кожную ноч. А вось каб сама Масква выклікала далёкую калымскую Улу — гэта выпадае рэдка, вельмі рэдка. І толькі па рабоце. У апошні час — гэта калі Шаўчука, майстра з рыбзавода, выклікалі на Усесаюзную нараду перадавікоў рыбнай прамысловасці.

Магчыма таму Лепіхаў адчувае сябе сёння не зусім спакойна. Ён яшчэ раз, невядома навошта, правярае апаратуру, падрыхтоўвае паперу, аловак. Роўна а палове чацвёртай ён чуе далёкі, глухаваты, на гэты раз мужчынскі голас:

— Ула!.. Ула!.. Слухайце, Северск, пашавяліце там Улу!..

— Слухае Ула,— спакойна адгукаецца Лепіхаў.

— Ула? Зараз будзеце гаварыць.

І раптам ён чуе нейкі вельмі знаёмы жаночы голас, здзіўляюча знаёмы: нізкі, грудны, з ледзь адчувальным мяккім прыдыханнем:

— Ало. Ула? Ула!..

— Ула слухае.

— Хто гэта? Гэта ты, Валодзя? Прывітанне, Валодзька. Гэта я, Ліда Чарненка, помніш мяне?

— Прывітанне, Ліда. Прывітанне,— разгублена гаворыць Лепіхаў.— А я вас не адразу пазнаў!..

— Валодзечка, мілы, адшукай мне Барабава. Абавязкова!

— Зараз, Ліда,— усё гэтак-жа разгублена вымаўляе Лепіхаў.—Ён, мабыць, дома, я яму пазваню.

Хутка-хутка ён злучаецца з кватэрай Барабава. Яму адказвае хрыплаваты мужчынскі заспаны і, як здаецца Лепіхаву, незадаволены голас.

— Таварыш Барабаў,— таропка гаворыць Валодзя, — будзеце гаварыць з Масквой.

І на другі канец зямнога шара:

— Ліда? Даю кватэру Барабава...

Барабаў — гэта рэдактар Ульскай газеты. Ужо лысаваты, тоўсты, у сваім шэрым габардзінавым пыльніку і гэткім-жа шэрым велюравым капелюшы, спакойны ў руках, з апякунскімі ноткамі ў голасе, ён здаецца Валодзю Лепіхаву жывым увасабленнем усяго непрыемнага, што толькі можа быць на зямлі, хоць яму, Лепіхаву, ён нічога кепскага не зрабіў.

Лепіхаву проста незразумела, як гэта можна кахаць такога чалавека? Ды ён-бы блізка не падыйшоў, калі-б гэта датычыла яго...

А Ліда, супрацоўніца Ульскай газеты,— маленькая, худзенькая, зялёнавокая, зусім дзяўчынка,— па плячо Барабаву,— закаханага позірку, бывала, ад яго не адводзіць. Разы двачы Лепіхаву выпадала сядзець побач з імі ў кіно — гэта-ж балюча было глядзець, як яна ў цемры шукае руку Барабава. А ён неяк паблажліва, не паварочваючы галавы, скажа:

— Ну што, Лідок, што?..

Яна возьме яго за руку, шчакой да далоні прыціснецца, а Барабаў ледзь прыкметна пацісне плячыма: гэта, моў, яшчэ што за выдумкі.

Ох, як у такія хвіліны Лепіхаў ненавідзеў гэтага рэдактара! Здаецца, сказала-б яму Ліда толькі адно-адзінае: «Абарані! Абарані мяне, Лепіхаў»,— і ён кінуўся-б на гэтага Барабава: ды ці разумееш ты, драўляная душа, як яна каля цабе пакутуе!..

Ліда прыехала ў Улу з Чукоткі. Там яна таксама працавала ў газеце, і пра яе расказвалі цуды: як яна вандравала са статкамі аленяў, як некалькі разоў гінула ў чукоцкай шалёнай пурзе, але, абмарожаная, змардаваная, усё-ж выбіралася да лімана, а ўжо ад лімана



да акружнога цэнтра — рукой дастаць. Яна, здаецца, наогул не ведала, што такое жаночы страх: выходзіла ў мора з караблямі, бясстрашна шчоўкала сваёй старэнькай лейкай на цюленіх лежбішчах і наогул перанесла ўсё, што толькі можна перанесці небяспечнага на гэтай поўночнай зямлі.

Лепіхаў неяк чуў, што там у яе быў муж, палярны лётчык, але потым, калі высветлілася, што ў яго недзе там, «на мацерыку», ёсць жонка і дзеці, Ліда забрала сына і пераехала ў Улу.

Вось тут яна і пакахала Барабава. Той быў не супраць ажаніцца, але яго бянтэжыла, што жонка яго будзе «з дадаткам», і калі іх адносіны сталі вядомымі ва Уле, ён паспяшаў паслаць Ліду ў Маскву да яе нейкіх далёкіх сваякоў.

Гэтага Лепіхаў і не мог зразумець. Праўда, ён яшчэ ніколі і нікога не кахаў, але яму здавалася, калі-б ён пакахаў, для яго дзіця не было-б перашкодай. Ён нават падзяліўся гэтымі думкамі са сваёй добрай знаёмай — Зіначкай, рэгістратаршай з раённай бальніцы. Але тая сама ўздыхала па доктару Чакураву, і Лепіхава яна проста не зразумела.

— А як-жа інакш? — паціснула яна плячыма.— Калі кахаеш...

Але так і не растлумачыла, што бывае, калі кахаеш.

...А вось Ліда пакутавала, і Лепіхаў усё мацней ненавідзеў Барабава. Ён ледзь стрымліваў сябе, каб не выказаць рэдактару ўсяго, што думае пра яго, з якой пагардай ён адносіцца да гэтага вышкаленага пана, як ён ужо даўно ў думках назваў Барабава.

Зрэшты, адна сутычка ў Лепіхава з Барабавым усё-ж была. Тады да Барабава прыехаў у госці нейкі сябра, малавядомы паэт, з азызлым, дачасна састарэлым тварам, і Барабаў павёў яго на Улу — забавіцца рыбнай лоўляй. Яны спыніліся па суседству з Лепіхавым, які прышоў сюды яшчэ на світанні.

Паэт у рыбнай лоўлі нічога не разумеў, затое ўвесь час плёў бязглуздзіцу, як ён некалі на Шаксне лавіў стэрлядзь, а потым пачаў прыставаць да Лепіхава з пытаннямі, на якую прыманку тут лепш за ўсё клюе. Лепіхаў нічога не адказаў яму, сядзеў са сціснутымі вуснамі, але паэт на гэта не звярнуў увагі — хутка ён пра Лепіхава і зусім забыў. Кінуўшы вудачкі на беразе, ён пайшоў збіраць у даліне яркія поўночныя кветкі.

— Не, ты, Дзіма, паглядзі, якая прыгажосць! — крычаў ён.

Барабаў грэбліва паціснуў плячамі:

— Э, тут усе кветкі без паху, усе жанчыны без кахання.

Вось тады Лепіхаў і не вытрымаў.

— Ды як вам не сорамна! — ледзь не са слязамі выкрыкнуў ён, паварочваючыся да Барабава.— А я-ж кожны дзень у вашай газеце чытаю хвалу нашаму краю. Або можа гэта не вы там пішаце?

— Цю! — здзівіўся Барабаў.— Што ты, хлапчук, з ланцуга сарваўся, ці што?

— Я то не,— задыхаўся Лепіхаў.— А вось вы... у тым ліку пра жанчыну, якая вас лічыць амаль богам!.. Брыдка як!..

Паэт, спыніўшыся воддаль, з цікавасцю пераводзіў позірк з Барабава на Лепіхава.

— Што сіе азначае, Дзіма? — спытаў ён.

— Мабыць, яшчэ адзін лідачкін паклоннік,— усміхнуўся Барабаў.— У яе-ж вочы, як у русалкі, яны нават вось такіх юнцоў не шкадуюць.

Лепіхаў хутка зматаў лесу. Ужо адыходзячы, ён пачуў, як паэт за яго спіной насмешліва прамовіў:

— І многа ў вас такіх... монстраў, Дзімчык?

Што яму адказаў Барабаў, Лепіхаў ужо не пачуў.

...Эфір быў напоўнены цьмяным гудзеннем, і лідачкін голас, праляцеўшы дванаццаць тысяч кілометраў, станавіўся нейкім прыглушаным, ненатуральна вібрыруючым. «Як у Аэліты»,— чамусьці падумаў Лепіхаў.

— Дзіма!.. Ты-ж мне абяцаў, што напішаш, што мне рабіць далей. Я-ж не хацела ехаць, ты ведаеш... А вось я ўжо поўмесяца ў Маскве, і ад цябе ніводнага пісьма... Ты чуеш мяне, Дзіма?

— Так, так, я слухаю, Ліда. Бачыш ты, пра што, уласна, пісаць? Па-мойму, мы ўжо ўсё высветлілі тут, ва Уле...

— Значыць, ты сапраўды лічыш, што наша сумеснае жыццё магло-б табе пашкодзіць? Я цябе разумею, Дзіма. Думкі начальства?..

— Што ты, Ліда! Трэба-ж падбіраць словы... Успомні, колькі тысяч людзей могуць зараз слухаць нас у эфіры.

— Ах, якое гэта мае значэнне, Дзіма! У іх ёсць сэрцы, і яны мяне зразумеюць.

— Але я, Ліда, не магу, разумееш, проста не магу прадаўжаць размову ў такім тоне. Гэта-ж, нарэшце, непрыстойна!..

— Ах, дык ты не можаш?.. Тады вось што я зараз зраблю... Слухайце ўсе, хто мяне чуе: я, Ліда Чарненка, гавару вам усім, што чалавек, якога я кахала,— ды не, што я кажу, які ён чалавек? Адным словам, Дзмітры Барабаў — нягоднік.

Спалоханая паўза цягнулася мінуту, не больш.

— Лепіхаў, Лепіхаў! — звар'яцела закрычаў затым Барабаў.— Ты чуеш мяне, Лепіхаў? Зараз-жа спыні перадачу. Выключы апаратуру, я патрабую!..

Было выразна чуваць, як цяжка, з натугай дыхаў спалоханы Барабаў.

І тады ульскі радыёапаратар Уладзімір Лепіхаў сказаў спакойна, зусім спакойна, з нейкай непаўторнай звонкай выразнасцю:

— Спыніць размову не магу, таварыш Барабаў. Час Ліды Чарненка яшчэ не зышоў.



# НАЧНАЯ РАЗМОВА

Ёсць у нізоўях Амура невялічкі пасёлак М-ск.

Драўляныя тратуары цягнуцца ад самай ракі, уверх па схілу невысокай сопкі; драўляныя домікі расстаўлены далёка адзін ад другога — відаць, на выпадак пажару. За высокімі агарожамі — клеці, лазні, гароды.

М-ск — пасёлак лесарубаў, і ў лесе тут няма недахопу: не прывязуць з тайгі, дык наловяць вясною ў Амуры,— колькі яго плыве тады па рацэ!

Вось сюды, у гэты далёкі пасёлак, я і трапіў летам мінулага года. Параход прышоў позна вечарам. Ні ў канторы леспрамгаса, ні ў пасялковым Совеце я ўжо нікога не застаў, і адзіным прадстаўніком мясцовай улады, якога мне нарэшце пашанцавала адшукаць, быў участковы міліцыянер — добрадушны, крыху флегматычны ўкраінец велізарнага росту.

Папярэдне праверыўшы мае дакументы, ён прыняў жывы ўдзел у маім лёсе: ссунуў на лоб шапку, паскроб патыліцу і потым сказаў з паслядоўнай лагічнасцю:

— Цяпер мы што маем? Вечар? Вечар. Значыцца, вам патрэбна што? Адпачыць. Так? Так. Вось і пойдзем у гасцініцу.

Пазней я пераканаўся, што гэта было сказана занадта смела: гасцініца аказалася ўсяго толькі невялікім пакоем, у якім стаяла чатыры ложкі. Тры з іх ужо былі заняты, пацвёрты, нібы чакаў мяне.

— Прымайце, хлопцы, у кампанію,— сказаў участковы, пажадаў усім добрай ночы і выйшаў.

Адпачывалі — двое хлопцаў і пажылы мужчына. Яны сустрэлі мяне без асаблівай цікавасці; адзін з іх пачакаў, пакуль я распрануся, і вывінціў лямпачку — выключацель быў сапсаваны.

Усе трое дымілі ў цемры цыгаркамі. Маўчалі. Недзе за акном гулялі дзяўчаты, праступаджана ўсхліпваў гармонік, звонкі, крыху рэзкаваты дзявочы голас спяваў прыпеўку:

Ох, я яго прываражыла —  
Сама з гора затужыла...

Адзін з курцоў — той, што ляжаў каля акна, прыўзняўся на локці, прыслухаўся.

— Чуеш, Сцяпан,— пацiху сказаў ён.— Твая Мар'яна пяе. Яе голас.

— А ідзі ты да д'ябла са сваёю Мар'янай,— неяк неахвотна азваўся другі.— Чаўпе: «Мар'яна, Мар'яна» — месяц жыцця не дае.

— Таму і не даю, што нягоднік ты ў адносінах да яе. Найпершы нягоднік, адкрыта табе кажу.

— Не лайся, надакучыла.

— Як-жа не лаяцца,— не супакойваўся хлопец. — Я такіх, як ты, ведаеш... да сцяны ставіў-бы.

— Так ужо і да сцяны, — ленавата ўсміхнуўся Сцяпан.—Сцен не хопіць.

— Нічога, хапіла-б. Адной хапіла-б, таму што другога такога, упэўнены, у свеце не знойдзеш.

— Ды кіньце вы, хлопцы, — умяшаўся ў гутарку трэці, які маўчаў да гэтага часу. — Тут прыезджы таварыш. Што ён пра вас падумае? Фашысты якія, ці што? Да сцяны... Сказаў-жа...

— А вы, Павел Сяргеевіч, не абараняйце Сцяпана,— усхвалявана ўсклікнуў той-жа хлопец.— Хоць вы і механік, і адукаваны чалавек, а ў гэтых справах у вас тонкасці душэўнай няма...

— Бачыш, ужо і мне папала,— засмяяўся Павел Сяргеевіч.— Порах, ну, чысты порах!..

— А вы не спыняйце мяне перад прыезджым таварышам. Таварыш, відаць, з горада, вось няхай і разбярэ, трэба караць такіх, ці не трэба. Не спіце, таварыш?

Зацікаўлены такой незвычайнай спрэчкай, я адказаў, што не сплю.

— Вось слухайце тады,— хлопец нават устаў з ложка і сеў на яго край.— Гэты самы наш Сцяпан прыпадобны, які цяпер адмоўчваецца, як Малчалін,— ён у Мар'яны тры гады ў жаніхах лічыцца. Галаву ёй марочыў. Яна дзяўчына, ведаеце, якая? Цуда, а не дзяўчына. І разумніца, і прыгажуня, і сэрца залатое.

— Ого, як нахвальвае,— насмешліва перабіў Сцяпан. — Як сваццця.

Але хлопец не звярнуў увагі на яго насмешку.

— Яна такая,— паўтарыў ён.— Рахункавод, а ёй-бы ў дырэктарах хадзіць — ніколькі не менш.

— У міністрах,— зноў адгукнуўся з свайго кутка Сцяпан і засмяяўся кароткім смехам.

— А хоць-бы і ў міністрах. Ды не пра тое размова. Ну, вось. Быў у нас тут адзін электрапільшчык, удавец. Ну, памёр ён нядаўна. Двое дзетак засталося: дзяўчынцы пяць, хлопчыку тры гады. Хацелі іх у дзіцячы дом аддаць, а тут Мар'яна... Не трэба, кажа, я іх да сябе забяру, не горш за маці выгадую. Дзіцячы дом, кажа, штука добрая, а пяшчоты мацерынай усё-такі не заменіць... І забрала! Ёй-бы па гадах яшчэ жыць ды весяліцца, а яна — ці ў перапынак, ці з работы — на злом галавы дадому бяжыць, пакарміць, абмыць малых. Ну, самі разумееце, як з дзецьмі. Рэдка-рэдка калі на гулянку вырвецца...

— Ды кінь ты, прашу,— зноў умешваецца Павел Сяргеевіч.— Думаеш, так гэта цікава таварышу?

— А вось і цікава. Няхай даведаецца, якія сапраўдныя людзі на свеце бываюць. Дык што-ж? Сцяпан наш, як пачуў пра гэтых дзяцей, дык адразу правы паварот і на ўсю жалезку ўбок. На самы далёкі ўчастак папрасіўся. А яна, канешне, дзяўчына, гордая: шчаслівай дарогі, кажа, трымаць не буду. Плакала ўжо там, ці не плакала — хто ведае... Дык чаму, пытаюся я ў вас, такіх лайдакоў не караюць? Яго, сабачага сына, нават і судзіць нельга: у кодэксе пункта такога няма.

— А ты, чым так вось кіпяціцца,— параіў Павел Сяргеевіч,— праз камсамольскую арганізацыю на яго ўздзейнічаў-бы, праз комсорга. Ты-ж, Сцяпан, здаецца, камсамолец?

Сцяпан прамаўчаў, а хлопец, які расказаў гэтую гісторыю, безнадзейна махнуў рукой, аганёк цыгаркі апісаў у цемры паўкруг.

— А што наш комсорг? Дыстыляваная вада. Стопрацэнтная бясшкоднасць...

У пакоі ўсталявалася цяжкае маўчанне, толькі ўспыхваюць аганькі трох цыгарак ды лёгенька патрэсквае тытунь у іх.

— Вось ты і ажаніўся-б з ёю, калі яна табе так спадабалася, — пасля доўгай паўзы адгукнуўся Сцяпан, і ў яго голасе мне пачулася нешта тужлівае. Але хлопец не адказаў. Ён патушыў самакрутку і толькі пасля гэтага сказаў:

— І ажаніўся-б. Толькі не мяне яна кахае, і ты гэта ведаеш... Эх, Сцяпан, Сцяпан!



Сцяпан дэманстратыўна адвярнуўся да сцяны.

— Добра, спаць будзем,— суха кінуў ён і ўсміхнуўся.— Ад гэтых павучэнняў галава распухнуць можа, праўда?

Ніхто не адгукнуўся на яго словы. А за акном, аддаляючыся некуды да берага Амура, пакутаваў гармонік і ўсё той-жа дзявочы голас пеў:

Ох, нашто я палюбіла,  
Нашто сэрца прысушыла?

Раніцай, калі я прачнуўся, у пакоі ўжо нікога не было. Ложкі былі наспех засланы сінімі суконнымі коўдрамі. Каля сцяпанавага ложка было відаць дзесяткі два недакуркаў...

**г. Уладзівасток.**

**Пераклад з рускай мовы.**

*Вывучайце музыку*

## НАРОДНЫЯ ТАНЦЫ

У мінулым нумары нашага часопіса мы пачалі гутарку аб танцавальных творах (жанрах), у якіх выкарыстаны двух-і трохчастковыя простыя або складаныя песенныя формы. Пазнаёмімся з іншымі танцавальнымі ўзорамі.

У тыя-ж гады, калі ўзнікае жанр вальса (г. зн. у 20-я гады XIX стагоддзя) атрымліваюць вялікае распаўсюджванне па ўсёй Еўропе яшчэ два танцы: **галоп і полька.**

Ад французскага слова «галёпэ» («скакаць») атрымаў сваю назву хуткі, пабудаваны на скачках танец «галоп». Розніца паміж галопам і вальсам не толькі ў тым, што вальс — плаўны танец, а галоп — пабудаваны на скачках. Іх адрознівае і тое, што вальс — трохдольны, а галоп — двухдольны, г. зн. мае цотны размер. Цікава адзначыць, што галоп часта ўваходзіць састаўной часткай (апошняй, вельмі хуткай) ва ўсім вядомы танец **«кадрыль»** — танец, у якім удзельнічаюць адна або некалькі груп танцораў, а ў кожнай групе па дзве пары выканаўцаў. Галоп блізкі да чэшскага народнага танца «скочна».

«Полька» таксама, як і галоп, двухдольны танец, але ўмерана-хуткі. Сваю назву танец атрымаў ад чэшскага слова «пулька» («палавінка»). Сувязь паміж танцам і «палавінкай» тлумачыцца тым, што полька выконваецца ў руху поўкрокамі, злёгку падскокваючы (поўкрока і палова скачка). Як і вальс, полька заўсёды мае ярка вызначаны нацыянальны характар і можа быць вакальнай (успомнім беларускія харавыя полькі, хоць-бы сучасную народую песню «Пайду Ясю»).

У сярэдзіне XIX стагоддзя шырокую папулярнасць атрымлівае танец жыхароў польскай вобласці Мазовія — **«мазурка».** Мазурка — умерана-хуткі трохдольны з «падскокам» танец з вельмі чоткім, але «капрызным» рытмам. Гэтая зменлівасць рытму і вялікі дыяпазон змены хуткасці выканання мазуркі даюць магчымасць з яе дапамогай паказаць розны псіхалагічны стан, характар. Прыкладам можа служыць партыя Марыны Мнішак у оперы «Барыс Гадуноў» Мусаргскага, якая, па сутнасці, з'яўляецца вакальнай мазуркай і адлюстроўвае характар гераіні.

Рознавіднасцю плаўнай мазуркі з'яўляецца польскі народны танец «куявяк». Своеасаблівай «гумарыстычнай» мазуркай з'яўляецца і польскі народны танец «обэрэк».

Культура польскага народа дала свету яшчэ два вельмі папулярныя жанры танцавальнай музыкі: **«кракавяк» і «паланез».**

Ажыўлены і вясёлы двухдольны танец «кракавяк» атрымаў сваю назву ад старажытнага польскага горада Кракаў. У рускай класічнай музыцы мы маем выдатныя ўзоры выкарыстання гэтага танца, як, напрыклад, у польскай сцэне ў «Іване Сусаніне» Глінкі або ў оперы «Пан-ваявода» Рымскага-Корсакава.

Слова «паланез» па-французску значыць «польскі». Гэты ўрачысты трохдольны танец-шэсце з'явіўся яшчэ ў XV стагоддзі, як рыцарскі марш-пантаміма. Пачынаючы з XVIII стагоддзя паланезам пачалі адкрываць балы па ўсёй Еўропе. У жанры паланеза нават ствараліся маршавыя песні, так, вядомая ў рускай арміі патрыятычная песня часоў імператрыцы Екацярыны — «Гром победы раздавайся» — была нічым іншым, як паланезам. У пачатку XIX стагоддзя сталі вядомымі паланезы М. Агінскага. Творчасць Шапена надзяліла жанр паланеза такімі якасцямі, што ён ператварыўся з танцавальнай музыкі бытавога прызначэння ў музыку вялікіх пачуццяў і перажыванняў, глыбокіх мастацкіх вобразаў, якія адлюстроўваюць героіку і драматызм з'яў і падзей. Геніяльныя ўзоры паланезаў мы маем таксама ў опернай і сімфанічнай музыцы рускіх класікаў Глінкі, Чайкоўскага, Мусаргскага, Рымскага-Корсакава, Лядава, Глазунова.

Вялікае значэнне ў развіцці жанраў танцавальнай музыкі мае культура італьянскага і іспанскага народаў. Аб танцавальных жанрах гэтых народаў мы раскажам у наступным нумары часопіса.

**І. НІСНЕВІЧ.**



На здымках (зверху ўніз): На трыбуне стадыёна. Алімпійская чэмпіёнка па мятанню дыска Вольга Фікотава (Чэхаславакія). У спаборніцтвах па сучаснаму пяцібор'ю першае месца і залаты медаль заваявала каманда СССР у складзе І. Новікава, А. Тарасава і І. Дзяругіна; А. Тарасаў у час спаборніцтва.





# Пагас алімпійскі агонь

Больш двух тыдняў увесь спартыўны свет жыў буйнейшымі спаборніцтвамі, якія праводзяцца адзін раз у чатыры гады — Алімпійскімі гульнямі. Спаборніцтвы, што праходзілі ў Мельбурне, — на новым вялікім стадыёне, на возеры Ведруэе, — дапамаглі не толькі вылучыць мацнейшых, але яшчэ больш садзейнічалі ўстанаўленню сяброўскіх сувязей спартсменаў розных краін. Гэта адзначылі ўсе мельбурнскія газеты, а таксама падкрэсліў у сваёй прамове на цырымоніі закрыцця прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Брэндэдж.

Савецкая каманда на спаборніцтвах XVI алімпіяды выступіла значна лепш, чым на папярэдніх гульнях у Хельсінкі. Напрыклад, на XV Алімпійскіх гульнях лёгкаатлеты мужчыны не занялі ніводнага першага месца. На гэты раз выдатны бягун, заслужаны майстар спорту Уладзімір Куц заваяваў два залатыя медалі на дыстанцыях 5 і 10 кіламетраў. Яшчэ адзін залаты медаль прынёс камандзе масквіч Л. Спірын, які заняў першае месца па спартыўнай хадзьбе. Калі на мінулай алімпіядзе савецкія прыгуны ў вышыню не трапілі нават у дзесятку мацнейшых, таму што не здолелі пераадолець двухметровую вышыню, дык цяпер чэмпіён краіны Ігар Кашкараў паказаў выдатны вынік — 2 метры 8 сантыметраў і заваяваў бронзавы медаль. Вызначыліся і нашы баксёры. У. Енгібаран, В. Сафронаў і Г. Шаткоў заваявалі залатыя медалі. Савецкія спартсмены зусім нядаўна пачалі выступаць у спаборніцтвах па сучаснаму пяцібор'ю. І вось цяпер каманда Савецкага Саюза ў складзе І. Дзяругіна, І. Новікава і А. Тарасава ўзнагароджана залатым камандным медалем. Залатыя медалі заваявалі таксама барцы, весляры, гімнасты, лёгкаатлеткі, стралкі, штангісты.

Выдатна выступалі савецкія футбалісты. Каманда СССР у фінале з лікам 1 : 0 перамагла каманду Югаславіі і атрымала залаты алімпійскі медаль.

Каманда СССР заваявала 37 залатых, 29 срэбраных і 32 бронзавыя медалі і, набраўшы 622 ачкі, значна апярэдзіла каманду ЗША. Амерыканцы маюць 32 залатыя, 25 срэбраных і 17 бронзавых медаляў.

У складзе савецкай спартыўнай дэлегацыі ў Мельбурне былі 9 спартсменаў Беларусі. Усе яны выступілі няўдала. Нават М. Крываносаў, які заваяваў срэбраны медаль у мятанні молата, паказаў пасрэдны вынік. Астатнія беларускія спартсмены не трапілі ў лік шасці залікавых удзельнікаў.

Пагас алімпійскі агонь. Ён зноў будзе запалены ў 1960 годзе на XVII Алімпійскіх гульнях, якія адбудуцца ў Рыме.

**А. ПЯТРОЎ.**

# Трусіная гісторыя

Гэтую перамену ў паводзінах Санькі аднакласнікі не адразу прыкмецілі. Быў хлопец як хлопец, падчас нават залішне гаваркі. А тут ён нечакана прыціх, твар яго асунуўся, пацямнеў, раней гарэзлівыя чорныя вочы бегалі з нейкай затоенай трывогай, стараліся не глядзець на людзей. Асабліва санькавы вочы баяліся сустрэцца з вачамі Алёшы Ацуты. І калі хлопец хоць на імгненне сустракаўся позіркам з Алёшам, у вачах Санькі адчувалася і просьба, і нясмелая пагроза.

Адзін Алёша Ацута ва ўсім IX «В» здагадваўся, што творыцца цяпер на душы ў Санькі Хаванскага. А на душы ў таго было змрочна. Яшчэ некалькі дзён таму назад усё было так проста і лёгка. Праўда, недзе там, у душы, і раней часам нешта смактала, трывожыла. Але гэта бывала толькі ў хвіліны адзіноты. А так Санька нават адчуваў некаторую гордасць, што ў яго ёсць свая тайна, тайна Гены Сільчанкі з VIII класа і яшчэ Раймы, з якім ён сустракаўся начамі.

А цяпер? Цяпер Саньку нават боязна ўстаць з-за парты на перапынку. Яму пачынае здавацца, што яго крокі адкрыюць таварышам тую страшную тайну, якая ўвесь час гняце яго, блытае думкі. Ад выпадковага позірку настаўніка ў яго моцна б'ецца сэрца. Ён не слухае, што гаворыць настаўнік, не цяміць, аб чым вядзецца расказ. Хочацца зразумець, з чаго-ж усё пачалося. Няўжо са старога віславухага ангора? Але-ж Санька проста хацеў дапамагчы сястры Марыі. Яна адна працуе на ўсю сям'ю з сямі чалавек. І ён бачыў, як Марыя дастала пяцідзесяцірублёўку з тых грошай, якія адкладвала сабе на сукенку, і перадала маці. Тады Санька і вырашыў прадаць старога труса.

У той дзень трусоў на рынку было многа. Пакупнікі мацалі вострыя хрыбетнік ангора і адыходзілі. Санька хацеў выручыць 50 рублёў, а за труса нічога не давалі. Расчараваны, ён хацеў ужо ісці дадому, як з акенца лаўкі «Заготжыўсыравіна» яго паклікалі.

— Колькі за твайго пацука? — спытаў мужчына ў ватніку.

— Пяцьдзесят. Чыстакроўны ангор, мяса дужа смачнае, а поўсць...

— Бяры дваццацьпятку, больш за гэтае мышанё ніхто не дасць. А то дастаішся, што ў міліцыю трапіш, — і мужчына нахабна падміргнуў.

— Дваццацьпятку? — сумеўся Санька.

Але мужчына ў ватніку ледзь не сілком вырваў з рук хлопца труса і працягнуў яму хрусткую сінюю паперку.

— Калі аднясеш да мяне дадо-

му, яшчэ пяцёрку накіну, — не даваў апаматацца мужчына. — Вось табе адрас: Маякоўскага, 31. Спытаеш Левіна Хаіма Шлёмавіча.

Сястра не ўзрадавалася санькавай выручцы. Сказала:

— Навошта ты гэта зрабіў? Ты знай вучыся ды вядзі сябе добра. А то маму зноў дырэктар выклікае.

А сябра Гена Сільчанка з VIII класа нават пасмяяўся з Санькі.

— Кажаш, падміргнуў Хаім Шлёмавіч і сілком труса вырваў, — здагадліва ўсміхнуўся Гена. — Ну, і дурны-ж ты, Санька. Ён-жа ўпэўнены быў, што гэта «левы» трус.

— Як «левы»? — не зразумеў Санька.

— Ну, крадзены. Таму даверыў табе і на кватэру аднесці. Верабей ён страляны, ведае нашага брата.

Гена дастаў з папяровага кулёчка цёплы піражок і прапанаваў Саньку.

— Хочаш? А я галодны, брат. Сёння мачыха зноў есці не дала. З бацькам палаецца, а на мне злосць спаганяе. Злосная яна ў мяне, як баба-Яга. Бацька і той яе баіцца. Ён тады ў сваёй пажарнай і начавацъ застаецца.

— А на піражкі ўсё-ж дае мачыха, — зазначыў Санька.

— Чакай, дасць яна!.. Слухай, — звярнуўся нечакана Гена да Санькі. — Прыходзь у сем вечара да кінотэатра «Комсамолец». Паглядзім «Пана 420», а потым яшчэ куды-небудзь сходзім. Райма будзе.

— Які Райма?

— Ды ты ведаеш яго — Раман Равінскі. Летась у нашай 5-й школе вучыўся. Цяпер яго ўсе Раймай завуць.

— Не ведаю, ці дасць мама грошай, — няўпэўнена адказаў Санька.

— Грошы — вось яны, хопіць, — Гена выняў з кішэні некалькі дзесяцірублёвак.

— Адкуль у цябе столькі?

— Прыходзь, сам убачыш, адкуль, — таямніча адказаў Гена.

Да кінотэатра Санька прыбег за тры хвіліны да пачатку сеанса. Райма, хударлявы падлетак у шэрай кепцы з брылем-малюткай, з папяросай у зубах, развязна працягнуў Саньку руку.

— Чаму так позна? — спытаў ён, сплюнуўшы на тратуар.

— Маці не пускала, пакуль урокі не вывучу, — апраўдваўся Санька. — У школу яе выклікалі, дык яна і насела цяпер.

— А я школу пабаку. Спрабаваў працаваць, а цяпер — вольны птах, — з пахвальбой зазначыў Райма.

Каля чатырох гадзін падлеткі бурна перажывалі небяспечныя прыгоды Раджа Капура і апамяталіся толькі тады, калі ў зале загарэлася святло.

— Ну, а цяпер айда! — шчоўкнуў пальцамі Райма.

— Мне вось сюды, направа, — не зразумеў Санька.

Райма пагардліва змераў яго вачамі. А Гена прыглушана растлумачыў:

— Сёння ў нас «паклёўка» намячаецца. Райма нагледзеў хлеўчык з трусамі. Вось мы іх і прыручым.

— Ну, што ты, — адхіснуўся Санька.

— Хадзем, чаго ты, — тузануў за рукаў Райма. — Там ангоры не раўня тваім. Трыццатку Хаім не думаючы выкіне.

У першыя хвіліны думкі роем закружыліся ў галаве Санькі. Але паступова ён супакоіўся. Перад вачамі паўставала зухаватасць Раджа Капура, «Пана 420». Гэта нават цікава, рамантычна.

Калі Райма пачаў адрываць дошку, у грудзях Санькі нешта абарвалася, па скуры прабеглі халодныя мурашкі.

— Трымай, — Райма працягнуў яму вялізнага цёмнага труса, які безупынна дрыгаў заднімі нагамі.

...Неўзабаве хлопцы апынуліся на знаёмым для Санькі двары дома па Маякоўскай вуліцы. Адчыніў сам Хаім Шлёмавіч. Як і прарочыў Райма, не таргуючыся, даў па тры чырвонцы за кожнага труса.

— Калі яшчэ прынесці? — спытаў Райма.

— На тыдзень мне з сям'ёй гэтых хопіць, — адказаў гаспадар. — А там валяйце зноў. Толькі-ж глядзіце,ваўчаняты, нікому ні гу-гу.

Не паспеў Санька зрасходаваць выручку ад першай начной удачы, як Гена з Раймам запрасілі на новую. На гэты раз у яго кішэні апынулася не 30 рублёў, а ўдвая больш. Так пачалося ў Санькі сваё, падпольнае жыццё.

Потым доўгі час кампаніі не ўдавалася разведаць новы аб'ект для налёту. А грошы тым часам выйшлі. Санька-ж ужо не супраць быў заглянуць у піўную, дзе яму некалькі разоў давялося пабываць з Раймам. Тут яшчэ сустрэўся Хаім Шлёмавіч, спытаў са сваёй нахабнай усмешкай:

— Чаму-ж так доўга не заглядваеце? Разбагацелі, мабыць?

Тады Санька ўпершыню сам распрацаваў план начной аперацыі. Па суседству з ім жыў яго аднакласнік Алёша Ацута. Не сказаць, каб хлопцы моцна дружылі, — проста былі добрымі прыяцелямі. Калі Алёша прыдбаў двух трусоў, Санька, як стары аматар трусаводства, даваў яму парады, як даглядаць гэтых непатрабавальных істот.

І вось цяпер ён вырашыў пераправіць прыяцелевых трусоў на кухню Хаіма Шлёмавіча. Паколькі здабыча прадбачылася невялікая, Санька запрасіў толькі Гену. Дзейнічалі хлопцы смела і ўпэўнена, бо Саньку тут былі знаёмы ўсе хады. Калі алёшаў сабака забрахаў, Санька ціхенька пасвістаў, і той адразу супакоіўся. Пералезлі цераз плот, Санька заклаў у прабой загадзя падрыхтаваны прэнт, і хлопцы без шуму ўвайшлі ў хляўчук. Далей пайшло яшчэ прасцей: узяць з клетак двух трусоў і аднесці іх Левіну нічога не каштавала.

Ужо засынаючы, Санька ўявіў сабе збянтэжаны твар прыяцеля Алёшы Ацуты, калі ён убачыць раніцой пустую клетку. «Хай сто гадоў думае, а не здагадаецца, што я ўзяў», — спрабаваў суцешыць сябе Санька.

Раніцой Алёша прывёў участковага міліцыянера тав. Шчарбацэвіча. Не ведаем, якімі меркаваннямі кіраваўся тав. Шчарбацэвіч, але ён адразу пайшоў да Хаванскіх. Убачыўшы міліцыянера, Санька пачырванеў да вушэй — даволі красамоўная прыкмета кожнага, у каго сумленне нячыстае.

— Пакажыце ваш пашпарт, малады чалавек, — прапанаваў участковы.

Адчуўшы нешта нядобрае, устрывожаная маці паспяшалася растлумачыць:

— Які ў яго пашпарт! Яму толькі пятнаццаць год.

— Што-ж, пойдзем у аддзяленне, бяспашпартны злачынца, — спагадліва паглядзеў на маці міліцыянер.

У аддзяленні Санька ва ўсім прызнаўся. Прызнаўся і Гена Сільчанка. Сябры гатовы былі прыняць любое пакаранне. Толькі адно наводзіла іх на жах: сустрэча з Алёшам Ацутай.

— А сустрэцца трэба, — усміхнуўся ўчастковы. — Вы павінны вярнуць яму крадзенае. Ваш сябрук перажывае — апошніх трусоў укралі.

Убачыўшы сваіх пастаўшчыкоў у суправаджэнні міліцыянера, Хаім Шлёмавіч Левін пабялеў. Спачатку здавалася, што ён анямеў. Жонка была больш «знаходлівай»: выкінула ў памыйнае вядро недасмажаную трусяціну і пакінула мужа аднаго на полі бою.

— Я вас не ведаю!.. — такімі былі першыя словы гаспадара.

— Дзядзечка, аддайце трусоў, вашы грошы мы прынеслі, — заенчыў Санька.

Цяпер да гаспадара вярнулася яго кемлівасць.

— Бачыце, таварыш міліцыянер, я не краў, я плаціў грошы.

Ён хуценька прынёс з бакоўкі труса і растлумачыў, што другога ўжо забілі. Паслужліва падпісаў пратакол. На развітанне з дакорам паківаў галавой:

— Ай-яй-яй! Хто-б мог падумаць? На выгляд такія рахманыя хлопцы. Ну, і свет пайшоў!

А Гена і Санька гатовы былі праваліцца скрозь зямлю. З трусам, у суправаджэнні міліцыянера, яны вымушаны былі ісці ледзь не праз увесь горад. Але самае страшнае іх чакала наперадзе: сустрэча з Алёшам. Той спачатку аслупянеў. Як, Санька, прыяцель і аднакласнік, пакваліўся на яго трусоў? Ды гэта, напэўна, жарты? Але міліцыянер не жартаваў, папрасіў Алёшу і яго маці падпісаць пратакол і развітаўся.

Доўгім, цягучым было маўчанне. Нарэшце, Санька асмеліўся:

— Алёшка, я табе яшчэ сваіх пару трусоў... чэснае слова... Толькі ты ў школе не гавары... Га, Алёшка?

— Ат, — рэзка адмахнуўся Алёша і выйшаў з хаты.

На Аляксандра Хаванскага і Генадзія Сільчанку міліцыя ўзбудзіла справу. Да суда, праўда, не дайшло. Пракурор, улічваючы ўзрост хлопцаў, іх шчырае прызнанне, спыніў справу.

Аб пакутлівых перажываннях Санькі Хаванскага мы ўжо гаварылі ў пачатку. На гэтым, бадай, можна было-б і закончыць размову аб трусінай гісторыі, якая адбылася ў горадзе Баранавічы ў кастрычніку мінулага года.

Толькі нам хочацца вярнуцца яшчэ да Хаіма Шлёмавіча Левіна. Левін адчувае сябе спакойна. Яго больш ніхто не турбуе. Ды і завошта турбаваць? Зараз ён купляе трусяціну на рынку. Яно хоць і даражэй намнога, затое менш рызыкі.

Дзіўна толькі, чаму такіх людзей міліцыя пакідае ў спакоі? Хто можа паручыцца, што Хаім Шлёмавіч не знойдзе сабе яшчэ няпоўналетніх пастаўшчыкоў таннага мяса? Праўда, ён не крадзе і не забівае. Ён плаціць чыстаганам. Але якраз такія «чыстаганшчыкі» і з'яўляюцца той глебай, на якой вельмі хутка размнажаецца пустазелле.

Дзіўная пазіцыя міліцыі яшчэ і ў другіх адносінах. На Хаванскага і Сільчанку яна афарміла справу ў суд і на гэтым сваю місію палічыла закончанай. А паведаміць у школу аб ганебных учынках двух вучняў тут не палічылі патрэбным. Толькі праз месяц, і прытым выпадкова, у школе зразумелі, чаму дзевяцікласнік Аляксандр Хаванскі так змяніўся ў сваіх паводзінах, чаму Аляксей Ацута не размаўляе з ім. Ужо не будзем гаварыць аб тым, што Пімен Пракопавіч Сільчанка і Аляксандр Іванавіч Хаванскі, бацькі Гены і Санькі, бяду сваіх сыноў вырашылі перажыць «сямейна».

Школа, шырокая грамадскасць таксама-ж з'яўляюцца той сям'ёй, якая павінна выхоўваць нашу моладзь чэснай, высокароднай.

**г. Баранавічы.**

**П. БЕРАЗНЯК.**

**З кожным годам павялічваецца колькасць калгасаў, якія назаўсёды пазбавіліся ад газавых лямпаў. Дзесяткі сельгасарцеляў маюць ужо свае электрастанцыі. У 1956 годзе пабудаваў сваю электрастанцыю і калгас «Вялікі Кастрычнік» Карэліцкага раёна.**



# У тваёй хаце, гаспадынька...

**Ала КАНСТАНЦІНАВА,**
**сакратар Гарадзішчанскага райкома ЛКСМБ**

Мал. А. Волкава.

Неяк я зайшла ў хату да Тоні Ждан і спытала, дзе яна. Маці ледзь не загаласіла:

— Няма яе, няма... Сама не ведаю, як я згадзілася яе замуж аддаць. Паехалі сёння маладыя распісвацца. І як я цяпер буду без яе? Яна-ж у мяне рукадзельніца, яна-ж мая ахайніца...

Жанчына падняла ражок фартуха да вачэй, а я пачала суцяшаць старую: «Не прападзе Тоня, такая здатная дзяўчына; будзе з яе добрая гаспадыня». І сапраўды. Сляды тонінай рупнасці ў хаце відаць усюды. Падлога бліШчыць, як яечны жаўток, беласнежны ложак акуратна запраўлены, на стале чысты, прыгожа вышыты абрус, цешаць вока вышыўкі, карункі. У хаце шмат кветак. Відаць-такі, што Тоня і сапраўды выдумшчыца, рукадзельніца, любіць чысціню. З выгляду здаецца тоніна хата і непрыкметная, а ў сярэдзіне — святлічка.



Тоня — калгасніца, шмат занята на вытворчасці, але знаходзіць час для таго, каб памыць падлогу, падбіць падушкі, дагледзець кветкі...

Праз некалькі хат жыве другая дзяўчына Нэля, аднагодка Тоні. Умовы жыцця ў іх аднолькавыя, але нельга сказаць пра Нэлю тое, што пра яе сяброўку. І ў іх такая-ж сям'я, у доме ўсе дарослыя, але парадку ў хаце няма. На закопчаных сценах, у кутках замест ручнікоў і карункаў павукі сплялі свае «карункі», пасцель на ложку змятая — нехта сядзеў і не паправіў, на стале ссунуты на самы край брудны абрус. Тут-жа шматкі газет, брудныя лыжкі, на лаўцы валяецца брудная хустка; шыбы ў вокнах невядома калі праціраліся. Аб рукадзеллі ўжо няма чаго і казаць. А паглядзець, дык Нэля такая-ж бойкая дзяўчына, здавалася-б, у яе ўсё павінна гарэць у руках, але атрымліваецца зусім інакш. Знешні выгляд, аказваецца, часам, падманлівы.

Мне даводзіцца шмат ездзіць па вёсках, назіраць жыццё і быт вясковых людзей, і хочацца выказаць некаторыя свае думкі. Пагля-дзіш іншы раз на вёску, здаецца, нічым яна не адрозніваецца ад другой, што побач, аднак людзі тут жывуць не так, як у першай. Ёсць у нас такая вёска — Драгабыль. Здаецца, і вёска, як трэба, прыгожая, уся зялёная ўлетку, і хаты не благія, і вуліцы шырокія, прасторныя. Можна падумаць, што і людзі ў гэтых хатах жывуць чыста, прыгожа. Але гэта не так. Часта, калі заходзіш у хату, яшчэ з парога можна чуць: «Не ступіце ў цэбар, там мешанка!» Гэты цэбар аказваецца звычайна чамусьці пад нагамі. Пасля трэба прабіцца праз загародак брудных саганоў, жбаноў, тут-жа і свіное карыта, якое прынеслі ў хату, каб адтаяла, а дзе-небудзь сярод усяго гэтага ў бруднай лужыне стаіць так званае чыстае вядро з вадой. Тут-жа і гаспадыня, нерасчэсаная, у пыльнай запэцканай хустцы, завіхаецца каля чорнай, даўно не беленай печы; на прыпеку поўна попелу, вугалля. З непрыбранага ложка тырчыць салома, прыкрытая зашмальцаванай дзяругай; навалачкі на падушках можа з поўгода не бачылі вады і мыла, пад ложкам, на печы напхана ўсялякага рыззя.

І ўсё гэта чамусьці лічаць дробяззю. Паспрабуй, скажы такой гаспадыні, што ў яе непарадак, яна зараз-жа знойдзе адказ, што ёй няма часу выструньваць, што ёй трэба бегчы на работу ў калгас, ды і наогул у яе не горш, як у людзей, і чаго, моў, да яе прычапіліся.



Вось гэтае «не горш, як у людзей» і падтрымлівае ў многіх вёсках традыцыйны бруд.



Ёсць такія гаспадыні ў вёсцы Драгабыль. Узяць хоць-бы жонку драгабыльскага калгасніка Віктара Шведа. Маладая сям'я жыве ў дастатку, а ў хаце ў Шведаў чорт нагу зломіць. А яна-ж настаўніца. Хто, як не яна, павінна быць прыкладам у вёсцы!

Крыўдна, што такой расце тут і моладзь. Мы, камсамольскія работнікі, яшчэ вельмі мала робім для таго, каб прывіваць вясковай моладзі любоў да разумення прыгожага, да чысціні. Мы часам праходзім і не заўважаем, што расце малады чалавек ці дзяўчына, не прывучаючыся да акуратнасці, гаспадарлівасці. Бывае, што калі вечарамі збяруцца ў вёсцы да каго-небудзь пасядзець, то гэтая хата за адзін вечар можа ператварыцца ў хлеў. Накураць да таго, што хоць сякеру вешай. Ідучы ў дом, ног, як правіла, хлопцы не выціраюць. Калі каму спатрэбілася плюнуць, робіць гэта тут-жа, проста на падлогу. Нават калі ёсць незанятыя лаўкі ці зэдлікі, садзяцца на ложак. Гэта значыць, зусім не шануецца праца гаспадыні, ды і сама гаспадыня часам не асабліва аб гэтым турбуецца, лічыць гэта звычайнай з'явай. Больш таго, нават калі хто і зробіць спробу абабіць ногі ў парозе, дык можа часта пачуць:



— Ды нічога, не трэба! Праходзьце, у нас тут усёадно брудна.



І гэта чамусьці лічыцца за выказванне гасціннасці.

У нашым раёне яшчэ ёсць цэлыя вёскі, якія славяцца сваім брудам на ўсю ваколіцу. Да ліку такіх адносіцца і вёска Данейкі. Яе празвалі блыхатнікам. Гэтая вёска ўваходзіць у калгас «17 верасня», які ў гэтым годзе мае двухмільённы даход. Вясковая камсамольская арганізацыя налічвае больш 30 чалавек.

Шмат бруду і ў вёсцы Андрэеўцы. Але камсамольцы на чале з сакратаром камсамольскай арганізацыі Ларысай Хранoўскай не змагаюцца за чысціню.



Трэба аб'явіць бязлітасную вайну традыцыйнаму бруду ў хатах, вайну безгустоўнасці ва ўпрыгожванні вясковых пакояў. У першую чаргу за гэта павінны ўзяцца дзяўчаты-камсамолкі, маладыя вясковыя гаспадыні. А то ў нас часам бывае так: пакуль была дзяўчына, яшчэ сяк-так, як кажуць, чапурылася, глядзела за сабой і ў хаце. Як толькі выйшла замуж ды

яшчэ паявілася дзіця, і не пазнаеш ранейшай дзяўчыны: ходзіць брудная, расхрыстаная, непрычэсаная, і на ўсё адзін адказ: «Ат, што мне абыходзіць, я-ж, можа, не дзеўка». Быццам-бы чыстай і акуратнай павінна быць толькі дзяўчына і то толькі для таго, каб хлопцы любілі.



Мне неяк давялося быць у хаце ў адной такой маладой гаспадыні. Гэтыя маладажоны жывуць у нас у вёсцы Ятвезь, якая ўваходзіць у калгас «Беларусь». Як толькі мы пераступілі парог хаты, у твар дыхнула такім затхлым паветрам, што хоць нос затыкай. Хата гэтая, мабыць, колькі і стаіць, ніколі не праветрывалася. А дзіця ў калысцы спала, аблiваючыся потам, цяжка дыхала, накрытае з тварыкам цёплай коўдрай. Маці-ж не праветрывае хату толькі таму, што баіцца, каб не прастудзіць дзіця. Ёй няўцям, што такое паветра можа хутчэй узбудзіць розныя захворванні.



А колькі ў нас дзяўчат у вёсках ужо з сярэдняй адукацыяй, але і яны не ўмеюць нават добра сабе кашулю вымыць і чакаюць, каб гэта зрабіла маці. Ды ці вялікая адукацыя патрэбна, каб прыбраць у хаце, памыць падлогу, прывесці хатнія рэчы ў парадак. У доме Жыгараў з вёскі Кісялі ёсць васьмікласніца Валянціна, нядрэнная вучаніца, ужо дарослая дзяўчына. Яе брат Фадзей, малады камбайнер, якім ганарыцца калектыў Гарадзішчанскай МТС. Здавалася-б, у гэтых людзей усюды павінен быць парадак—і ў хаце, і на двары. Праўда, знадворку хата выглядае нядрэнна, побач малады садок, прысады. Але калі заглянуць у хату, то можна падумаць, што ніхто тут ні да чаго не прыкладваў рук, усё так запушчана. Нават ручнікі, якімі завешаны кут, і тыя страцілі свой колер, яны чорныя, як ганчуркі.



У паходзе за чысты і здаровы быт у нашай вёсцы вялікую дапамогу можа аказаць сельская інтэлігенцыя — настаўнікі, медработнікі, служачыя. Іх кватэры, хаты павінны быць узорам для вясковага насельніцтва. Нажаль, гэта не заўсёды так бывае. У кватэрах вясковых інтэлігентаў можна на сценах убачыць безгустоўныя малюнкі, накшталт недарэчных ільвоў, якія разлегліся сярод карлікавых пальмаў.

Настаўніцу часам можна сустрэць на ўроку ў класе ў невыпрасаванай сукенцы, сяк-так нацягнутай на сябе. У класных пакоях поўна бруду; вучні апрануты неахайна, брудныя. Настаўніца не звяртае ўвагі, калі вучань пры адказе на ўроку стаіць уразвалку або хістаецца, адчыняе і зачыняе вечка парты, шморгае носам, круціць галавой... Усё гэта лічыцца дробяззю. Нават на адкрытых уроках, як гэта было ў Ятвезьскай школе ў чацвёртым класе, на гэтыя дробязі настаўнікі, што былі тут, не звярнулі ўвагі. А гэтыя-ж хлапчукі і дзяўчынкі—заўтрашнія працаўнікі вёскі. Можа атрымацца так, што і ў людзі яны выйдуць без элементарнага паняцця аб правілах паводзін.

Не выпадкова, што ў грамадскіх месцах, а асабліва на вясковых вечарынках у нас хлопцы лічаць «шыкам» танцаваць польку ў шапках, з папяросаю ў зубах, у верхняй вопратцы. Не будзем гаварыць, што, як правіла, не абыходзіцца без выпіўкі. І часта такія вечарынкі заканчваюцца сваркай і нават бойкай.

Мне думаецца, што гэтаму можна пакласці канец. Трэба толькі, каб комсамольскія арганізацыі на месцы не лічылі ўсе гэтыя пытанні дробяззю, а сур'ёзна адносіліся да іх. У першую чаргу, прыклад павінны паказаць самі комсамольцы.

Нядаўна ў калгасе «Пераможац» праходзіў вечар маладых жывёлаводаў. Уся моладзь была задаволена вечарам, бо прайшоў ён культурна, весела. Хто хацеў пакурыць, выходзіў на двор. Мы згаварыліся з дзяўчатамі аб'явіць байкот тым хлопцам, якія будуць паводзіць сябе некультурна, і не ісці з імі ў танцы. Вядома, за нас была і група хлопцаў, якія дапамагалі ў гэтым. Спачатку знаходзіліся такія, што не хацелі распранацца, імкнуліся курыць. Тады некалькі дзяўчат падыходзілі да такога хлопца і прымушалі яго падпарадкавацца нашаму патрабаванню. Праўда, знаходзіліся і дзяўчаты, што не вытрымлівалі гэтай умовы і ішлі танцаваць з такім хлопцам. Тады актывісты акружалі такую пару і прапанавалі або выканаць патрабаванне калектыву, або выйсці з танца. Спачатку ўсё не ішло гладка, некаторыя з хлопцаў, што паспелі заглянуць у чарку, казырыліся, намагаючыся запалохаць актывістаў і ўзяць ініцыятыву ў свае рукі. Але калі яны адчулі сілу калектыву, то запал іх астыў і ўжо да канца вечара ўсё ішло як мае быць.

Хлопцы і дзяўчаты тады адкрыта заявілі:

— Каб у нас на вечарынках заўсёды быў хто са старэйшых, быў-бы парадак.

Вось і трэба, каб на вечарынкі заходзілі часцей вясковыя інтэлігенты, настаўнікі, ды і самі паказвалі моладзі прыклад у паводзінах. А ў нас, між іншым, ёсць такія маладыя настаўнікі, што не жадаюць паказацца сярод сельскай моладзі, думаюць, што ад гэтага можа пацярпець іх аўтарытэт. Гэта можна сказаць пра Тамару Ляўданскую і Людмілу Серадзінскую з Маўчадскай школы. Іх ніколі не ўбачыш у сельскім клубе на вечары або на лекцыі, хіба толькі ў кіно. Яны лічаць за лепшае праматўчаць, калі на іх вачах робяцца непрыстойнасці.

Мы павінны змагацца за тое, каб у чалавеку было ўсё прыгожае: і твар, і адзенне, і душа, і думкі, як сказаў вялікі рускі пісьменнік Антон Паўлавіч Чэхаў. Дарэчы, аб адзенні. Няспынна павышаецца матэрыяльны дабрабыт вёскі, багацеюць калгасы нашага раёна. Сёння багата апранаецца вясковая моладзь. Паркаль пайшоў ужо «ў адстаўку», гэта-ж можна сказаць і аб штапелі; дзяўчатам падавай кашэмір, крэпдэшын. Гэта вельмі добра! Нядобра толькі тое, што шыюцца часам сукенкі, кофты безгустоўна, без уліку асаблівасцей пастаці. Але нават і не ў гэтым бяда. Часта не шануюць гэтага адзення. Многія дзяўчаты ходзяць да малатарні або бульбу капаць у штапельных сукенках, у капронавых панчохах, хутка забруджваюць іх і не часта мыюць, асабліва панчохі. Як насуне іншая дзяўчына панчохі, дык пакуль пяты не павылазяць, не здыме з ног. А калі дзе вочка зляціць, не паклапоціцца хутчэй яго зашыць, а так і ходзіць, пакуль панчоха не раз'едзецца.





Няхай не пасміхаюцца і хлопцы, яны часам таксама не лепшыя! Купіць іншы кірзавыя боты і за ўвесь час іх не толькі не чысціць, а нават гразі не абшкрабе.

Адначасова трэба было-б яшчэ ўзняць і такое пытанне. У нашых вёсках ёсць добрыя будынкі для жывёлы, будуюцца электрастанцыі, артэзіянскія калодзежы, але амаль ні ў адным калгасе няма лазні. А дома як ні мыйся, усёадно гэта не тое. Нельга ўсё-ж такі змагацца за чысціню без лазні. Час было-б вырашыць і «праблему» будаўніцтва калгасных лазняў. Моладзь за гэтую справу возьмецца з ахвотай. Трэба толькі, каб нас у гэтым падтрымалі старшыні калгасаў, сельскія Советы.

Трэба сур'ёзна брацца нам за навядзенне чысціні і парадку не толькі ў дамах, але і каля іх, на дварах, на вясковых вуліцах. Тут таксама прадстаіць не менш работы. Узяць хоцьбы калодзежы. Яны-ж у многіх месцах недагледжаны, забруджаны. Як правіла, вядра агульнага пры калодзежы няма, і ўсе чэрпаюць ваду сваімі вёдрамі.

Можна і трэба прывесці ў належны выгляд агародчыкі, пад вокнамі больш насадзіць кветак, зрабіць лавачкі, як гэта ўжо ёсць у некаторых нашых вёсках.

Трэба больш шаноўна адносіцца і да прыгожай нашай прыроды. З болем у сэрцы глядзіш, як іншы раз бязлітасная рука высякае цудоўны алешнік па-над рэчкай, прыдарожныя прысады. У вёсцы Паланечка ёсць сярэдняя школа. Добры, прыгожы будынак размешчаны ў былым маёнтку князя Радзівіла. Штогод вучні садзяць тут дрэвы. І ў мінулым годзе за месячнік яны пасадзілі каля 300 дрэўцаў. Але ніхто не падумаў аб тым, каб зберагчы гэтыя пасадкі. Больш таго, нікога не хвалюе, што на дарозе каля школьнай сядзібы пачалі спілоўваць прыгожыя векавыя ліпы, якія былі высаджаны тут некалі. Або такі прыклад. Настаўнік Мядзеневіцкай пачатковай школы Рыгор Георгіевіч Комар перад адыходам на вайсковую службу разам з вучнямі тры гады таму назад абсадзіў сядзібу школы бярозкамі, кустамі бэзу, чаромхі.

— Думаў, як прыеду, вялікія дрэвы ўжо будуць,—расказвае ён. — Ажно іх і следу не засталося. Вакол школы — пустэча!

І так у многіх вёсках.

Наш райком комсамола, абапіраючыся на шырокі актыў, павёў барацьбу за здаровы быт моладзі, за ўпрыгожванне нашых вёсак, нашага роднага краю, за зберажэнне зялёных насаджэнняў. Але часам барацьба гэтая ў нас разумеецца аднабакова і не выкаранены яшчэ ўплыў кампанейшчыны.

У гэтых важных пытаннях не павінна быць кампанейшчыны. Тут неабходна пастаянная, сістэматычная, карпатлівая работа, бо гэта звязана з выхаваннем моладзі, з фармаваннем яе свядомасці. Выхаваць-жа аднаго чалавека у дзесяць разоў цяжэй, чым зрабіць самую складаную машыну. Не трэба забываць, што і развіццё маральных якасцей чалавека залежыць ад культурных і бытавых навыкаў.

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# У гасціннай МАЛДАВІІ

Гэта было позняй восенню, калі кастрычніцкі дзень гаспадарыў на малдаўскіх палях, шчодрых на багатыя скарбы і прыгажосць. Мінаюць сады прыгарада Кішынёва, і перад намі бясконцая роўнядзь палёў.

Дарога плыве пад калёсы машыны, блішчыць асфальтаваным глянцам, бяжыць несупынна наперад да сінеючых даляў. Мільгаюць прыдарожныя малдаўскія вёскі ў цяністых купах дрэў. Бялюткія домікі, збудаваныя з саманнай цэглы альбо плітак мясцовага вапняку, упрыгожаны каляровымі налічнікамі на вокнах.

Машыны спыняюцца каля будынкаў праўлення калгаса «Вяца Ноўэ» (Новае жыццё) Тэленешскага раёна. Гэты калгас арганізаваны ў 1946 годзе, пасля вызвалення Малдавіі ад фашысцкіх захопніцкіх орд.

— Тут навокал быў пустыр, на якім расло дзікае зелле ды высачэзныя чартапалохі, — гаворыць сакратар партарганізацыі т. Хомскі. — Частку зямлі давялося адваяваць ад забалочанай мясцовасці, па якой цячэ наша рэчка, а на большай частцы расцерабілі хмызнякі ды падлескі, якія добра прыжыліся на пладавітых малдаўскіх адхонах. Цяпер там расце вінаград. Давялося наводзіць тут свой парадак, перайначваць прыроду. Дзе карчавалі, а дзе садзілі маладыя дубкі і акацыі. Вось праедзем па нашых палях, між нашых лясных палос, якія ўжо верхавінамі падпіраюць неба. Прыгожыя і цяністыя нашы палосы.

На сцяне ў канторы калгаса «Вяца Ноўэ» вывешаны табліцы росту і развіцця шматгаліннай гаспадаркі. У 1955 годзе гаспадарка дала прыбытку звыш пяці мільёнаў рублёў, а ў 1956 годзе чакаецца прыбытак у сем мільёнаў.

— Такую гаспадарку, як наша, пешшу не абыйдзеш, — жартуе сакратар, — нават каб аб'ехаць на кані, дык дня не хопіць.

Мы зноў сярод бясконцых палёў. Вось, нібы лес, пад ветрам шуміць кукурузнае поле. На другім канцы ўчастка грукочуць машыны і завіхаюцца людзі на ўборцы. Яшчэ стаяць цёплыя восеньскія дзянькі. Парывісты вецер нясе і сыпле ў твар чарацяны пух. Ён садзіцца на адзенне, прыліпае да твару. Гэта сведчыць аб тым, што недалёка знаходзяцца плаўні, на якіх сцяной стаяць чараты. Тут па-гаспадарску выкарыстоўваецца і гэтая, здавалася-б, марная расліна. Вось кучкі чароту стаяць паўз дарогі. Летнія стайні для жывёлы зроблены з гэтай расліны.

Спыняемся каля новенькага доміка, які спецыяльна збудаваны для даярак. Знаёмячы нас са знатнымі даяркамі, сакратар робіць заўвагу:

— Характэрным для нашага калгаса з'яўляецца тое, што ў нас працуе пераважна моладзь. У нас свая сярэдняя школа, і тыя, хто яе заканчвае, застаюцца на пастаянную працу ў калгасе.

Утульна і чыста ў пакоях, дзе жывуць даяркі. На ложках беласнежная бялізна і прыгожыя коўдры. Асобны пакойчык брыгадзіра, у якім на століку ляжыць неабходная літаратура і розныя прыборы для вымервання і даследвання малака. На сцяне ў рамачцы пад шклом дыплом Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі і залаты медаль, прысуджаны брыгадзе Елены Георгіеўны Рошка. Брыгада дабілася вялікіх надояў малака. Вось паказчыкі яе працы:

Рошка Елена надаіла 4061 літр,
Чабану Прафіра — 4007 літраў,
Федзю Ніна — 3098 літраў.

Толькі ў парадку дадатковай аплаты даяркам выдадзена 100 тон малака.

Разам з дзяўчатамі мы аглядаем памяшканне фермы. Усюды парадак і чысціня. Добра ўкормлены статак у час і добра даглядаецца. У кожнай каровы ёсць аўтапаілка, у кармушкі падаецца шаткаваная гародніна.

Не ў горшым стане аказаўся і адкормачны свінапункт, дзе таксама працуе выключна моладзь. Свінні размешчаны па асобных секцыях. Свінаматкі з малымі парасятамі знаходзяцца на асобным рацыёне. Для ўсяго пагалоўя зроблены штучныя купальні.

Недалёка ад свінафермы на дзесятках гектараў — гарбузнае поле. Быццам абветраныя гранітныя валуны, ляжаць жоўтабокія і ружовыя гарбузы. Тут, на гэтым полі, да нас падышоў не стары, але ўвесь сівы чалавек, які, знаёмячыся з намі, назваў сябе Глушко Барысам Уладзіміравічам. Гэта і быў старшыня калгаса, якога мы так хацелі пабачыць. Барыс Уладзіміравіч аграном-вучоны. Ім напісана шмат навуковых работ, яму прысвоена вучоная ступень кандыдата сельскагаспадарчых навук. Ён з'яўляецца першым арганізатарам гэтага калгаса. Уся яго дзейнасць падпарадкавана клопатам аб дабрабыце калгаснікаў. За гады яго работы калгас пабудаваў гідрастанцыю, жылыя пасёлкі, мае сваю бальніцу, два радзільныя дамы, пяць дзіцячых ясляў, свой радыёвузел, школу-дзесяцігодку, клуб, лазню і іншыя культурна-бытавыя ўстановы.

Хоць і сівая галава ў Барыса Уладзіміравіча, але душа ў яго маладая. Ён сам увесь у будучым, бачыць свой калгас на дзесяткі гадоў наперад.

— У гэтым годзе пачнем будаваць новую гідрастанцыю каля вёскі Сарэтаны. Трэба, каб калгаснікі мелі магчымасць у быту карыстацца таннай энергіяй. Ужо і сёння ў многіх калгаснікаў ёсць радыёпрыёмнікі, электрычныя прасы, чайнікі. Але энергіі нам пакуль што не хапае.

У залатым асеннім убранні стаяць полеахоўныя палосы. Між іх, нібы схаваўшыся ад асенняга ветру, у зацішку прытуліліся кучаравыя яблыні, яшчэ ўвешаныя залацістымі ранетамі. І сад, і вінаградныя плантацыі даюць калгасу добры прыбытак. З кожным годам усё больш і больш асвойваецца зямлі пад вінаграднікі.

Мы аглядаем маладыя вінаграднікі. Высокія поўднёвыя адхоны толькі тры гады таму назад засаджаны. Але ўжо ў гэтым годзе плантацыі далі многа вінаграду. Велізарныя гронкі скрозь вісяць на маладых, яшчэ не вельмі моцных галінках. За апошнія гады збор вінаграду ў калгасе павялічыўся амаль у два разы.

У шырокім двары ляскацяць рухавічок. На велізарных вазах падвезены гронкі чырвоных і жоўтых ягад вінаграду. Як у малатарню, віламі падаецца вінаград пад вальцы прэса. Чырвоны сок струменямі ліецца ў велізарныя цэментавыя чаны. У гэтым годзе вінапункт павінен прыняць вінаград з 120 гектараў.

— Каштуйце «сусла», — так называецца свежы вінаградны сок, — толькі не захапляйцеся, бо з

Елена Кажухаль з соўгаса Раманешці за зборам вінаграду.
Фото С. Гальперына.



непрывычкі можна захварэць, — прапануе нам малады невысокага росту, з чорнымі цыганскімі вачамі чалавек, спецыяліст-вінароб Плошніца Аляксей Уладзіміравіч. Ён паказвае нам падвалы калгаснай вінаробні і расказвае, якім чынам вінаградны сок ператвараецца ў іскрыстае чароўнае віно.

Зноў мільгаюць адна за другою цяністыя алеі лесанасаджэнняў. А далей, як кінуць вокам, зелянее шаўковы дыван азімай пшаніцы. Яна купчаста разраслася на неабсяжным полі, і, здаецца, няма канца гэтаму бязмежнаму акіяну.

— Пакаштуйце нашых арэхаў, такія, відаць, у вас не растуць, — прапануюць гасцінныя гаспадары.

Для нас, беларусаў, сапраўды, такія арэхі з'яўляюцца дзівам. У нас іх, гэтыя арэхі, адны называюць заморскімі, а другія — турэцкімі.

...Прыемным і захапляючым было гэтае падарожжа па братняй гасціннай Малдавіі. З сабою мы павезлі з гэтай цудоўнай краіны сардэчную дружбу, нязгасныя пачуцці чалавечай братняй прыязні.

Андрэй ЛУПАН

## НА ЦАЛІНЕ — ПІСЬМЕННІК МАЛАДЫ

На цаліне — пісьменнік малады
Працуе з ранку і да зорак позніх.
І трактарам, каб выраслі плады,
Як ручкай піша дзесяцібарозны.
Вякамі спалі чорныя пласты,
Іх плуг магутны будзіць сталлю чыстай,
І першай кнігі першыя лісты
Пералістаны сёння трактарыстам.
Як пачынаў ён — не скажу аб тым,
Але я ўбачыў, як душой ён вырас.
Як заблішчэў праменнем залатым
Яго душы натхнёнай строгі вырыс.
Ён галадаў па кнігах да таго,
Што паўтараў гучанне слоў прачутых.
І, як ад кіслых яблык, у яго
Ад гукаў тых быў рот аскомай скуты.
Ён з працы гэтай выкліканы быў
Да лепшых знаўцаў мовы на паруку,
Каб тое ўсё, што сэрцам ён стварыў,
Адшліфаваць і месца даць у друку.
Чаго шукаў, таго ён не знайшоў,
Абураным вярнуўся з Кішынёва
Да роднае зямлі, да працы зноў,
Каб там знайсці натхненню свайму словы.
Ён не блукаў у мгле, згубіўшы шлях,
Быў, як струмень вясенні гаманлівы,
З якога п'е асмяглая зямля,
Каб акіянам красавалі нівы.
Калі ідзеш да мэты напралом,
Ахоплен прагай сэрца маладога,
Свайго ты шчасця будзеш кавалём,
Якое ў марах ты насіў так доўга.
Яно вось тут, дзе гэтыя палі;
Плывуць на крыллях дум яго завеі.
І з баразною першаю зямлі
Збываюцца сардэчныя надзеі.
Прымі вітанне, дружа, ад мяне,
Яно, як дождж, пасля гарачай спёкі.
А будзеш ты пісьменнікам ці не,
Адкажа нівамі прастор шырокі.
Бо ты пустыню змог перамагчы,
Каб зацвілі вясной палёў разлогі,
Цяжкую працу з творчай спалучыў,
Не саступіў з нялёгкае дарогі.
І таленту крыштальны далягляд
Не загубіў ты ў дробязі нязначнай,
Праклаўшы горкі рэстаранны чад,
З бутэлькай пяцізорнаю кан'ячнай.
Што створыць ён у наш славуты век,
Якое месца зойме ён між намі?
Але шаноўны гэты чалавек
З мазолістымі сціплымі рукамі.

Пераклаў з малдаўскай мовы
Мікола ХВЕДАРОВІЧ.



## ГОРА ЧУБАТАЕ

Алесь РЫЛЬКО

Камедыя ў адной дзеі

Мал. Г. Паплаўскага.

**Дзеючыя асобы:**

**Анціп Дубавец** — ветфельчар калгаса, 50 год.
**Куліна** — яго жонка, таго-ж узросту.
**Ляля** — іх дачка, 19 год.
**Даша Сялец** — сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса, звеннявая па ільну, 18 год.
**Мірон Дубавец** — дэмабілізаваны марак, 25 год.

Чыстая палавіна вясковай хаты. Кідаецца ў вочы, што прыбрана яна безгустоўна. На стале ў куце, сярод вазонаў, многа розных адкрыткаў — «відзікаў», гліняных сабачак і кошачак. Над канапай — вялікая зялёна-чырвоная карціна-мазня: пальма ў выглядзе памяла, пад ёй, на беразе фіялетавага возера, сядзіць пані з гусінай шыяй і вылупленымі вачыма, у возеры плаваюць лебедзі.

Апранутая ў квяцісты халат, ляжыць на канапе Ляля і чытае кнігу. Паблізу ад яе на крэслах раскіданы пакамечаныя сукенкі. На галаве ў Лялі мудрагелістая прычоска... Наогул, па свайму ўбранню яна вельмі нагадвае пані з малюнка.

Л я л я (адкладвае ўбок разгорнутую кнігу і гаворыць узнёсла фальшывым голасам). Каханне, ад якога замірае сэрца! Каханне, якое ўспыхвае... гарыць... пырскае рознакаляровымі іскрамі феерверка! Каханне... Ой, не магу... (Заплюснула вочы, прыціснула рукі да грудзей.) Сэрца млее ад кахання... А перад вачыма блакітная ноч у кісейным тумане... (Паўза. Гаворыць радасна.) Нарэшце сёння прыедзе мой Міроннчык! Учора пазваніў па тэлефону. (Саскоквае з канапы, круціцца ў невядомым танцы, напявае.)

Тра-ля-ля-ля-лям!..
Пар-пар-пар-пам!..

(Зрабіла какетлівую позу.) А чым-жа я не прыгажуня? (Далей усе свае якасці дэманструе адпаведнымі рухамі.) Паглядзіце — стройная. Гнуткая — вось якая... Ножкі точаныя — пальчыкі абліжаш... Усмешка — лёд расплавіць... На шчочцы «сімпатыя», пацалуй — і яшчэ захочаш... Хі-хі-хі!.. (Падпяваючы, зноў закружылася ў танцы.)

Моя красавица
Мне очень нравится!..
А тюх-тюх-тюх-тюх!..
А тюх-тюх-тюх-тюх!..

(Спынілася перад люстэркам, папраўляе прычоску.) Прыедзе мой траюрадны брацік, Мірык, а я... І навошта ён траюрадны? Быў бы лепш родным... Родным-родным!.. (Гукае жартуючы.) Мі-рык! Прыязджай хутчэй! (Спакайнейшым голасам.) Паслухай, Мірык, што напісана ў гэтай кнізе. (Чытае напамяць.) «Парыў кахання двух маладых сэрцаў быў падобны да ўрагана над неабсяжнай прасторай акіяна». І далей... (Успамінае, грызучы пазногці.) Як-жа там далей? (Бярэ кнігу, чытае.) «Ён — высокі і стройны, як кіпарыс, яна — гнуткая і ўчэпістая, як ліяна, маладая і свежая, нібы вечназялёная лаўравішня...» Ой, не магу, захліпнулася!.. (Чытае далей.) «Ліяна, падобная лаўравішні, абвілася тонкімі, колеру слановай касці рукамі вакол маладога стану кіпарыса і... (уздыхнула, таямнічым голасам)... і яны зліліся ў непарыўны пацалунак». (Утаропіўшы вочы ў столь, чытае далей напамяць.) «У час пацалунку ў іх ляпнулі перламутравыя зубы, — пачуўся такі гук, нібы гэта сутыкнуліся дзве залатыя чашы. Так, гэта былі дзве чашы, перапоўненыя хмельная пенай бурлівага кахання!» (Паўза. Гаворыць шэптам.) Як прыгожа пісалі раней! Ліяны, кіпарысы...

Голас маці ў сенцах: «Акыш, каб вас каршун падраў! Набілася вас сюды! Акыш!»

Ляля. Фі, гэтая мама! Кіпарыс і... куры! О, дайце мне шклянку смятаны атруціцца, каб не бачыць гэтага прэснага жыцця!

(Уваходзіць маці.)

Кулiна. Лялечка, дачушка! А ты ўсё чытаеш, слепіш свае вочкі?

Ляля. Вельмі тут пачытаеш! Ваюеш са сваімі свіннямі і курамі з самай раніцы. Спакойнай хвіліны няма!

Кулiна. Не буду, не буду, дачушка, перашкаджаць табе. Вось толькі прыбяру ў хаце. (Збірае раскіданыя сукенкі.) А ты вучы, вучы свае ўрокі. Пастарайся хоць сёлета паступіць у інстытут.

Ляля. Захачу і паступлю! (Глядзіцца ў люстэрка.) Сырадой ёсць?

Кулiна. Естачкі захацела?

Ляля. Фі!.. Естачкі! Памыцца сырадоем хачу. Бачыш, як загарэла. Цыганкай стала.

Кулiна. У шафцы сырадой.

Ляля. Не забудзь адпрасаваць мне новую сукенку, крэпжаржэтавую. (Выходзіць, напяваючы).

Кулiна. Не мары сябе голадам! Выпі смятанкі, а хочаш — дык і сырое яечка, — голас лепшы будзе. (Прыбірае ў хаце.) Уваходзіць Ляля, на хаду выціраючы ручніком твар.

Ляля. Мамачка, а закуску падрыхтавала? Будзе чым брація пачаставаць?

Кулiна. Не бедныя, усяго хопіць. Толькі-ж які ён табе брат?

Ляля. Сама ведаеш.

Кулiна. Траюрадны... Дзесятая вада на кісялі.

Ляля (пратэстуючы). Брацік! Брацік!

Кулiна. Дурненькая! Ты вось паслухай, што я табе скажу. (Бярэ дачку за руку, садзяцца поплеч на канапу.) Гляджу я на цябе і радуюся: здаровенькая, прыгожанькая, разумненькая. Як спелая вішанька! Паслухай: садочак зялёны — вішанька чырвона, маладзец ідзе — вішаньку сарве...

Ляля. Сарве і... праглыне?

Кулiна. Навошта?! Сарве і на руках панясе! Прытуліць, прыгалубіць...

Ляля. Ой, мама, ты зноў пра сваё!..

Кулiна. Не пра сваё, а пра тваё шчасце. Табе дзевятнаццаць гадкоў, не маленькая, глядзі на жыццё ва ўсе вочы, шчасце налучыць — хапайся за яго аберуч.

Ляля (прытворна). Дык дзе-ж яно, тое шчасце?

Кулiна. Шчасце поплеч з табой, як цень за табой ходзіць... Мірону два гады пісьмы пісала...

Ляля (папраўляе). Мірыку!..

Кулiна. Няхай сабе і Мірыку. Два гады яму пісьмы пісала і ўсё «брацік, брацік»...

Ляля. Адкуль ты ведаеш? Чытала мае пісьмы?

Кулiна. Сама-ж расказвала. Дык я і кажу: радня ён табе, як дзесятая вада на кісялі. Прыглядзься да яго лепей — мужа ўбачыш! От!

Ляля. Ой, мама! Не гавары такое глупства! Замуж я не хачу!

Кулiна. Не хочаш... Яно так: адно гавары, а другое рабі. Паслухай: дзевятнаццаць гадкоў — кветка расцвіла, дваццаць пяць гадкоў — пялёсткі растрасла... Спознішся выбіраючы — не схопіш даганяючы. А Мірон...

Ляля. Мірык!..

Кулiна. Мірык — відны хлопец разумнай сям'і, сам не дурань. У флоце служыў і вучыўся ў інстытуце за вочкі.

Ляля. Ха-ха-ха!.. Вучыўся «за вочкі»! Ха-ха-ха!.. За якія вочкі: карыя, блакітныя? Мама, ён вучыўся за-воч-на!

Кулiна. Не вельмі я разумею ў вашай вучобе. Адно ведаю: такога мужа мецъ — песні пець. Малады, вучоны, паедзе ў горад — яму ўсюды дарога. І дома не прападзе. Спачатку можа і невялікія грошы будзе атрымліваць, але-ж у яго ўсё наперадзе.

Ляля. Мама, я выйду замуж... Ха-ха-ха!.. за генерала! А навошта мне Міроначык — дэмабілізаваны бацманёнак?!

Кулiна. У генерала грошай многа, але-ж... Думаеш, нашай Улечцы вельмі добра? Не аднымі шакаладкамі-мармаладкамі душа сыта...

Ляля. Ды я жартую, мама! Пра замужжа я і не думаю! (Хітруе.) Пайду ў калгас працаваць! Даярачкай! Свінарачкай!

Кулiна. Хопіць, што мы, бацькі, усё сваё жыццё ў зямлі капаемся...

Ляля. Не хочаш? Дык ты-ж ведаеш, што я рыхтуюся паступіць у медыцынскі інстытут. Буду ўрачом!

Кулiна. Каб-жа твае словы, Ляpечка, ды богу ў вушы! Толькі гляджу я — цьфу, цьфу, каб не спраўдзілася! — не прымуць цябе ў інстытут. Летась не ўдалося паступіць, а ці сёлета лягчэй будзе? Замуж — адна табе дарога!

Ляля. Не гавары, мама!

Кулiна. Слухай: мая справа гаварыць — розуму цябе вучыць. Не злыбяды, а дабра табе жадаю, — не чужая-ж ты мне, а родная ягадка-крывінка. Вось прыедзе Мірык, дык ты не хіхікай абы чаго, а будзь і разважлівай, і спрытнай, і вясёлай. Пустазвонка — каму яна трэба? Яшчэ, дачушка мая, прычоску дужа не круці, можа яму гэта не спадабаецца. Лепш будзь скромніцай, закруці яму мазгі не прычоскамі, а сваім розумам, прысушы яго душу да свайго сэрцайка з першага позірку. Вось я твайго бацьку, Анціпа... Толькі і ведаў: «Куля, Кулечка!..» — інакш і не клікаў мяне...

Ляля. Ой, мамачка! Ды татка цябе інакш і не называў, як Кулінай!

Кулiна. Не называў! А чаму? Мужыцкага роду! Дзе-ж яму было вывучыцца далікатнаму абыходжанню, — з дзяцінства пастухом быў...

Ляля. Але-ж цяпер тата ветэрынарным фельчарам!

Кулiна. Усёадно недалёка ад свіней... Каб ён мяне слухаў, дык яшчэ якім чалавекам стаў-бы! Сядзеў-бы, пане мой, у кабінеце на мяккай канапе за бліскучым сталом ды другімі камандаваў-бы! Але не ўмее за сябе пастаяць, другога пад ногі падтаптаць...

Ляля. Мамачка, несправядліва ты гаворыш пра тату! Ён працуе і працуе, вольнай хвіліны не мае.

Кулiна. А што ён мае з тае працы? А каб даў яго галаве...

Ляля (усміхаючыся). Твой розум?

Кулiна... Мой спрыт, то быў-бы мой Анціп начальнікам над начальнікамі! І гавару я гэта табе, Ляpечка, дзеля таго, каб ты жыла заўсёды трымаючы лейцы ў руках. Жонка павінна зацугляць мужа і кіраваць яго туды...

Ляля. Дзе растуць жалуды? Ха-ха-ха!..

Кулiна. ...дзе сямейнае шчасце, дастатак плавае ў поўнай місачцы, цераз край ліецца.






Ляля. Ой, мамачка, у цябе мудрасці ў галаве! Толькі ці праўда ўсё гэта?

Кулiна. От-жа неразумнае варанё! Я век пражыла — ведаю, што кажу. А ты слухай ды вучыся! І яшчэ, не ўздумай пры Мірыку цяпёпнуць штонебудзь непатрэбнае. Будзеш гаварыць з ім — назірай за мной: плюсну вачыма — прыкусі язык! Разумееш? Збоку мне будзе відней, — ты прамахнешся, дык я плюсь вачыма! — значыць, замятай сваё глупства разумнымі словамі.

Ляля. Мама, ды няўжо я дзіця?!

Кулiна Вырасла высока, ды глядзіш іншы раз недалёка. (Устае з канапы.) Пайду я, а ты тут прыбірайся, не сядзі растрэсенай. Сонца на поўдні — Мірык можа быць неўзабаве. Памятай-жа, што я табе сказала. (Выходзіць.)

Ляля (гаворыць пра сябе). Заўсёды так: з мамай паспрачаешся — розуму нахапаешся. Скажаш ёй нібы незнарок слова насуперак — яна і сыпане табе праўду поўнымі прыгаршчамі. (Бярэ фотакартку са стала.) Мі-рык! Воч не адарвеш, адно заглядзенне. Мама як у ваду глядзіць: муж — пальчыкі абліжаш. Два курсы політэхнічнага інстытута... Будучы інжынер! Мой любы! (Прыціскае здымак да грудзей, уздыхае.) А вось ці кахае ён мяне? У пісьмах я ўсё прыкідвалася школьніцай, сястрычкай... (Бярэ некалькі рамонкаў з букета на стале, гадае, адрываючы пялёсткі з кветак.) Любіць... не любіць... плюне... пацалуе... к сэрцу прыгорне... (Радасна круціцца ў танцы, прыпяваючы):

Моя красавица
Мне очень нравится!..
А тюх-тюх-тюх-тюх!..
А тюх-тюх-тюх-тюх!..

(Спынілася, зноў гадае.) Любіць... не любіць... плюне... пацалуе... к сэрцу прыгорне... к чорту пашле... Ой, брыдкі! (Са злосцю кідае на падлогу абскубаную рамонку, гадае на наступнай.) Любіць...

(Без стуку ўваходзіць Даша, радасная, бадзёрая.)

Даша (убачыўшы занятак Лялі, усміхаецца.) Праполкай займаешся, Лена?

Ляля (спалохана). Ой!..

Даша (з усмешкай). Добры дзень, парніковая раслінка!

Ляля (пакрыўдзілася). Не хачу, каб ты мяне так называла!

Даша. Ну, ну! Я пажартавала. Як жывеш? Рыхтуешся да экзаменаў? «Блакітная ноч ў кісейным тумане»...

Ляля. Ой, злючка!

Даша. Нічога не зробіш, такая ўжо ўдалася (смяецца),—секану слова, дык каб аж іскры пасыпаліся.

Ляля. Знайшла чым выхваляцца!

Даша. Ніколечкі.

Ляля. Ведаю я цябе, стрэмку!

Даша. А як-жа, ведаеш, — колькі год разам вучыліся. Дык вось, Лена, я да цябе па справе.

Ляля. Па якой?

Даша. Можа, для пачатку запросіш сесці?

Ляля (неахвотна). Калі ласка...

(Даша бярэ Лялю за рукаў і саджае поплеч з сабой на канапе.)

Даша. Я, Лена, павінна пагаварыць з табой як сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса...

Ляля (насцярожана). Афіцыйная размова? Ціка-ава...

Даша. Магчыма, трохі і афіцыйная, таму і зайшла да цябе. Скажы, чаму ты не наведваеш камсамольскія сходы?

Ляля. Не маю часу...

Даша. Вось як! Дома сядзець і не мець часу наведваць сходы?

Ляля. Я моцна хварэла...

Даша. Твая хвароба вядомая. От мы і хочам падлячыць цябе трохі.

Ляля. Падумаеш, лекары знайшліся!



Даша. Загарэла, Леначка. Кожны дзень на сонцы, не хаваюся ў цянёчак. Памятаеш? (Ціха спявае):

Чтобы тело и душа были молоды,
Были молоды, были молоды,
Не боимся мы жары и ни холода...

Ляля. Ой, загартавалася! Рукі агрубелі...

Даша. Не агрубелі, Леначка, а наадварот, сталі больш далікатнымі. А вось твае ручкі, Леначка? Пальчыкі тоненькія і гэтакага-ж колеру, як дажджавыя чарвякі. Ды быўшы хлопцам, я за адны рукі на цябе нават не паглядзела-б!

Ляля. Ды ты што, прышла зневажаць мяне?

Даша. Не злуйся, Леначка. Любячы цябе, кажу ўсё гэта. Ты-ж падумай, паглядзі: вось гэтымі рукамі я моцна трымаю сваё шчасце, ад мяне не ўцячэ. Летась мы атрымалі добры ўраджай ільну, сёлета будзе яшчэ лепшы. Сёлета я паступаю на завочную вучобу ў сельскагаспадарчую акадэмію. На стол прыймовай камісіі пакладу два атэстаты сталасці: аб заканчэнні дзесяцігодкі і аб працы майго звяна. І мяне прымуць, я знайшла, да чаго прыкласці свае рукі і веды. А ты?

Ляля. Хвалько! (Заплюшчыла вочы, усхліпвае.)

Даша. Ага, трохі пачынае даходзіць да цябе. Я так і хацела, каб за жывое ўзяло. (Паўза.) Ой, Леначка, як яшчэ трэба цябе шараваць і шараваць, ды з пясочкам!

Ляля. Адстань, не чапіся!

Даша. Не гневайся, Леначка. (Абдымае яе.) Падумай пра сябе, як сястры раю.

(Убягае Куліна.)

Куліна. Лялечка, ідзе!.. (Паспешліва збірае раскіданыя кветкі.)

Ляля. Ой! Не магу!.. А я-ж не апранулася! (Выбягае, злосна крычыць з-за дзвярэй.) Ой, мама! Не адпрасавала сукенку!

Куліна (выхваляючыся). Другую надзенеш, ёсць з чаго выбраць, восем новых сукенак маеш. (Убачыўшы, што Даша намерваецца пайсці.) Куды-ж ты, Дашачка? Пачакай, пачакай!

Даша. Няма часу. Ды, здаецца, да вас госць ідзе...

Куліна. От і пачакай хвілiначку...

Даша. Не, дзякуй пайду. Некалі...

(Стук у дзверы.)

Куліна. Калі ласка!

(Уваходзіць Мірон, апрануты ў вайсковае.)

Мірон. Добры дзень вам у хату! Добры дзень, цётка Куліна. (Здароўкаецца за руку.)

Куліна. Добры дзень, сынок, дзіцятка маё! От-жа госцейка дарагі наш! Праходзь далей! Пуховай дарожкі пад твае ножкі!

Мірон (убачыўшы Дашу). Аднак... Прабачце... Каго бачу! Маша Альхавец?!

Куліна. Абазнаўся, сынок. Гэта-ж Даша, сяброўка Лялі. Будзьце ласкавы, знаёмцеся.

Даша (падае Мірону руку). Даша. Сялец маё прозвішча.

Мірон (знаёміцца). Вельмі прыемна. Мірон. Усё той-жа Мірон Дубавец. Аднак: Маша-Даша? Альхавец-Сялец? Цуда ў рэшаце!..

Даша (смяецца). Усё цячэ, усё змяняецца...

Куліна (кліча). Ляля! Ці чуеш? — госць у нас! (Да Мірона). Усё чытае і чытае, вачэй ад кніжкі не падымае. Я і кажу: навошта так сушыць сябе?

(Уваходзіць Ляля, апранутая ў новую сукенку, на галаве — ранейшая прычоска.)

Ляля. Каго бачу! Мірык! Брацік! (Схамянулася.) Хаця, ха-ха, якая ты мне радня? Дзесятая вада на кісялі. Праўда, мама? (Падае руку Мірону.)

Куліна. А яно так: брат і сястра ў трэціх — далёкая радня, можна сказаць, — ніякая.

Даша. Пачакай, пачакай, будзем спакайней гаварыць...

Ляля. Я вучуся! Рыхтуюся да экзаменаў!

Даша. Паглядзі на сваіх сябровак, колькі яны рыхтуюць зараз прадметаў: полюць, падкармліваюць лён, робяць рыхленне міжраддзяў кукурузы, акучваюць бульбу... Вось экзамены на сапраўдны атэстат сталасці!.. Хадзем, Лена, працаваць у наша звяно.

Ляля. І не падумаю!

Даша. А ты падумай, добра падумай. І скажу табе праўду: з такімі ведамі, як у цябе, ты зноў не паступіш у інстытут.

Ляля. (падпілоўвае пазногці, гаворыць прытворна-спалохана). Няўжо?

Даша. Толькі хіба манікюршай станеш. Наспецыялізавалася...

Ляля. Я рыхтуюся, вучу!.. Урэшце, ты што, прыйшла да мяне лаяцца?

Даша. Я да цябе не ў госці прыйшла, а пагаварыць па справе, без усякай лаянкі. Так што, прабач, камплементаў не будзе, а за праўдзівае слова не крыўдуй. Дык вось, ведаю да чаго ты рыхтуешся і што ты вучыш. «Гора маё чубатае — ніхто мяне не сватае». Так?

Ляля. Так ды не так! (Выхваляючыся.) Вось ён, мой жаніх! Сёння прыязджае ў сваты! (Паказвае фотаздымак Мірона.) Табе, можа, такі і не сніўся!

Даша (глянуўшы на фотакартку). Марак... (Радасна.) А-а, Мірон Дубавец. Я з ім знаёма, нядаўна сустракалася...

Ляля. Сустракалася? Нядаўна! Ты магла бачыць Мірыка толькі пяць гадоў таму назад. Перад адыходам у армію быў у нас у гасцях.

Даша. А ў нас у гасцях Мірон Дубавец быў з месяц таму назад.

Ляля. У вас? Хаця... А-а?? Адкуль ты ведаеш, што ён і Мірон, і Дубавец?

Даша. Дык я-ж і кажу, што з ім знаёма, нядаўна сустракалася. На раённай нарадзе звеннявых было гэта.

Ляля. Абазналася! Ён нядаўна дэмабілізаваўся, на нарадзе яму не было чаго быць.

Даша. І ўсё-ж ён там быў. Пасля нарады ў Доме культуры на танцах падыходзіць ён да мяне, казырае: «Дазвольце, — кажа, — з вамі станцаваць». Танцуем, а ён і прадставіўся мне, моў, дэмабілізаваны марак, Мірон Дубавец. Цікавіцца, як мяне завуць, адкуль я. От-жа я яму і нагарадзіла!.. Каб ведаў, дык крыкнуў-бы «Палундра!» Кажу: завуць мяне Маша, а прозвішча маё таксама драўлянае, толькі не Дубавец, а Альхавец, і працую я свінаркай у соўгасе.

Ляля. Добра, што падманула, яму так і трэба — завельмі прыткі на знаёмствы!.. Але-ж ён жартаўнік! І ён мяне так кахае! Сур'ёзна кахае!

Даша. Дзівачка! Ды не пра гэта-ж гутарка, а пра тое, што ты нідзе не працуеш.

Ляля. Чужы хлеб не ем!

Даша. А чый?

Ляля. Бацькаў!

Даша. Што-ж, падрыхтоўка на бацькоўскі хлеб у цябе грунтоўная — атэстат сталасці на руках...

Ляля. Не чытай мне, калі ласка, мараль!

Даша. Іншы раз гэта не шкодзіць.

Ляля. А якое ты маеш права?

Даша. Вялікае. Вучыліся разам. Ты носіш такі-ж комсамольскі білет, як і я...

Ляля. Ну, і што-ж?

Даша. Мы не можам пагадзіцца з тым, што ты адлучылася ад таварышаў, можаш заблытацца зусім. І я раю табе, як зрабіць лепш. Інакш, прыдзе час, будзеш прасіцца — прагонім.

Ляля. Чакай, пакуль рак свісне!

Даша. Рак змоўчыць, а вось ты хутка свіснеш. Паставім аб табе, гультайцы, пытанне на комсамольскім сходзе.

Ляля. Ты ўжо работніца!

Даша. Якая я работніца — людзі скажуць. А вось ты закісла, седзячы дома.

Ляля. А ты пасвяжэла? Вунь як учарнела!

Мірон. А ўсё-ж радня. Праўда, Лена?

Ляля (сарамліва). Вядо-ома...

Куліна. Дык сядай, госцейка, адпачывай. (Падсоўвае Мірону крэсла.)

Мірон (садзіцца поплеч з Ляляй). Дзякую. (Да Дашы.) А вы падрасці хочаце? Кажуць, у нагах праўды няма. Сядайце, калі ласка.

Даша. Дзякуй, мне трэба ісці.

Мірон. Так хутка? Прабачце, дык дзе-ж вы працуеце, калі не сакрэт? У соўгасе? Свінаркай?

Даша. Дома працую...

Ляля. Мне, Мірык, Даша расказвала, як яна знаёмілася з табой на вечары ў Доме культуры. Х-ха, штукарка! Даша звеннявой у калгасе, суседка наша...

Мірон (Дашы). І як цяпер у вас працоўныя справы?

Даша. Усё добра, праполка цяпер...

Мірон. Асот, драсён, сурэпка?

Даша. Усякае бывае...

Ляля. Ой, якую нудную гутарку распачалі! Давайце лепш гаварыць пра кветкі, салаўёў, ружовыя туманы па-над рэчкай...

Куліна. Дзеткі мае!.. От гляджу на вас: самі, як кветкі, і пра птушачак гутарка! Любыя мае! (Да дачкі.) Прыбяры, Лялечка, стол. Я хуценька.

(Куліна выходзіць, Ляля пачынае прыбіраць стол.)

Даша (глянула ў акно). Ой, пазнюся! (Сабралася ісці.)

Мірон. На працу?

Даша. Вядома-ж. Да пабачэння!

Мірон. Скажыце, Даша, а вечарынка ў клубе ў вас сёння будзе?

Даша (на парозе). Абавязкова! А з табой, Лена, размову закончым потым...

Мірон. Запрашаю вас, Даша, на першую польку. Можна?

Даша (смяецца, жартаўліва ківае пальцам). Вам ёсць з кім танцаваць, ведаю... (Выбягае.)

Мірон (да Лялі). Добрая дзяўчына! Агонь!

Ляля. «До-обрая!».. Язык у яе — брытва...

Мірон. От як?




**Народ, якому да рэвалюцыі забаранялі не толькі вучыцца, але і размаўляць на сваёй мове, зараз, дзякуючы нястомным клопатам Камуністычнай партыі, стаў стваральнікам сваёй нацыянальнай культуры. На беларускай мове мільённымі тыражамі выходзяць кнігі савецкіх пісьменнікаў, класікаў рускай літаратуры. Па рашэнню Савецкага ўрада ў Мінску было намечана пабудаваць паліграфічны камбінат. У 1956 годзе будаўніцтва было ў асноўным закончана. Ідзе мантаж машын.**

**Новы паліграфічны камбінат — сведчанне клопатаў партыі і ўрада аб далейшым развіцці беларускай культуры.**

Ляля. ...змяінае джала!

Мірон. Няўжо? Памятаю, на раённай нарадзе...

Ляля. А чаго ты туды трапіў?

Мірон. Мяне не выклікалі, сам паехаў. Цікава было паслухаць, чым жыве моладзь у вёсцы. За пяць год у флоце я як-бы адышоў ад калгаснага жыцця, для мяне ўсё нова, цікава...

Ляля. І знаёмства з Дашай таксама было цікавым?

Мірон. Гм, яно так... Прыкметная дзяўчына.

Ляля. І за нос цябе крыху павадзіла?

Мірон (усміхаючыся). Ёсць каму павадзіць.. Ды за ёй і сам пабяжыш!..

Ляля. Ой, які ты, Мірык, падкі на знаёмствы! Заўсёды так?

Мірон. Здаралася...

Ляля. Ды ты такі... Бадай што можаш закахацца з першага разу?

Мірон (жартуе). Нават з першай хвіліны.

Ляля. І што, ужо гатоў, спёкся? Кахаеш, можа, якую-небудзь марачку?

Мірон. Не, Лена. У вашай вёсцы ёсць дзяўчына...

Ляля (апусціла вочы). Не сакрэт! Хто яна?

Мірон. Глянеш — сэрца заходзіцца...

(Паўза.)

Ляля (прыняўшы на свой адрас прызнанне Мірона, сарамліва хавае вочы; нарэшце, знайшлася што сказаць.) Якое цудоўнае сёння надвор'е! (Паўза). Мірык, ну як не сорамна табе: не адказаў на мае два апошнія пісьмы.

Мірон. Прабач, вінават... Учора пазваніў, што прыеду, і прыехаў. Так? А сёння (усміхаецца) дам вусны адказ на ўсе пісьмы.

(Уваходзіць маці, нясе закуску і бутэльку віна.)

Куліна. Здарожыўся, сынок. Перакусіць-жа хоць трошкі трэба. (Ставіць на стол закуску, бутэльку і чаркі.)

Мірон. Дзякуй, цётка Куліна. Дарэмна турбуецеся, я нядаўна абедаў.



Куліна. Абед на абед, сынок, — не хвароба на хваробу. Частуй, дачушка.

Ляля (налівае чаркі). Мамачка, падай к мясу хрэну.

Куліна. Ай-ей, запамятала! (Выходзіць і адразу прыносіць на сподку хрэн.)

Мірон. А дзе-ж дзядзька Анціп?

Ляля. На фермах усё.

Куліна. Работы-ж у яго — з раніцы да вечара, — ветфельчарам у калгасе.

Ляля. Дык вып'ем за твой прыезд, Мірык.

Мірон. Мірон...

Ляля. Як будзеш дзедам — тады Міронам станеш. А цяпер — Мірык! Ха-ха-ха!..

Куліна. І гэта праўда, дзеткі. Выпіце. Мёдам на душу, сынок.

(Чокаюцца, выпіваюць і закусваюць.)

Ляля. Якое моцнае віно! Дарэчы, Мірык, паглядзі...

Мірон. Мірон...

Ляля. Дзед Мірон, ха-ха-ха!.. паглядзі: падабаецца табе мая новая прычоска?

(Куліна старанна плюскае вачыма.)

Мірон (з ледзь прыкметнай насмешкай). Вельмі...

Ляля. От, мама, а ты гаварыла!.. (Да Мірона.) Праўда, цудоўная?

Мірон. Непаўторная...

Ляля (да маці). От, чуеш! А што ты цяпер, Мірык, чытаеш? Гэта я чаму пытаю, — у мяне ёсць ціка-авая кніжка, раман...

Мірон. Чытаю газеты, часопісы...

Ляля. Ой, дайце мне шклянку смятаны атруціцца! Ха-ха-ха!.. Сапраўды — дзед Мірон! А ты вось чытаў такую рэч? (Бярэ кнігу.) Слухай...

Куліна. Дай, дачушка, закусіць чалавеку.

Ляля. Дык я-ж на закуску прыпаднясу Мірыку... цэлы букет руж! Слухай: «Ён — высокі і стройны, як кіпарыс, яна — гнуткая і ўчэпістая, як ліяна, маладая і свежая, нібы вечназялёная лаўравішня...» А вось далей: «Ліянападобная лаўравішня»...

Мірон (усміхаючыся). Здорава...

Ляля (у захапленні). Праўда? (Убачыла, што маці перастаралася — зусім заплюшчыла вочы). Мама, ты ў гэтым нічога не разумееш!

Куліна. Дзе-ж мне! І ўзрост і навука не тая... (Глянула ў акно.) От, бацька ідзе! (Выходзіць.)

Ляля (працягвае). «Ліянападобная лаўравішня абвілася тонкімі, колеру сланавай касці рукамі вакол маладога стану кіпарыса і... і яны зліліся ў непарыўны пацалунак». (Паўза). Ой, не магу... (Саладка ўсміхаецца, млява адкінуўшыся на спінку канапы.)

Мірон. Дзе-ж ты, Лена, бярэш такія... цікавыя кніжкі?

Ляля. Сястра-ж Улька ў горадзе жыве. У яе цікавая бібліятэка.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Я СПЯШАЎСЯ ЗА ТАБОЮ

Я спяшаўся за табою
Сінім золкам, ясным раннем,
Углядаўся ў даль з тугою:
— Дзе-ж ты, дзе, маё каханне?

Я спяшаўся бездарожжам,
Цераз буры, цераз ліўні.
Ні завеі, ні марозы
Перашкодай не былі мне.

Ды, відаць, прайшоў я мала,
Калі ты мне не далося.
Толькі рэха далятала,
Дзіўнай песні адгалоссе...

Што-ж, я сёння больш у сэрцы,
Чым калісьці, сілы маю.
Дзе ні будзеш ты на свеце —
Я знайду цябе, спаткаю!

З краю ў край прайсці-праехаць
Я гатоў пад гэтым небам,
Бо не водгалас, не рэха,
А сама мне песня трэба!

М. КЛІМКОВІЧ

## РАНІЦА

Яшчэ ў заспаным воку салаўіным
Зары барвовай не пагас прамень,
А ўжо за безданню марской раўніны
Пачаў раджацца новы летні дзень.

Хоць тых радзін нішто не прадвяшчала,
Мо' толькі ветрык — лёгкі сухавей,
Прайшоў нячутна, вецце захістала,
Дзе вочы звёў бяссонны салавей.

І той азваўся ціхім-ціхім свістам,
Завёў адну, пасля другую трэль,
Пасля хтось лёганька на ўсходзе чыстым
Паспрабаваў, здаецца, акварэль, —

Падфарбаваў у чырвань ніз аблокаў
Між самых зор у горнай вышыні,
І, абудзіўшы свет увесь навокал,
Мацней запеў салоўка ў цішыні.

Мірон (пасмейваецца). Бібліятэка... інстытуцкай дамы, ці што?

Ляля (пакрыўджана). Мі-ірык! Што ты гаворыш?!

(Галасы за сцэнай):

Куліна. Якая я табе Куліна?! «Ку-уля!» — вось як трэба!

Анціп (са злосцю). А каб ты перакулілася са сваёй мянушкай!

Куліна. Ціш-ш, мужык! У нас госць... (Далей неразборлівыя словы.)

Мірон. Проста дзіўлюся, Лена, якім глупствам забіваеш сабе галаву. Бульварныя раманы... Ну, а ў інстытут рыхтуешся?

Ляля (пакрыўджаная). Вядома, рыхтуюся! Хоць праз дзесяць год ды паступлю!

Мірон. Буду гаварыць з табой шчыра, як брат з сястрой: я-б такія кніжкі не чытаў. Што ў іх добрага? Твань, мяшчанскае балота...

Ляля (пакрыўджаная, стараецца перавесці гутарку на жарт). Дзед Мірон, ці не залішне ты хапіў?

(Уваходзіць Анціп, за ім гаспадыня.)

Анціп (радасна разгарнуў рукі). Міро-он! Здароў, здароў, пляменнічак! (Вітаецца за руку.) Чуў, чуў, што ты дэмабілізаваўся. (Садзіцца да стала.) Ну, як-жа там твой бацька, маці? Як іх здароўе?

Мірон. Дзякуй, дзядзька Анціп, усё добра,—у калгасе працуюць, на здароўе не крыўдзяцца.

Анціп. Добра, як усё добра. Жонка, у такім выпадку, налі чаркі за прыезд госця. (Куліна налівае чаркі.) Калі ласка! (Усе чокаюцца, выпіваюць.)

Куліна (Мірону). Мёдам на душу, сынок!

Анціп. Ну, а як, Мірон Антонавіч, прызнайся, вось гэтым не грашыш? (Ляпае відэльцам па чарцы.)

Мірон. Не, дзядзька, ад выпадку да выпадку, патрошку.

Анціп. От і добра. Па нейкай кроплі іншы раз можна. А дурань — дык ён і хлебам аб'есца.

Ляля. Ой, тата! Так некультурна гаварыць!

Анціп. Культура такая: кажы праўду ў вочы. (Да Мірона.) Гэта я, пляменнік, чаму гавару? А таму, што здараецца, трапіць малады чалавек на коўзкую дарожку... Глядзіш — і распластаўся, як карова на ільду.

Ляля. Ой, тата! Такія параўнанні!

Куліна. Ды пакінь ты, стары!

Анціп. Параўнанні ў мяне, дачка, правільныя. (Да Мірона.) А з дзяўчатамі дык і такое бывае: глядзіць толькі свае ўборы, круціць прычоскі-шмоскі, і да таго дакруціцца, што ў галаве ў яе — вецер гуляе...

Ляля (закрывае рукамі прычоску, злосна). Тата!..

Анціп (глянуўшы на дачку, разгублена). А-а... Ну, гэта я не пра цябе. (Да Мірона.) Дэмабілізаваўся, значыць? А цяпер што плануеш: у горад ці каля дому якім-небудзь пісарчуком прыладзішся?

Мірон. Навошта ў горад? Дома буду.

Анціп. Кім-жа?

Мірон. Механікам у аўтагаражы калгаса.

Ляля (здзіўлена). Два курсы політэхнічнага інстытута і... калгасны гараж? Жартуеш?

Мірон. Не, сапраўды так, Лена. А што ў гэтым дрэннага?

Ляля. Ды ты пачакаў-бы восені і—у інстытут на трэці курс.

Мірон. А я не чакаючы зараз паступіў, на завочнае. Буду працаваць і вучыцца.

Ляля. Ой, якая неразважлівасць!

Анціп (да дачкі). А па-мойму, Мірон Антонавіч усё ўзважыў добра. Узяць хоць-бы такое: хто-ж вас, маладых, хлебам карміць будзе? Іншы за партфель хапаецца, а партфель-жа той ён не жуе! Дай яму булку мякчэйшую, ды малачка, ды сальца...

Ляля (задзірыста). Няўжо ўсім пайсці працаваць у калгас?

Анціп. Нікому нельга чурацца чарнавой работы — вось пра што гутарка. Час-бы, каб зусім пераваяліся беларучкі, нахлебнікі.

Ляля (з'едліва). Дык што-ж, татка, можа і мне пайсці ў калгас?

Анціп. А нядрэнна было-б.

Ляля. Можа нават на свінаферму?

Анціп. А чаму-б і не! Паглядзі, Марына Явар закончыла разам з табой дзесяцігодку і працуе загадчыцай свінафермы. Працуе — люба паглядзець: увесь раён пра яе ведае. А Даша Сялец? Лепшая звенявая!

Ляля. Фі! Ад тваёй Марыны, тата, заўсёды свінарнікам нясе! А Даша? Рукі парэпаліся... Уй, не магу!..

(Мірон з прыкметнай пагардай назірае за Ляляй. Заўважыўшы гэта, маці моргае ёй вачыма).

Анціп. Свінарнікам? Та-ак... А чым-жа нясе ад маёй дачкі?

Ляля. Ты немагчымы, тата!

Анціп. А чым-жа, дачушка, нясе ад твайго бацькі? Ён-жа ўсё сваё жыццё працуе на зямлі... А вось цяпер, у калгасе, колькі год працуе ветфельчарам. Чым-жа ад яго нясе — карболаўкай ці чым-небудзь горшым?

Куліна. Анціп! Не за сталом такая гутарка!

Анціп. Менавіта за сталом! Трымаючы ў руках вось гэты кавалак хлеба, вось гэтую скварку — зробленае, вырашчанае рукамі такіх, як Марынка Явар, як Даша Сялец. Ты, дачка, як ідзе Марынка, з дарогі перад ёй павінна саступіць.

Ляля. Я?.. Я?.. Перад Марынай?

Куліна (моргае Лялі вачыма, потым пад сталом цягне яе за сукенку). Ляля!..

Ляля. Ды што ты скубеш мяне? Чаго ты моргаеш?

Куліна (разгублена, хітруе). Хрэн у вочы трапіў... Вельмі моцны...

Анціп. Такі хрэн можа і зусім вочы выесці... (Устае.) Што-ж, перакусіў трохі і трэба ісці. Трэба заглянуць на летнія стойлы. (Да Мірона.) Ты прабач, пляменнік, што спяшаюся. Пагасці ў нас, даўно не быў. Вольнай хвілінай аб усім і пагаворым. Я, браце, табе раскажу, якую новую пароду кароў мы выводзім... Пакажу табе сваю бібліятэку — два поўныя сундукі... Пайду-ж, усяго добрага.

(Анціп выходзіць. За ім спяшаецца Куліна.)
Галасы за сцэнай:

Куліна. Далікатнай гутаркі... Пры староннім чалавеку...

Анціп. Пакінь свае далікацтва. Ад яго нудна становіцца.

(Паўза.)

Ляля (прыходзіць у сябе). Ой, гэты тата!.. Я так разнервавалася!..

Мірон. Дарэмна...

(За сцэнай удалечыні грае гармонік.)

Ляля. О, сёння-ж танцы! Нядзеля, выхадны дзень. Сходзім, Мірык, на вечарынку, праўда?

Мірон. Сходзім, сходзім, з прыемнасцю. (Устае з-за стала.)

(Вяртаецца Анціп.)

Анціп. Запамятаў. Сёння-ж абавязкова трэба адпісаць пісьмо ў акадэмію... (Выходзіць у другі пакой, вяртаецца адтуль з паперамі, чарнільніцай. Ляля прыбірае са стала.)

Ляля. У нас, Мірык, танцы пад баян. Не тое, што ў горадзе — пад духавы аркестр...



Анціп (Да Мірона). Ты, браце, прабач за нядаўнюю размову за сталом, можа, што і не так... Жонка вунь скубе мяне за недалікатную гутарку...

Мірон. Ды што вы, дзядзька Анціп!

Анціп (раскладае на стале паперы). Я, браце, можа, змалку ў гарачай вадзе купаны... Як гляну — так і кажу, без дыпламатыі.

Ляля. Дык пойдзем, Мірык!

Анціп. У клуб? На танцы? Трэба, трэба! Клуб у нас новы, сёлета закончылі. А налета — электрыку туды: сваю станцыю на рэчцы будуем. Пагасці ў нас, браце, паглядзі, як мы жывем. Танцуй, не шкадуючы абцасаў.

Мірон. Дзякуй, дзядзька Анціп, пастараюся...

(Мірон і Ляля выходзяць, Анціп за сталом піша, падоўгу абдумваючы кожнае слова.)

Анціп (паўтарае пра сябе напісанае). Паважаны Цімафей Лявонавіч... Згодна вашых парад, намі за апошні месяц зроблена наступнае...

(Уваходзіць жонка.)

Куліна. Гэта-ж падумаць толькі! Пры старонні́м чалавеку...

Анціп. Не перашкаджай!

Куліна. Пры старонні́м чалавеку расхвальвае нейкую Марыну, Дашу! А сваю дачку ганьбіць!

Анціп. Чым-жа гэта? Праўду сказаў!

Куліна. На сухі лес такую праўду! Што-б закінуць добрае, разумнае слоўца за сваю дачушку, дык ён наадварот: Ляля саступі дарогу нейкай свінарцы! Нейкай звеннявой!

Анціп. Не перашкаджай. (Зноў нахіляецца над паперамі.)

Куліна. Пашматаю ўсё! Усю тваю пісаніну! Дачушку, сваё роднае дзіця, зневажае! А падумаў-бы сваёй галавой тое, што Мірон і зяцем можа быць! Дык ты, каб быў добры бацька, рабіў-бы ўсё ладком, ладком, каб яно ўсё цюцелька-ў-цюцельку ладзілася.

Анціп. От ты і задурыла ёй галаву сваім замужжам. А ці падумала ты пра іншае?

Куліна. Пра што?

Анціп. Ведаеш прымаўку:

«— Скуль, дзяўчына?
— З Барысава.
— А чыя ты?
— Дзянісава.
— Замуж хочаш?
— А чаго-ж!
— Рабіць не ўмееш!
— Ну і што-ж!»

Вось і твая дачушка — замуж хоць сёння, а што яна рабіць умее? Пястуха! Беларучка!

Куліна. А божа-ж мой! Родны бацька!..

Анціп. Не прычытай. «Божа-ж мой!» Мой таксама не казёл. Мой бог з мазалямі на руках, з разумнай галавой, а не гультай!

(Ляпаюць дзверы сенцаў, за сцэнай нехта ўсхліпвае. Куліна выбягае.)

Куліна (за сцэнай). Што з табой, дачушка? Чаго ты? Хто цябе пакрыўдзіў, маё золатца?

Ляля (за сцэнай). Адстань! О-ой!..

Куліна. Не турбуй свае нервачкі, Лялечка, дзіцятка маё ненагляднае. Дык хто-ж цябе пакрыўдзіў?

Ляля. Ён не глядзіць на мяне... О-ой... Танцуе... о-ой!.. З Дашай!.. Ай-яй-яй!.. (Захліпваецца ад слёз.)

Куліна. Ды што-ж ты, дачушка! Як-жа гэта ён пасмеў? А-а, нягоднік! Выпі, дачушка, смятанкі. Можа, ад сэрца адляжа... Дзявочыя слёзы — божая раса... (Далей гутарка неразборлівая.)

Анціп (трымае перад сабой рукі). Вось гэтымі рукамі... (Паўза.) Усё сваё жыццё рабіў хлеб... (Паўза.) І як-жа я прагледзеў, што дачка вырасла калекай?..

(За сцэнай плач Лялі.)

Анціп (у роспачы). Эх!.. Гора маё... чубатае!..

Заслона.

Увесь свет з напружанай увагай сачыў у канцы мінулага года за самаадданай барацьбой егіпецкага народа супраць агрэсараў. Міжнародны імперыялізм яшчэ раз паказаў свой агідны твар.
Пачалося гэта так.



# СУЭЦ НАЛЕЖЫЦЬ ЕГІПТУ

Егіпецкі ўрад, выказваючы волю свайго народа, нацыяналізаваў Суэцкі канал, канал, які па праву павінен належаць Егіпту.

Урады Францыі і Англіі, якія залежаць ад манапалістычных трэстаў і кампаній, адразу-ж пачалі праводзіць палітыку націску і пагроз у адносінах да Егіпта. Служачыя кампаніі Суэцкага канала па загаду сваіх гаспадароў кінулі працу па абслугоўванню канала. Яны спадзяваліся парушыць звычайны парадак руху суднаў па каналу. Але гэтая мера не дапамагла. З Грэцыі, Польшчы і іншых краін дзесяткі лоцманаў выказалі сваю згоду дапамагчы Егіпту ў наладжванні руху суднаў.

На здымку вы бачыце канал у тыя дні. Ідуць мірныя караблі, яны вязуць мірныя грузы. Судны вядуць грэчаскія і егіпецкія лоцманы.



Аднак імперыялісты не спыняюцца ні перад чым. Вы бачыце, як на борт авіяносца «Тэзус» у парту Портсмут грузяцца ваенныя снаражэнне. Яно будзе адпраўлена на Бліжні Усход. Англія і Францыя сцягваюць да Егіпта свае войскі. Яны чакаюць зручнага моманту, каб абрушыць на міралюбівы народ бомбы і снарады. На дапамогу Англіі і Францыі прыходзіць Ізраіль. Прадажныя ізраільскія палітыканы накіроўваюць сваю армію супраць Егіпта. Егіпет вымушаны абараняцца. Вось тут і ўступаюць у дзеянне англа-французскія войскі. Яны пачынаюць бамбіць егіпецкія гарады, высаджваюцца ў зоне Суэцкага канала, захопліваюць егіпецкія землі.

Увесь народ узняўся на абарону сваёй незалежнасці. Вы бачыце, як праходзяць падрыхтоўку добраахвотнікі. Хутка яны пойдуць на фронт, каб спыніць бясчынствы няпрошаных гасцей.



А імперыялісты ўсё лютуюць. Яны разбамбілі егіпецкія гарады, забілі тысячы мірных людзей. Паглядзіце на гэты здымак, дзе сфатаграфавана ахвяра агрэсіі. Вось яны, крывавыя справы імперыялістаў.

Усе міралюбівыя народы былі абураны гвалтоўным нападам імперыялістычных акул на Егіпет. Гучны голас пратэсту прымусіў адступіць агрэсараў.

Егіпет будзе свабодны! Суэцкі канал павінен належаць народу, які яго будаваў, па зямлі якога ён праходзіць.





**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

# ДОМА

**Апавяданне**

Сцяпан зняў з прабоя клямку варот, і яны са скрыпам расчыніліся. З пуні пацягнула моцным пахам перагною і свежага сена. Ён дастаў з кішэні карабок і асцярожна чыркнуў запалкай.

— Ну, Сцёпа,—з дакорам сказала сястра і дыхнула на агеньчык.—Тата прасіў без запалак.

Стала цёмна. Сцяпан усміхнуўся: «Як яна, аднак, вырасла. Дзевяцікласніца!»

Два гады назад ён скончыў інстытут і з той пары ніяк не мог завітаць дадому.

— Сюды,—шапнула сястра. Сцяпан працягнуў у поцемку перад сабой рукі і пайшоў за ёю.

Па драбіне падняліся на вышкі. Не паспеў Сцяпан і кроку ступіць, як сена пад нагамі загойдалася, зашамацела, ён не ўтрымаўся і ўпаў. Сястра засмяялася. І яму самому раптам зрабілася весела і прыемна.

— Як прыемна, Ніна!—на ўсе грудзі ўздыхнуў ён і яшчэ глыбей зашыўся ў цёплае, пахучае сена.

— Цудоўна, праўда?—жвава адазвалася Ніна.—Я яшчэ да экзаменаў тут спаць збіралася, ды мама не дазволіла. Гэта яна баіцца, што я буду позна прыходзіць з вуліцы.

— І правільна робіць. На вечарынках, нябось, ужо даўно гуляеш... І запіскі на ўроках атрымліваеш... Што, можа, скажаш, няпраўда?

Голас брата гучэў хітравата і лагодна.

Ніна адказала са штучным нездавальненнем:

— Якія вы, настаўнікі, злосныя, бурклівыя. А я яшчэ некалі думала, што вы не такія людзі, як усе... Дабранач, братка. Выбачай, я пайшла.

Сцяпан смяяўся.

Калі Ніна выйшла, ён распрануўся і лёг. Захацелася курыць. Успомніў перасцярогу сястры і ўсміхнуўся, запаліў папяросу. Запалку размяў у пальцах і адкінуў далей ад сябе: «Каб не ўбачыў бацька».

Ён ляжаў і думаў. Было ціха, толькі ўнізе перарывіста дыхала карова, ды над самым вухам Сцяпана дакучліва звінеў камар. У адным месцы праз страху прасвечвала неба, і ён глядзеў туды, пакуль недзе зусім непадалёку не зайграў гармонік і не ўзрадаваўся прыемны дзявочы голас, што «ў расцягнутай трохрадкі васільковыя мяхі». Ён устрапянуўся. Нешта зварухнулася, заказытала ўнутры, і Сцяпан адчуў, як незразумелая радасць ахоплівае яго.

Ён ужо не мог ляжаць спакойна, варочаўся. «Што такое, — думаў ён,—і чаго я так расхваляваўся? Здаецца, ніколі са мною гэтага не было». І раптам зразумеў: «Я дома! Як-жа не здагадацца? Я дома!»

А гармонік усё граў і граў, і ўсё той-жа дзявочы голас спяваў аб закаханых, якія ніяк не могуць расстацца, аб запаветнай сцежцы ў жыцці і туманах над ракой...

Сцяпан успомніў, як у восьмым класе ён закахаўся ў Кацю Васільчыкаву, жвавую, тоненькую дзяўчынку з светлымі косамі, і як смешна рэўнаваў яе да свайго школьнага сябра Уладзіка. Уладзік быў сур'ёзны, разважлівы хлопец. Ён акуратна чытаў часопіс «Тэхніка моладзі» і заўсёды што-небудзь майстраваў. З дзяўчынкамі класа, акрамя Каці, Уладзік не сябраваў. Утраіх яны часта хадзілі за вёску на шлях, узлазілі там на вербы і спявалі песні. Васьмікласніку Сцяпану Сярогіну такія пагулянкі прыносілі мала радасці. Ён увесь час сачыў за Кацяй, пакутаваў і даваў сабе слова нават не глядзець на яе. Потым праходзіў нейкі час, і ён браўся за запіскі. Каця рабіла выгляд, што нічога не разумее, малявала на тых запісках смешныя мордачкі і вяртала іх назад.

Час ішоў, неўзабаве яны скончылі дзесяцігодку. Уладзік паступіў у ваеннае вучылішча, Каця паехала да сястры ў горад, і больш яны не сустракаліся.

«Як гэта было даўно,— падумаў Сцяпан.—Дзе цяпер Уладзік, дзе Каця? Ах, як нядобра! Я нават не ведаю, дзе яны».

Сцяпану стала неяк маркотна. Ранейшы настрой адразу прапаў. Другія непрыемныя ўспаміны агарнулі яго. Цяпер ён бачыў сябе студэнтам, нязграбным і нясмелым, які больш за ўсё на свеце баяўся быць смешным. Студэнт Сярогін ужо ў інстытуце насіў акуляры і адчуваў сябе ў іх вельмі няёмка. Пры людзях ён губляўся, амаль увесь час маўчаў і з адчаем бачыў, што становішча яго недарэчнае і смешнае, але нічога не мог зрабіць з сабою.

Два гады, што прайшлі пасля інстытута, Сцяпан працаваў настаўнікам у палескай вёсцы Альхоўцы. Ён ніколі не задумваўся, падабаецца яму яго прафесія, ці не: проста добрасумленна рыхтаваўся да ўрокаў і заўсёды ў час прыходзіў у школу. Ён выкладаў літаратуру. Урокі праходзілі гладка, усе вучні, здавалася, уважліва слухалі яго, але ён бачыў, што яны не разумеюць, чаго ён ад іх хоча. Тады Сцяпан нерваваўся і не ведаў, што рабіць.

Прыходзіла лета, вучні здавалі экзамены, і неяк здаралася так, што Сцяпан заставаўся ў Альхоўцы і запэўніваў сябе, што нічога лепшага яму не трэба. Часам ён успамінаў горад, інстытут, сяброў. Былыя аднакурснікі даўно ўжо мелі свае сем'і, а ён пасля інстытута нават не закахаўся. У такія мінуты на сэрцы было горка.

І вось ён, нарэшце, дома.

Гармонік ужо сціх, і ў наступіўшай цішыні Сцяпан ясна чуў, як у

**Клопаты пра дабрабыт народа — першачарговыя клопаты партыі і Савецкага ўрада. У гарадах і раённых цэнтрах пашыраецца сетка гандлёвых устаноў, сталовых, чайных. Кожны грамадзянін можа культурна адпачыць пасля рабочага дня за шклянкай чаю або смачна і хутка паснедаць ці паабедаць.**

**Толькі ў Паставах Маладзечанскай вобласці адкрыліся летась дзве сталовыя. На здымку вы бачыце залу пастаўскай сталовай.**



# НЕСПАКОЙНЫ ЧАЛАВЕК







Мінск; кандытарская фабрыка «Комунарка». Тут у электрацэху працуе манцёр Вячэслаў Вінцэвіч. Вечарамі ён займаецца ў школе рабочай моладзі. Часта яго можна сустрэць і ў рэспубліканскім Доме тэхнікі. Там пра яго сказалі: «Гэта — адзін з самых неспакойных маладых людзей, якіх мы ведаем...»

«Неспакойнасць» Вінцэвіча заключаецца ў яго адносінах да вытворчасці. Вячэслаў Вінцэвіч — рацыяналізатар і вынаходца.

Пяць год таму назад, працуючы на гэтай-жа фабрыцы, ён унёс першую прапанову аб удасканаленні аднаго з механізмаў. З таго часу яго дапытлівае вока прыкмеціла не адно «вузкае» месца ў тэхналогіі кандытарскай вытворчасці. Ён уносіць адну прапанову за другой, становіцца членам фабрычнага навукова-тэхнічнага таварыства. Вячэслаў Вінцэвіч быў адным з делегатаў Беларусі на Усесаюзную нараду рацыяналізатараў.

Апошняя работа Вінцэвіча — унікальны апарат няспыннага дзеяння для абсмажвання какавы і арэхаў. Машына, якую стварыў беларускі электраманцёр, мае значэнне для кандытарскай прамысловасці ўсяго Саюза. Яна прыводзіць да значнага павелічэння вытворчасці шакаладных цэхаў.

На здымках (зверху ўніз): В. Вінцэвіч распрацоўвае чарцяжы па новай рацыяналізатарскай прапанове.

Майстар цукерачна-шакаладнага цэха Н. П. Крыцкі, які працуе ў кандытарскай вытворчасці 20 год, гутарыць з В. Вінцэвічам аб яго апараце для абсмажвання бабоў.

Група членаў навукова-тэхнічнага таварыства слухае паведамленне В. Вінцэвіча аб яго новай прапанове.

А. Дзітлаў.




Цяжкі чарцёж. Старшы майстар чыгуначнага вучылішча № 3 гор. Мінска Г. В. Шыман з задавальненнем перадае свой вопыт навучэнцам.

Фото С. Чырэшкіна і У. Ароцкера.

кустах за пуняй конь скубе траву і як пад яго нагамі хлёпае мокрая зямля. Ён павярнуўся на другі бок і, заплюшчыўшы вочы, стараўся уявіць сабе што-небудзь белае, як вучыла ў дзяцінстве маці, калі ён доўга не мог заснуць. Але сон не ішоў.

На двары пачуліся крокі. Сцяпан насцярожыўся: хто-б гэта мог быць?

— Пастой яшчэ крыху, Ніна!

Голас быў незнаёмы, хлапечы. Сцяпан прыўзняўся і стаў слухаць.

— Не крычы, брат можа пачуць.

У адказ зашапталі, і нічога нельга было разабраць.

— Мне пара ісці, — сказала Ніна.

Зноў шэпт, потым больш выразна голас сястры:

— А хто Васілю сказаў, што мы з табою ўчора гулялі па шляху?

— Я не гаварыў, ён сам, напэўна, здагадаўся.

Наступіла маўчанне.

— Ты мне нават хусцінку не хочаш даць, — пачуў Сцяпан праз хвіліну пакрыўджаны голас.

— Не хачу, не хачу. А калі хтонебудзь убачыць?

— Не ўбачыць. Я-б панасіў крыху і аддаў.

«Добры хлапчук, — вырашыў Сцяпан.— Цікава, якія ў яго зараз вочы: напэўна, закаханыя і пакорныя. А Ніна! Вось табе і дзевяцікласніца!»

— Вышыю—тады і дам... Пусці руку... Мне пара ісці...

Сцяпан чуў, як Ніна ўзбегла на ганак і адчыніла дзверы ў сенцы.

«Вось табе і дзевяцікласніца!— зноў у думках паўтарыў ён і са здзіўленнем адчуў, што яму зноў стала вельмі радасна. —Дзіўна! Прычым тут я? Ля ганка я не стаяў, у каханні нікому не прызнаваўся...»

Але дзесьці ў глыбіні душы жыла ўпэўненасць, што ён ашуквае сябе. Перад вачыма паўстала Каця: яна весела смяялася, дапытліва глядзела на яго, а потым заспявала тым-жа голасам, які ён нядаўна чуў. Ён увесь напружыўся, нейкі цёплы клубочак падкаціўся да сэрца і мякка крануў яго. Маркотнасці больш не было.

На жэрдцы захлопаў крыламі певень і голасна кукарэкнуў. Яму адазваліся з суседняга двара, і хутка бадзёры петушыны спеў пракаціўся па вёсцы.

Спаць не хацелася.



Малады паэт **Уладзімір Караткевіч** нарадзіўся ў 1930 годзе ў г. Оршы. Там-жа ён навучаўся ў сярэдняй школе.

У 1954 годзе Караткевіч скончыў філалагічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта, пасля чаго два гады настаўнічаў на Украіне. Зараз ён працуе настаўнікам у Оршы.

Вершы Ул. Караткевіча друкаваліся ў часопісе «Полымя».

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Дагарэў за брамай небакрай,**
**Выплыў месяца загнуты нож.**
**Выйду зноў, як у мінулы май,**
**Паблукаць па травах басаною.**
**Дымная сцюдзёная раса,**
**Цёмныя ў траве ад ног сляды.**
**Акіян блакітнага аўса**
**Я не бачыў доўгія гады.**
**Бач, хмызы спляліся, як павець,**
**Рампа з светлякоў гарыць святлей,**
**Быццам тэнар, перад тым, як пець,**
**Прачышчае глотку салавей.**
**Лашчыцца трава да босых ног.**
**З дальніх паплавоў плыве ракой**
**Ледзь прыкметны сумны халадок —**
**Подых юні ўходзячай маёй.**

**Паймчаць за ёю наўздагон? —**
**Хоць і схопіш — ўсёадно падман.**
**Дзе каханне тых мінулых дзён —**
**Весніх паркаў бэзавы туман?**
**Нават шкадаванне — дзе яно?**
**Зноў вясна і жаль знікае зноў.**
**(Так губляюць пах перад вясной**
**Ссохлыя сцябліны палыноў.)**
**Ціха цмокае у сне рака.**
**О, як добра, як прыгожа жыць!**
**Раска, як русалчына луска,**
**На вадзе ад месяца гарыць.**
**А ванол травіцы росны рай**
**І бярозак белая сям'я.**
**Мой чароўны беларускі край,**
**Бацькаўшчына светлая мая.**

## ЯЛІНКА

**Ялінку выкінулі за адрыну.**
**Яна ляжыць ва ўладзе ціхіх дум.**
**На голкі жоўтыя злятае сіні,**
**Празрысты, мяккі снегавы вэлюм.**
**Цяплілі ўчора свечкі ёй вітыя,**
**А сёння аддалі яе снягам...**
**Блішчаць дажджу віточкі залатыя,**
**Забытыя на голках тут і там.**

**Ляжаць, вядома, сумна за адрынай,**
**І сумны свет праз снежную імжу.**
**Адное засталіся успаміны:**
**Віточкі залацістага дажджу.**
**Але яна свядома ганарыцца**
**І доляй, і чарговасцю падзей:**
**Хай жоўтая, хай ападае гліца —**
**Яна жыве яшчэ ў душы дзяцей.**

## РУТА Ў ХАЛОДНАЙ РАСЕ

**Гармонік грае за клубам.**
**Росны кілім травы.**
**Чагосьці няма маёй любай.**
**Чаго, ці не скажаце вы?**
**У полі, за дальняй брыгадай**
**Агеньчыкі зніклі усе,**
**Адзеліся ценем прысады,**
**Рута ў халоднай расе.**

**Чакаю адзін да світання.**
**Нешта яна не ідзе.**
**Нават лілеі да рання**
**Заснулі у цёплай вадзе.**
**Так ціха ў садах і прыгожа,**
**І раптам, як гром з нябёс,**
**Бухнуў са стрэльбы стораж,**
**Напэўна, соллю ў кагось.**

**Як цяжка мне тут чакаці.**
**Туман за ракою ўстае.**
**Стрэльні ты лепей, браце,**
**У дуб над акенцам яе,**
**Каб птушкі спрасонак крычалі,**
**Каб людзі пачулі ўсе,**
**Каб любая раптам згадала,**
**Што рута ў халоднай расе.**

---

## *Семінар маладых празаікаў*

**З 26 лістапада па 6 снежня 1956 года ў Доме творчасці пісьменнікаў пад Мінскам праходзіў рэспубліканскі семінар маладых празаікаў, скліканы Саюзам пісьменнікаў БССР. У семінары ўдзельнічала 17 чалавек, запрошаных з розных абласцей рэспублікі, пераважна моладзі як па ўзросту, так і па літаратурнаму стажу. Сярод іх — рабочыя і калгаснікі, настаўнікі, студэнты, журналісты з абласных і раённых газет. Кожны з удзельнікаў ужо выступаў у друку са сваімі першымі літаратурнамастацкімі творамі.**

**Семінар адкрыўся сустрэчай яго ўдзельнікаў з групай беларускіх пісьменнікаў, у часе якой разгарнулася ажыўленая гаворка па пытаннях развіцця сучаснай беларускай прозы. Іван Шамякін расказаў аб тым, як расла беларуская проза ў пасляваенныя гады і якія задачы стаяць сёння перад совецкімі пісьменнікамі. Макар Паслядовіч, Янка Брыль і Ул. Карпаў падзяліліся з маладымі празаікамі сваім творчым вопытам і думкамі аб авалоданні літаратурным майстэрствам.**



**Удзельнікі семінара праслухалі цыкл лекцый і гутарак літаратуразнаўцаў, крытыкаў і пісьменнікаў, у тым ліку лекцыі дактароў філалагічных навук І. Гутарава — «Вобраз і сюжэт» і М. Ларчанкі — «Аб вытоках рэалізма ў беларускай літаратуры», кандыдатаў філалагічных навук Д. Палітыкі — «Шляхі павышэння агульнай культуры пачынаючых пісьменнікаў» і Ю. Пшыркова — «Мова празаічных твораў Якуба Коласа». М. Лужанін прачытаў лекцыю аб асаблівасцях мастацкай прозы Кузьмы Чорнага, А. Якімовіч — аб фальклоры беларускага народа.**

**У час нарады маладыя празаікі мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца са старэйшымі пісьменнікамі, з іх вопытам работы над творамі. Аб тым, як працаваў над раманам «Мінскі напрамак», расказаў малодзі Іван Мележ. Шмат цікавага аб рабоце над мастацкім апавяданнем расказалі Іван Грамовіч і Янка Скрыган. Удзельнікі семінара сустрэліся таксама і мелі працяглыя гутаркі з членамі рэдкалегій часопісаў «Маладосць» і «Вожык».**

**Шмат увагі на семінары было аддадзена абмеркаванню творчасці саміх маладых празаікаў з удзелам старэйшых пісьменнікаў. Многія творы, у прыватнасці, асобныя апавяданні В. Быкава (г. Гродна, В. Дайліды (Брэсцкая вобласць), М. Лапусты, Я. Каршукова (Гомельская вобласць), А. Рыбака, В. Адамчыка, А. Дзялендзіка (г. Мінск), А. Рыянтовіча (Магілёўская вобласць), атрымалі ў асноўным станоўчую ацэнку. Некаторыя з гэтых апавяданняў прыняты ўжо да друку рэдакцыямі беларускіх часопісаў.**

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў БССР на сваім пашыраным пасяджэнні, на якім прысутнічалі і маладыя празаікі, ухваліў вынікі работы семінара і вынес рашэнне ў бліжэйшым будучым правесці такія-ж семінары па іншых жанрах літаратуры — паэзіі і драматургіі. Акрамя таго, прэзідыум на гэтым-жа пасяджэнні вызначыў мерапрыемствы па далейшаму паляпшэнню работы з маладымі літаратарамі.**

# „НЁМАН“

Нядаўна Мінск атрымаў з Гродна зборнік твораў пісьменнікаў Гродзенскай вобласці — «Нёман». Чым прыцягвае ўвагу гэты зборнік? Перш за ўсё тым, што маладыя літаратары прысвяцілі свае творы жыццю і працы людзей сваёй вобласці. Чытача захапляе любоў пісьменнікаў да сіняга Нёмана, да шырокіх наднёманскіх прастораў, да залатога акіяна калгаснай збажыны. Рознастайнымі літаратурнымі формамі пісьменнікі ўслаўляюць сённяшні дзень Гродзеншчыны, якая толькі семнаццаць год таму назад пачала свабоднае, сацыялістычнае жыццё.

У зборніку асабліва вызначаюцца два творы — аповесць Аляксея Карпюка «Раманюкі» і драма Ларысы Марушка «Зарука шчасця».

Вялікую і вельмі ўдзячную задачу паставіў перад сабой А. Карпюк. Яго аповесць адкрывае перад намі новую невядомую старонку з жыцця і барацьбы ў былой Заходняй Беларусі. Падзеі адбываюцца то ў вёсцы, то ў горадзе і ахопліваюць больш як дваццацігадовы перыяд. Перад чытачом паўстае лёс трох пакаленняў сям'і вясковага багацея Раманюка. Аўтар добра ведае быт гэтай сям'і, умела паказвае воўчую псіхалогію кулака.

Чытачу запамінаецца вобраз хітрага і знаходлівага Марціна Раманюка, усё жыццё якога сагкана з падманаў, прыстасаванняў, з усяго таго, што прыносіць выгаду. Яго жыццёвай філасофіяй з'яўляецца: «пасеяць рана так капейку, каб яна табе да вечара прынесла рубель». І мы бачым, як, кіруючыся гэтай «філасофіяй», Марцін Раманюк ідзе на любую подласць, так ён выхоўвае і сваіх дзяцей.

Аўтар правільна робіць, калі не спяшаецца выкрываць сапраўдны твар гэтага чалавека. У аповесці паказана, як, карыстаючыся даверлівасцю і недальнабачнасцю некаторых нашых кіраўнікоў, кулак і здраднік Раманюк, які ўсімі сіламі ненавідзіць савецкую ўладу, пасля вайны раптам становіцца... старшынёю калгаса.

Аповесць «Раманюкі» чытаецца з цікавасцю. Аднак паступова расце крыўда на аўтара. Чаму? На маю думку, таму, што пісьменнік мноства падзей уклаў у невялікую па памерах аповесць (трыццаць пяць старонак). Адсюль яе фрагментарнасць. Замест таго, каб мастацкі паказаць тую ці іншую падзею, каб выявіць, як яна адбілася на псіхалогіі герояў, аўтар вельмі часта дае аголеныя тэзісы аб тым, што адбылося. У аповесці, па-сутнасці, няма станоўчага вобраза, ніхто не вядзе барацьбы з Раманюкамі. Спрабуе гэта рабіць яго пачка Кася, але чытач не верыць аўтару, бо дыялектыка вобраза Касі супярэчыць такой барацьбе. Пісьменнік паказвае, што Кася вучылася ў езуіцкай жаночай гімназіі, што яна «вольнай думкі ў галаву баялася дапусціць. Часамі яна заўважала несправядлівасць, але ёй прыходзіла думка: «няўжо няясна, што на небе ўсе адкажуць за свае ўчынкі?» Як Кася прыйшла да ўсведамлення таго, што трэба змагацца з такімі, як яе бацька, людзьмі, пад чыім уздзеяннем перайначыўся яе характар, аўтар амаль што не паказвае. Ва ўсякім выпадку, зроблена гэта вельмі спрошчана і непраўдападобна.




П'еса Ларысы Марушка «Зарука шчасця» прысвечана сённяшняму жыццю вясковай інтэлігенцыі. Пісьменніца стварыла напружаны сюжэт, які імкліва і праўдзіва разгортваецца. Правільна падмечаны характары і звычкі многіх настаўнікаў, каларытная мова калгаснікаў. І ўсё-ж адчуваецца некаторая лакіроўка сапраўднасці. Л. Марушка, відаць, пабаялася сказаць усю праўду аб сваіх персанажах і невядома чаму пачала іх прыхарошваць. Гэта можна прасачыць на вобразе былога заатэхніка, а цяпер бухгалтара калгаса Веры. У пачатку п'есы яна падаецца, чк лёгкадумная, пустая дзяўчына, якая толькі і ведае, што ганарыцца сваёй прыгажосцю і раскідваецца ёю. Ну што-ж, ёсць такія людзі, — згаджаемся мы з аўтарам. Пісьменніца развівае вобраз, паказваючы, што Веру прагналі з фермы за кепскую работу. Таксама натуральна. Але вось к канцу п'есы Л. Марушка па ўжо збітай схеме захацела паказаць «перабудову» Веры. І аўтар у супярэчнасці з логікай вобраза, пасылае дзяўчыну тушыць пажар на ферме, дзе яна праяўляе цуды геройства і абпаленая выносіцца з агню яе каханым. Так разбураецца цікава задуманы вобраз.

У зборніку «Нёман» надрукаваны добрыя апавяданні Васіля Быкава — «Страта» і «Тупое пяро». Яны сведчаць аб тым, што ў нашу літаратуру ідзе здольны празаік. Шкада толькі, што В. Быкаў не пазнаёміў чытача з новымі сваімі апавяданнямі, бо названыя апавяданні былі надрукаваны ў мінскіх выданнях і знаёмы шырокаму колу чытачоў.

З вялікай цікавасцю чытаецца «Кароткі нарыс гісторыі горада Гродна» кандыдата гістарычных навук Я. Мараша.

Гродзенскія журналісты А. Колас, П. Барэйка і Я. Шаірка выступілі з нарысамі аб людзях прамысловасці і сельскай гаспадаркі вобласці. У нарысе А. Коласа «Час кліча» ёсць сапраўдныя мастацкія знаходкі. Запамінаецца, напрыклад, эпізод са стомленым салдатам. А ўвогуле нарыс усё-ж такі павярхоўны. Аўтар не здолеў паказаць ні характару вядомага наватара Багдасарава, ні яго барацьбы за ўкараненне новых табачных машын.

Найбольш слабай у зборніку аказалася паэзія. Апрача вершаў П. Макаля ды М. Васілька, усе астатнія вершы вельмі рытарычныя, пазбаўленыя свежай думкі, мастацкі недасканалыя. У многіх вершах прымітыўна падаюцца людскія пачуцці. Пятро Барэйка ў вершы «Яшчэ цвітуць жыты» знаходзіць прычыну разладу паміж каханымі ў тым, што дзяўчына апераджае хлопца ў працы. І вось: «Хворы гонар мой ніяк не мог змірыцца з гэтым».

Паэты Гродзеншчыны не шукаюць свежых тэм. У творах маладых паэтаў Я. Гольскага, С. Бандарэнкі, Г. Шутэнкі, Н. Ільінскага, Я. Сідаровіча, А. Калошы не сустрэнеш сваёй адметнай, яркай думкі. Яны паўтараюць даўно знаёмыя ісціны. Аднастайнасць тэм прыводзіць да беднасці паэтычных радкоў. Так, у вершы «Равеснікам» Я. Гольскі гаворыць:

А потом свободную в наследство
Нам страну вручили в Октябре.

Літаральна гэтак-жа гаворыць у сваім вершы «Сустрэча» Н. Ільінскі:

Ведь мы таким, как он, страну
вручили,
Бесстрашным, неустанным,
молодым.

Не вызначаюцца арыгінальнасцю сатыра і гумар зборніка.

Увогуле станоўча ацэньваючы гэты зборнік, неабходна, аднак, сказаць, што гродзенскім таварышам трэба было больш строга падыйсці да падбору матэрыялу для свайго першага выдання.

**Г. ШЧАРБАТАЎ.**

# Пакуты творчасці



**Тарас ЖЫГАЛКА**

Мал. М. Лебедзевай.

— Паслухай, Жыгалка, — такімі словамі сустрэў аднойчы мяне таварыш Даўбня, — ці дужа ты заняты? Мусіць, усё пішаш?

— Ёсць такі грэх, — прызнаўся я.

— Пісаць пішаш, і крытыкаваць крытыкуеш, а вось сам, пэўна, палец аб палец не ўдарыў, каб моладзі лепш адпачывалася? Не апраўдвайся, не люблю. Лепш нагрузачку адну выканай. І не адмаўляйся. Ведаю я вашага брата.

— Ды я і не думаю адмаўляцца. Толькі...

— Ніякіх «толькі». Мы цябе ў камісію па складанню мерапрыемстваў навагодняга бала-маскарада ўключылі. Нешта накшталт сцэнарыя ці лібрэта якога напішыце.

— А як наконт масак, факелаў, касцюмаў?..

— Усё ў вашых руках. Толькі так зрабіце, каб аж у Маскве ахнулі. А як-жа! Што мы, пашахонцы якія? Значыць, так.. Ты будзеш за старэйшага.

Да гэтага ні ў якіх камісіях мне працаваць не даводзілася. Таму прапанова таварыша Даўбні мяне крыху збянтэжыла: ці змагу я выканаць такое адказнае даручэнне? Але варта мне было толькі заікнуцца пра гэтую акалічнасць, як у адказ я пачуў з дзесятак цытат аб важнасці выканання грамадскіх даручэнняў, аб карысці культурнага адпачынку...

— Ці-ж не казаў я, што ты так і стараешся ўвільнуць ад нагрузак! Так і цаляеш за спіну другога схавацца. Ну, ды што з табою зробіш... Дам я табе ў памочнікі Дзюбу. Ён навучыць, як трэба працаваць.

Працягнуўшы руку на развітанне, Даўбня пашыбаваў прэч.

Камісія з натхненнем узялася за справу. Нам хацелася, каб навагодні бал быў вясёлы, каб на ім не сціхаў смех, песні, танцы. Члены камісіі пагутарылі з моладдзю, пацікавіліся, як праводзіліся навагоднія вечары ў другіх клубах. У кожнага з нас былі свае меркаванні, прапановы і, дарэчы сказаць, неблагія. Працавалі мы з запалам, спрачаліся зацята, а калі склалі план і прачыталі яго, дык адчулі, што вечар сапраўды будзе цікавы. Мы горача пацiскалі адзін другому рукі і віншавалі з паспяховым выкананнем даручэння. Абыякавым заставаўся толькі таварыш Дзюба.

— Я, хлопцы, у гэтай справе не аднаго сабаку з'еў, — заявіў ён, калі крыху ўлеглася агульная радасць. — Нашы мерапрыемствы будуць папраўляць.

— Навошта папраўляць? — ускіпеў малады, але таленавіты пісьменнік Рыгор Дуда.

— Усіх папраўляюць, — спакойна заўважыў Дзюба. — Які-ж гэта начальнік, калі ён будзе чытаць і нічога не папраўвіць? У мяне быў такі выпадак. Тады я яшчэ не ў профсаюзе, а ў камсамоле працаваў. Паслалі нас, трох чалавек, правяраць работу камітэта кам-

# ЭПІГРАМЫ

## Драматургу К. Губарэвічу

Твае п'есы прайшлі каранцін,
І ты марыш аб новай рабоце.
Не спыніся-ж глядзі, Канстанцін,
У шляху «На крутым павароце».

## Калялітаратурнаму балбатуну

Ты выхваляешся даўно,
Што ў цябе тэм, як рыбы ў моры.
Ну, тэмы, браце мой, адно,
А дзе другое, — скажам — творы?

## Кампазітару Р. Пуксту

За вашу «Марынку» удзячны вам дзеці.
Як аўтар, вы самы шчаслівы на свеце.
А што для дарослых у вас на прыкмеце —
Не трэба так доўга трымаць у сакрэце.

## Маладому літаратару

Ісці ў літаратуру напралом, —
Не верны гэта шлях, згадзіся.
Шумі, бушуй, хвалюйся... за сталом,
А у рэдакцыях не расхадзіся.
Калі у творах дрэнныя радкі,—
Не дапамогуць кулакі.

## Паэту-тэкставіку А. Дзеружынскаму

Што за шум, што за гром
У кватэрах мінскіх —
То па радыё дае
Песні Дзеружынскі:
Ба-ба-ба, барацьба,
Грыміць бубен і труба.

## Н. Фігуроўскаму і П. Васілеўскаму,

рэжысёрам-пастаноўшчыкам кінофільма «Лес шуміць», паводле аднайменнай палескай легенды В. Караленкі.

Не зашумееў яшчэ ваш лес,
А колькі шуму і гамонкі!..
Але дарыць вам рана бэз
Або пралескі ці рамонкі.
Не дораць кветкі на павер, —
Няхай пакажа год бягучы,
Што ў вас шуміць не парк ці сквер,
А наш палескі бор дрымучы.

## Маладому плагіятару Ул. Клімянкову

На семінары маладых празаікаў у Мінску выявілася, што Ул. Клімянкоў перапісаў і прысвоіў два апавяданні саратаўскага пісьменніка Г. Баравікова.

Сабраўся ў Мінск ён, у дарогу,
Надзеў касцюм з пляча чужога,
Хадзіў, як важная асоба.
Ды раптам расхінулася аздоба,
І людзі ўбачылі не выпадкова,
Што ён абкраў Баравікова.

Ул. КОРБАН, Р. ПАДГОРНЫ, Я. ЦЫБУК,
З. БАРЫСЕВІЧ і М. ПЛЕСКІ.

---

самола будаўнічага трэста. «Ты, — кажуць, — Дзюба, хлопец вострыі А пастанова там сур'ёзная патрэбна, каб другія так не рабілі».

За сем дзён, праведзеных у трэсце, мы пабачылі такое, што пастанова пісалася сама. Мы называлі рэчы сваімі імёнамі і рабілі адпаведныя вывады.

Назаўтра прыбег я да Бесхрыбеценкі (так сакратара нашага звалі), падаў яму праект пастановы, а сам ззяю, як малады месяц. Думаю, вось зараз пахваліць.

— Не пахваліў? — здзівіліся мы.

Дзюба махнуў рукой.

— Дзе там! Спалатнеў хлопец. «Ты, — кажа, — што, з глузду з'ехаў, ці можа тэмпература ў цябе пад сорак чужых паднялася? Трэст, — пытае, — план выконвае?»

— Выконвае, — адказваю, — толькі на семдзесят працэнтаў.

— Усёроўна так нельга. Ты-ж закрэсліў работу ўсяго калектыву. Зразумеў? А трэба вось як, — і ён напісаў: «Комсамольская арганізацыя дабілася некаторых поспехаў, якія аднак былі-б большымі...»

Далей Бесхрыбеценка закрэсліў другі і трэці сказы. Я запратэставаў.

— Але-ж там ніхто не вучыцца!

— А раптам вучыцца, — усміхнуўся сакратар. — Не, ужо лепш сказаць, што ўсё-такі вучацца, ды не ўсе. Тут камар носу не падточыць.

Вось так мяне першы раз правілі... І вас правіць будуць.

— А чаго нас правіць? — зноў ускіпеў Дуда.

Дзюба з'едліва ўсміхнуўся.

— Ха! А можа вы ў масках Рыгора Сымонавіча ці Андрэя Рыгоравіча высмеяць уздумалі?

— А ты ведаеш, — спахмурнеў раптам Дуда, — і сапраўды, маска бюракрата трохі будзе падобна на Рыгора Сымонавіча. Яшчэ раззлуецца... Самі-ж ведаеце, які ён: крытыкі не любіць. Давайце, хлопцы, не будзем маскі бюракрата ўводзіць. Абыйдземся як-небудзь.

— Гэта яшчэ поўбяды. А мы вунь намецілі светавую газету, — хітра падміргнуўшы, зноў пачаў Дзюба.

— Дык-жа добрая справа!

— Яно, канешне, так. Але каго вы збіраецеся крытыкаваць? Цётку Агату, прыбіральшчыцу?

— Чаму, можна і вышэй узяць, — запярэчыў Дуда. — Напрыклад, Беладончыкаву. Вечна тэлефон заняты! Яна-ж не працуе, а са сваімі кавалерамі перагаворы вядзе.

Дзюба падміргнуў.

— Вось у тым і справа. А чаму яна так робіць? Бо ведае, што ёй ніхто заўвагу не зробіць. Калі што якое — яна да Андрэя Рыгоравіча...

— Да Андрэя Рыгоравіча?..

— А як-жа, ён ёй дзядзькам прыходзіцца.

— Давайце, хлопцы, без светавой газеты, — сказаў Дуда. — Клопатаў з ёю многа, ды і ў пажарных адносінах небяспечна...

Дзюба між тым браў пункт за пунктам і знаходзіў у іх такое, што Дуда толькі паспяваў гаварыць:

— Давайце, хлопцы, і гэты пункцік ліквідуем.

Нарэшце, калі апошні пункт быў выкрэслены і мы распачліва паглядалі адзін на другога, пытаючыся, што рабіць, Дзюба павярнуў справу на сто восемдзесят градусаў.

— Хочаце,— сказаў ён,— каб гэты план прайшоў поўнасцю?

— Вядома, — хорам заявілі мы.— Цудоўны-ж план!

— Толькі папрацаваць прыдзецца. Мы згадзіліся. Дзюба ўзяў план, і мы панеслі яго да Даўбні. Той узяў яго і, не пагледзеўшы нават, сунуў у шуфляду стала.

Назаўтра мы сядзелі ў цесным кабінеце профсаюзнага дзеяча. Ён выцягнуў з той-жа шуфляды наш план, перагартаў яго.

— Колькі вы працавалі над планам, — запытаўся начальнік.

— Вечар... адзін вечар.

— Яно і відаць... Думкі няма, палёту. Папрацуйце яшчэ крыху.

Мы зноў узяліся за справу. План толькі распух, але ніколькі не палепшаў. Даўбня зноў перагартаў яго і з важнай задумлівасцю сказаў:

— Весялосці мала... І яшчэ: у вас дрэнна адлюстраваны пафас працы. Падумайце, хлопцы, час яшчэ цярпіць.

І мы зноў думалі. Трэці раз нам сказалі ўлічыць некаторыя моманты міжнароднага становішча, у чацвёрты — пастанову горсовета аб правядзенні масавых мерапрыемстваў, у пяты — інструкцыю па супроцьпажарнай ахове, у шосты — прапанавалі скараціць план.

Мы страцілі надзею ўбачыць свой праект навагодняга бала-маскарада ажыццёўленым.

— Скарачай, Дзюба, як хочаш, а мы — пас, — заявіў Дуда. — За гэты час кіносцэнарый напісалі-б...

Дзюба зноў хітра ўсміхнуўся, падміргнуў нам.

— Не вешайце, хлопцы, галовы. Усё ў парадку будзе. Прыходзьце заўтра.

І зноў мы сядзелі ў цесным кабінеце Даўбні. Ён гартаў наш план і задаволена чмыхаў носам.

— Ну, вось цудоўна. Выдатна. Папрацавалі і вынікі відаць. Малайцы, хлопцы. Цяпер па гэтаму плану ўсё і арганізуйце. На вас спадзявацца можна.

Я зазірнуў у план. Гэта быў наш першы варыянт.




**пад рэдакцыяй майстра спорту А. СУЭЦІНА**

# Шахматы ў жыцці В. І. Леніна

В. І. Ленін з дзіцячых год цікавіўся шахматамі і ўдзяляў ім значную частку свайго вольнага часу. Брат В. І. Леніна Д. І. Ульянаў у сваіх успамінах піша: «Займацца шахматамі Владзімір Ільіч пачаў год з 8-мі—9-ці. Іграў з бацькам, які быў яго першым настаўнікам, са старэйшым братам, Аляксандрам Ільічом. Потым пачаў іграць з намі, малодшымі — сястрой Вольгай і са мною».

Пазней у цяжкіх умовах сібірскай ссылкі В. І. Ленін у вольны ад работы час нярэдка іграў са ссыльнымі марксістамі. Яго сталымі партнёрамі былі П. Н. Лепешынскі, Г. М. Кржыжаноўскі.

Г. М. Кржыжаноўскі пісаў: «Владзімір Ільіч не піў, не курыў, але быў вялікім аматарам марознага чыстага паветра, хуткай хадзьбы, бегу на каньках, шахматаў і палявання. І які-ж гэта быў вясёлы, жвавы і таварыскі чалавек у гадзіны такога адпачынку на свежым паветры або ў працэсе бітвы за шахматным столікам». З Лепешынскім Ленін іграў таксама часта па перапісцы.

Пазней, калі ў лістападзе 1917 года Лепешынскі сустрэўся з Леніным у Смольным і, прыгадаўшы старыя «бітвы», зноў прапанаваў «сыграць калі-небудзь у шахмацішкі», Ленін весела засмяяўся і сказаў: «Не, цяпер ужо не да шахматаў. Іграць больш, відаць, не прыдзецца». Владзімір Ільіч улічваў, што з гэтага моманту кожная хвіліна яго часу, усе яго сілы павінны цалкам пайсці на вялікую справу, пачатак якой быў пакладзены ім самім, стваральнікам першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы.

З успамінаў сучаснікаў вынікае, што Ленін быў добрым шахматыстам і іграў, прыкладна, на ўзроўні нашага 1 разраду.

П. Н. Лепешынскі падкрэслівае творчыя здольнасці В. І. Леніна: «...Гэтую ігру ён любіў таксама палка, як і Маркс. Яна найбольш адпавядала яго здольнасці неўтаймаванага барацьбіта, які павінен абавязкова атрымліваць верх над тым ці іншым праціўнікам. Апрача таго, яна давала выхад яго невычэрпнай творчай энергіі — адпавядала патрэбам яго, калі толькі так можна сказаць, ні на адну хвіліну не сціхаўшага творчага свербу...

... У ігры Ільіча адчувалася заўсёды ўпартая магутная думка. Ён не адмаўляўся і ад тых шаблонаў, што прапануюцца ў шахматных катэхізісах у якасці выпрабаваных, правільных дэбютаў. Але вось раптам яго думка робіць рашучы скачок у бок ад прадугледжаных катэхізісам рацэптаў, і ён ставіць праціўніка ў тупік сваім надзвычай арыгінальным ходам. Гэта значыць, што ён задумаў нейкую нечаканую кампанію, якую будзе ўпарта праводзіць ход за ходам, выяўляючы ўсе вынікі ідэі, якая ў яго з'явілася».

Владзімір Ільіч вельмі любіў таксама шахматную кампазіцыю, добра рашаў задачы і эцюды.

Прыводзім наступныя дзве задачы, якія Ленін хутка рашыў (першую, напрыклад, за 5 мінут), не перасоўваючы фігур.

**Задача П. Н. Лепешынскага**

Мат у 3 ходы.

Б. Кра6, Лс8, Сb1; пп. с3, d2, f4, g5 (7)

Ч. Кра8, Сb8; пп. а3, с4, d6, f5, g6 (7).



**Задача Д. І. Ульянава**

Мат у 2 ходы.

Б. Крf3, Фа7, Лd8, Сh3; пп: b5, с3 (6)

Ч. Кре5, Се7, Кс8; пп: d5, с5 (6).



Прапануем чытачам знайсці рашэнне гэтых задач.

# КРАСВОРД „Літаратура і мастацтва"

Склаў Я. КАГАНЕР

**Па гарызанталі:** 1. Карціна І. Левітана. 4. Геніяльны англійскі драматург. 6. Вялікі галандскі мастак. 7. Нямецкі паэт. 9. Опера Д. Вердзі. 10. Раздзел з аповесці Лермантава «Герой нашага часу». 12. Класік амерыканскай літаратуры. 15. Опера Пучыні. 17. Песня Бетховена. 18. Герой апавядання М. Горкага. 20. Совецкі дырыжор. 22. Французскі пісьменнік-сатырык XVI стагоддзя. 23. Вялікі рускі паэт. 24. Раман Драйзера. 25. Першы зборнік вершаў Н. Тіханава. 27. Совецкі скрыпач. 29. Выдатны совецкі кампазітар. 31. Французскі мастак-комуніст. 32. Народны паэт Латвіі. 34. Сатырычная п'еса Маякоўскага. 36. Паэма Байрана. 39. Совецкі мастак. 40. Вядомая совецкая артыстка. 41. Паэма Я. Коласа. 42. Рускі паэт.

**Па вертыкалі:** 1. Апавяданне І. Тургенева. 2. П'еса А. Карнейчука. 3. Сучасны нямецкі драматург. 4. Выдатны венгерскі скульптар. 5. Опера Даргамыжскага. 7. Вялікі нямецкі кампазітар. 8. Украінскі совецкі пісьменнік. 9. Рускі мастак. 11. Раман М. Ауэзава. 13. Вялікі грузінскі паэт. 14. Камедыя Фанвізіна. 16. Вялікі рускі кампазітар. 18. Французскі кампазітар. 19. Опера С. Рахманінава. 20. Вядомы бельгійскі кампазітар. 21. Вялікі рускі мастак. 26. Аповесць Я. Маўра. 28. Раман Р. Тагора. 29. Твор М. Мусаргскага. 30. Вялікі французскі пісьменнік. 31. Паэма А. Пушкіна. 33. Рускі кампазітар. 35. Совецкі кампазітар. 37. Вядомы амерыканскі спявак. 38. Скульптура М. Антакольскага.



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак часопіса «У дапамогу політэхнічнаму навучанню».**

## У поўнач пад Новы год

**За навагоднім сталом сабралася моладзь. Настала тая цішыня, якой заўсёды развітваюцца з апошняй хвілінай года, што прайшоў.**

**Радыё адчувальна даносіла дыханне Краснай плошчы і, нарэшце, бой крэмлёўскага гадзінніка дванаццаццю ўдарамі адзначыў пачатак Новага года.**

**Сказаны Новагодні тост, і зноў ліецца перарваная гаворка, пачатая яшчэ ў мінулым годзе.**

**— Паслухай, Коля, — звярнуўся малады чалавек да свайго суседа,— ты толькі што перавёў стрэлку свайго гадзінніка. Што, ён адстае ў цябе?**

**— Так, за пяць дзён адстаў на тры мінуты.**

**— Ну вось, а мой гадзіннік за пяць дзён на дзве мінуты ўперад забег. Давай падлічым, праз які час твой і мой гадзіннік, калі іх не падводзіць, пакажуць разам адначасова правільны час?**

**— Не, Міша, — адказаў Коля, які таксама быў вялікім прыхільнікам матэматыкі, — я прапаную іншыя ўмовы задачы: у які дзень і час мы павінны абодва правільна паставіць нашы гадзіннікі, каб яны адначасова паказалі правільны час у 24-00 пры сустрэчы наступнага Новага года, або, правільней, аднаго з іх?**

**Міша згадзіўся, і сябры ўглыбіліся ў разлікі.**

**Паспрабуйце і вы, чытачы нашага часопіса, зрабіць гэтыя разлікі і адказаць на пытанне задачы, якую прапанаваў Коля.**

**Склаў задачу С. БЯССОНАЎ.**

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.XII.56 г. Падпісана да друку 29. XII. 56 г.

АТ 01407. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 874.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# У масках і без масак

Мал. І. Атраховіча



— Якая цікавая маска бюракрата!
— Ды не, гэта яго сапраўднае аблічча.



Без слоў.





На парадку дня пасяджэння — пытанне аб культуры і чысціні рабочага месца.



А гэта пасля пасяджэння...





«Я за...





На фотакартцы.



...і ў жыцці.



...бацькавай спіной».











